...е арыі ўсіх краёў, злучайцеся!



# Савецкая Краіна



...істапад
...ьнежань

№ 1-2 (11-12)

Орган Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук

1930

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАіНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ

**ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ**

№ 1—2 (11-12).

МЕНСК — 1930

# „Савецкая Краіна"—барацьбіт за савецкае краязнаўства.

Контр-рэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмократызм сплёў сабе моцнае і цёплае гняздо ў Беларускай Акадэміі Навук. Пры праступным папусьціцельстве нацыянал-опортуністых з былога кіраўніцтва Акадэміі і Наркамасьветы—Ігнатоўскага, Баліцкага, Бялугі і іншых, якім партыя даручыла ідэолёгічны фронт і якія нагла абманулі партыю і ня справіліся з даручанай ім справай, беларускі нацыянал-дэмократызм—гэты непасрэдны агэнт фашыстоўскага імпэрыялістычнага захаду, прэўраціў катэдры і інстытуцыі Акадэміі Навук у свае трыбуны, з якіх пропагандыраваў і рабіў сваю брудную контр-рэволюцыйную справу падрыхтоўкі інтэрвэнцыі супроць СССР.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук ня ў прыклад іншым інстытуцыям—замкнутым ня масавым—было трыбунай для масавай пропаганды контр-рэвалюцыйнай справы сярод вясковай інтэлігенцыі, студэнцкай і вучнёўскай моладзі і інш. праз мясцовыя краязнаўчыя таварыствы. Праз гэтыя таварыствы і праводзіў свой контр-рэволюцыйны ўплыў на масы беларускі нацыянал-дэмократызм. Рупарам сваёй агіднай падрыўнай работы яны выбралі краязнаўчы штомесячнік часопіс „Наш Край", у якім праводзілі адчынена варожую пролетарыяту, савецкай уладзе, соцыялістычнаму будаўніцтву буржуазную ідэолёгію, пры папусьціцельстве і тут нацыянал-опортуністых Казака і Бялугі—былых членаў рэдколегіі часопісу.

Асноўнаю ўстаноўкаю гэтага часопісу „Наш Край" былі не задачы соцыялістычнага будаўніцтва, не задачы мобілізацыі мас на гэтае будаўніцтва, ня ўдзел і ўплыў на рост вытворчых сіл у соцыялістычным напрамку, не актуальныя задачы індустрыялізацыі прамысловасьці і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, адным чынам не задачы пастаўленыя Кастрычнікавай рэволюцыяй для няўхільнага вырашэньня, а задачы контр-рэволюцыйныя ў выглядзе агульна-беларускага, агульна-нацыянальнага „бесклясавага" адраджэньня, курс на самавызначэньнекапіталістычнай Беларусі ў выглядзе БНР пад протэктарыятам фашыстоўскай Польшчы, курс наліквідаваньне БССР, курс на Беларусь панскую, кулацкую, капіталістычную.

У „сьвеце" гэтых задач будзе напэўна зразумелай тая акалічнасьць, што для беларускіх контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократаў няма начал адраджэньня ў Кастрычнікавай рэволюцыі, адбыўшайся пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі патугамі пролетарыяту пры дапамозе і падтрыманьні сялянства, што для нацыянал-дэмократаў няма пытаньня гэгэмоніі пролетарыяту, а ёсьць „нашаніўскае адраджэньне", якое па думцы беларускай контр-рэволюцыі адбылося задоўга да Кастрычніка 1917 году. Але-ж, аналізуючы гэтае „адраджэньне" нават павярхоўна,

трэба заўважыць усё буржуазнае, анцісавецкае, анціпролетарскае нутро гэтага праславутага „адраджэньня“. Гэта яскрава выражаецца ў наступных словах установкі „Нашай Нівы“, якая без усялякіх зьмен васпрынялася беларускімі контр-рэволюцыйнымі нацдэмамі: „Наша Ніва“ лічыла, што „кожны лёгка зразумее, якую цану павінна мець для *нас кожная беларуская асобнасьць*, (падкрэсьлена мною—Ф. С.) дзе-б яна ні спаткалася, ці то як прыкраса, ці як форма грамадзкага жыцьця; усюды, дзе-б мы ні спаткалі гэту родную асобнасьць, орыгінальнасьць, мы павінны берагчы і захоўваць, а хто дуж — *разьвіваць і шырыць*“ (падкрэсьлена мной — Ф. С.). Вось чаму ўся ўстаноўка часопісу „Наш Край“ як рупара нацдэмаў у краязнаўстве заместа соцбудаўніцтва, социялістычнага разьвіцьця вытворчых сіл, заместа ўдзелу краязнаўцаў у актуальных пытаньнях індустрыялізацыі прамысловасьці і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, замест мобілізацыі краязнаўцаў да гэтага ўдзелу, заместа ўцягненьня мас рабочых, батрацтва, колгасьнікаў, беднаты і серадняцтва ў краязнаўчую працу ў краязнаўчыя організацыі, — стаўка на інтэлігенцыю ў надзеі, што цёмная маса сялянства Беларусі пойдзе за сваёй інтэлігенцыяй, стаўка на старажытнасьць, мінуўшчыну Беларусі з мэтай адцягненьня ўвагі мас ад актуальных задач социялістычнага будаўніцтва, з мэтай прытупленьня клясавага пачуцьця, бо, пераказваючы іншымі словамі прыведзеную вышэй установку „Нашай Нівы“, савецкі друкаваны орган „Наш Край“ кажа: „Па сялянскіх палескіх хатках крыецца бязьмернае багацьце народнага орнамэнту ў дрэве, тканінах і вырабах з кары... Запісаць слова ў слова так, як пяецца песьня, нічога не перарабляючы, не адкідаючы і не дадаючы, ды стараючыся аддаць у запісі выгавар і ўдарэньні... Вялікую заслугу зрабілі-б людзі, каб запісалі ўсё, што ведаюць аб бэтлейках, ясьлях, „казе“, „мядзьведзю“, „цыганох“ і г. д., у каторых адбілася і этнографія нашага краю, і гумар, і псыхіка нашага народу“... Адсюль зразумела, чаму краязнаўства ў БССР да гэтага часу ганялася за старажытнасьцю, мінуўшчынай, капалася ў пылу і брудзе цэркваў, касьцёлаў, сынагог, упускаючы пытаньні социялістычнага будаўніцтва.

У галіне спэцыяльна-экономічных твораў часопіс „Наш Край“, выходзячы з агульнай указанай вышэй установкі, імкнуўся паказаць усяк перавагу капіталістычнага способу гаспадараньня над социялістычным. Беларуская „кандрацьеўшчына“ ў форме кулацкай зямельнай і сельска-гаспадарчай палітыкі Наркамзему—так званая „прышчэпаўшчына“ з захлёбваньнем пропагандыравалася нацдэмамі на старонках „Нашага Краю“. Кісьлякоў у артыкуле „Тып сялянскай гаспадаркі“, Квяткоўскі „Фатыньская гаспадарка і яе значэньне“, Самцэвіч у артыкуле „Вывучэньне вёскі—неадкладная задача краязнаўчых організацый“ наперабой пропагандыруюць, даводзяць перавагі адзінаіічнай хутарской капіталістычнай гаспадаркі, якая разьвязвае максымальна ініцыятыву селяніна-адзінаіічніка, наперабой навучаюць селяніна кіраваць такою гаспадаркай, Кісьлякоў дагаварыўся, што адзінай перашкодай разьвіцьцю такое гаспадаркі зьяўляецца тое, што дзяржава бярэ з яе падатак. Вынік з гэтага адзін, каб даць поўную мажлівасьць росту капіталістычнай сельскай гаспадарцы, дзяржава не павінна браць падатку з яе.

У гэты-ж пэрыод нацдэмы на старонках „Нашага Краю“ гавораць і аб сельска-гаспадарчай коопэрацыі, але-ж разумеюць яе і даводзяць аб гэтым чытача, не як шлях социялістычнай перапрацоўкі сельскай гаспадаркі, згодна ленінскага коопэрацыйнага пляну, а ўкладваюць

у сельска-гаспадарчую коопэрацыю чыста сваё капіталістычнае разуменьне, што аб'яднаньне ў с.-г. коопэрацыю „дапамагае селяніну выгадней прадаць вынікі свайго індывідуальнага гаспадараньня праз правядзеньне шляхам нязначнай апрацоўкі продуктаў у больш каштоўны выгляд".

Характэрна адзначыць, што пэрыод „прышчэпаўшчыны" на БССР быў пэрыодам росквіту экономічных твораў нацдэмаў, пэрыод разгрому „прышчэпаўшчыны", пераход на рэйкі рашучага соцнаступленьня выклікаў заняпад, убогасьць, умаўчаньне ў творах соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта, зразумела, ні чуць не азначала зьмену ўстаноўкі, адмаўленьне ад свае контр-рэволюцыйнае нацдэмаўскае концэпцыі, гэта азначала толькі, што нацдэмы перайшлі на іншую тактыку змаганьня, перайшлі на шлях непасрэднай дапамогі польскаму фашызму організаваць інтэрвэнцыю супроць СССР. Нацдэмы зьмянілі формы і мэтоды барацьбы. Экономічныя іх творы ў часопісу „Наш Край" былі ўбогімі, бескаштоўнымі і бескарыснымі пералічэньнямі і апісаньнямі зьяў і фактаў.

Зразумела, з усяго сказанага тут вынікае, што да апошняга часу часопіс „Наш Край" быў шкодным для пролетарскай БССР, для соцыялістычнага будаўніцтва органам і магутным рупарам і пропагандыстым контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх установак, плыняў і поглядаў, быў зброяй для змаганьня нацдэмаў з савецкай сыстэмай за капіталістычную Беларусь. Вось чаму зразумела, што пасьля выкрыцьця нацдэмаўскае работы, пасьля таго, як пролетарыят і сялянства краіны пад кіраўніцтвам сваёй комуністычнай партыі стала на шлях рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў краіне і ў тым ліку карэньняў капіталізму на ідэолёгічным фронце, мы павінны адмовіцца ад часопісу „Наш Край", мы павінны ўтварыць свой бальшавіцкі штомесячны краязнаўчы часопіс „Савецкая Краіна".

Чым павінен быць наш новы друкаваны бальшавіцкі, штомесячны краязнаўчы орган?

Ён павінен быць у руках пролетарыяту магутнай бальшавіцкай зброяй па перадзелцы краязнаўчай працы ад дробна-буржуазнага „культуртрэйгерства", якой яна па сутнасьці была ў руках беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, да ўзьняцьця яе на ступень актыўнай барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва краіны. Ён павінен мобілізаваць масы пролетарыяў, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты і лепшай часьці серадняцтва да шырокага ўдзелу ў краязнаўчай рабоце, клікаць, прыабшчаць гэтыя масы да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычнай перадзелцы краіны. Ён павінен дапамагчы перабудаваць краязнаўчую работу па-новаму вытворчаму прынцыпу—краязнаўчыя ячэйкі па фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах.

Часопіс „Савецкая Краіна" павінен быць ваяўнічым барацьбітом з рэшткамі беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, у навуцы, у практычнай рабоце па соцыялістычнаму будаўніцтву краіны, ваяўнічым барацьбітом за пролетарскую навуку, за пролетарскую культуру.

Часопіс „Савецкая Краіна"—павінен быць практычным памочнікам масавага краязнаўца—рабочага, колгасьніка, батрака, бедняка і серадняка, вясковага інтэлігента, студэнта ВНУ, вучня—па непасрэднаму ўдзелу ў вывучэньні вытворчых сіл краіны, практычным кіраўніком і паказчыкам, што і як трэба зрабіць для посьпеха соцыялістычнага будаўніцтва.

Часопіс „Савецкая Краіна" на сваіх старонках павінен даць яскравы кірунак, чым павінны займацца краязнаўчыя організацыі на мясцох,

што павінны яны вывучаць з мінулага, старажытнага, што павінны яны ўзяць адтуль для пасоўваньня наперад справы соцыялістычнага будаўніцтва. Вывучэньне вопыту соцыялістычнага будаўніцтва на фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах і пашырэньне гэтага вопыту, вывучэньне карысных выкапняў у БССР і знаходжаньне шляхоў іх скарыстаньня ў інтарэсах соцыялістычнага будаўніцтва, вывучэньне і пропаганда элемэнтаў новага соцыялістычнага быту і культуры, — павінны заняць належнае месца на старонках часопісу „Савецкая Краіна“.

Часопіс павінен стаць і быць любімым дзецішчам масавага краязнаўца, масавым бальшавіцкім друкаваным органам, на старонках якога кожны з іх знойдзе месца, каб падзяліцца вопытам працы, атрымаць параду па цікавячаму кожнага пытаньню, практычнае ўказаньне на кожны дзень, пэрыод свае працы.

Гэтага часопіс „Савецкая Краіна“ дасягне ў выпадку актыўнага масавага ўдзелу краязнаўцаў, фабрык, заводаў, колгасаў, саўгасаў і вёсак у яго выданьні праз дасылку допісаў па актуальнейшых пытаньнях штодзённае працы па будаўніцтву соцыялізму.

Будзем спадзявацца, што часопіс „Савецкая Краіна“ патугамі шырокіх мас вельмі хутка падніме краязнаўчую працу на такую вышыню, на такі этап, якія вымагаюцца сучасным станам соцыялістычнага будаўніцтва.

*Ф. П. Садоўскі.*

---

**В. Серафімаў.**

# За савецкае краязнаўства.

*(Становішча і задачы краязнаўчай працы).*

Да сягонешняга дня работа краязнаўчых організацый не адпавядала соцыялістычнаму будаўніцтву, не адпавядала задачам пролетарскай дыктатуры. У абсолютнай сваёй большасьці краязнаўчыя організацыі, знаходзячыся пад уплывам нацыянал-дэмократаў, праводзілі варожую рабочай клясе лінію. Караязнаўчыя організацыі, як і ўся Беларуская Акадэмія Навук, не зьяўляліся барацьбітамі за пролетарскую навуку, за пролетарскую культуру па зьместу і нацыянальную па форме. Самы склад краязнаўчых організацый таксама быў нездавальняючым: у ім зусім адсутнічала пролетарскае ядро, ня было колгасьніцкай і бядняцка-серадняцкай масы. Краязнаўчая праца ў сваёй установцы была чужой шырокім працоўным колам.

Яскравым докумэнтам, характарызуючым установку краязнаўчай працы, зьяўляўся орган ЦБК „Наш Край“. Зараз брыгады катэдры марксызму і ленінізму распачалі работу па праверцы прац Акадэміі і ў хуткім часе мы будзем мець поўны малюнак шкодніцкай і контррэволюцыйнай працы нацдэмаў у БАН.

Працуе спэцыяльная брыгада і над выданьнем ЦБК над часопісам „Наш Край“. Але ўжо сягоньня можна даць ацэнку тэй варожай установцы, якую адыгрывала Беларуская Акадэмія Навук, а раней Інбелкульт у рабоце краязнаўчых організацый і іх органу „Наш Край“.

Ужо ў артыкуле ад рэдакцыі першага нумару нічога не гаворыцца аб тым, чым павінен быць друкаваны орган пры пролетарскай дыктатуры. Тут няма ніводнага слова аб тым, што часопіс павінен мобілізаваць масы вакол выкананьня дырэктыў партыі, што ўся работа павінна праходзіць у барацьбе за пролетарскую ідэолёгію. Пачынаючы ад першых сваіх друкаваных „твораў“ Акадэмія Навук, а раней Інбелкульт, праводзяць ў сваёй працы ідэі нац.-дэмократызму. У ўступным артыкуле ад рэдакцыі першага нумару „Нашага Краю“ даецца нацыянал-дэмократычная ўстаноўка часопісу, што „вольная Беларусь, пашыраная ў сваіх межах, мае магчымасьць *пазнаць сябе*. Высьвятленьне па-новаму старых куткоў нашай мінуўшчыны“. Не на грунце социялістычнага будаўніцтва, не на грунце клясавай барацьбы пролетарыяту за пролетарскую культуру павінна разгортвацца краязнаўчая праца, а на грунце высьвятленьня старых куткоў па-новаму. У краязнаўчай працы нацыянал-дэмократы бяруць устаноўку „Нашай Нівы“, якая смакуецца „Нашым Краем“. „Наша Ніва“ лічыла, што „кожны лёгка зразумее, якую цану павінна мець для нас кожная беларуская асобнасьць, дзе-б яна ні спаткалася, ці то як прыкраса, ці як форма грамадзкага жыцьця; усюды, дзе-б мы ні спаткалі гэтую родную асобнасьць, орыгінальнасьць, мы павінны берагчы і захоўваць, а хто дуж—разьвіваць і шырыць“.

Нацыянал-дэмократызм нагла выяўляе свой контр-рэволюцыйны твар. У 1926 г. у „Нашым Краі“ таксама ў перадавым артыкуле пад досыць адчыненай назвай „Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі“ (Д. Васілеўскі) ужо больш „яскрава“ ставіцца пытаньне аб „задачах краязнаўчай працы“. Як бачна з загалоўку ад 1826 г. па 1926 г. на Беларусі нічога асаблівага ў краязнаўчай працы і ў жыцьці ня здарылася. Краязнаўчая праца пры дыктатуры пролетарыяту гэта зусім старая справа, якая беларусамі распачата сто гадоў таму назад і якую „вольная Беларусь“ павінна працягваць. Хто-ж з „беларусоў“ увайшоў у гэта „сталецьце“, справу каго нашы маладыя краяведы павінны працягваць. А тут вось такія краязнаўцы, як буйная шляхта, якая занялася апісаньнем паветаў з іх помнікамі старажытнасьцяй. „У літаратуры пачалі зьяўляцца выхадцы з мяшчан і духавенства Беларусі, распачала сваю працу гандлёвая Беларусь“. „У палове XIX сталецьця Беларусьсю цікавіцца вайсковае міністэрства царскага ўраду“, а „III-е отделение собствен. ЕИВ канцелярии“ выдае кніжку вайсковага міністэрства „О примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся“. Вядомая рэч, што магла „присовокуплять“ царская ахранка, якія „краязначыя матар'ялы“ патрэбны былі жандармэрыі аб беларусах. *Але-ж гэтая кніжка, погляду нац.-дэма з „Нашага Краю“* „дае досыць поўны агляд гісторыка-экономічнага жыцьця гарадоў і мястэчак Віцебскай і Магілеўскай губэрняў“. Таксама „афіцэры генэральнага штабу пільна працавалі і з 60-х гадоў пачалі зьяўляцца ў друку іх „труды“, вучонымі рэдактарамі якіх тут былі губарнатары: у Віцебскай губэрні князь Доўгарукаў, а па Магілеўскай губ. віцэ-губарнатар Дамбавіцкі“. „Губарнатарскія выданьні ня згубілі сваёй вартасьці і ў нашыя дні“. „Дзейнасьць статыстычных камітэтаў на Беларусі заслужыла ўвагу *сучасных краязнаўцаў*, пад фірмай статыстыкаў працавалі прыв'ярджэнцы Беларусі, якія часта любілі сваю бацькаўшчыну і шчыра працавалі на карысьць роднага краю“. У 80—90-х гадох *аднымі з выдатных краязнаўцаў лічацца вядомыя ў Беларусі Даўнар-Запольскі, Карскі*

*і другія*. „У Вільні пачала друкавацца—„Іскарка Адраджэньня“, „Наша Доля“, „Наша Ніва“, залажыліся выдавецкія суполкі. Працоўныя пачалі вывучаць Беларусь на карысьць яе культуры“. „Варушэньне рабочага люду Беларусі пачула беларуская інтэлігенцыя розных колераў“. Гэта было ўжо на перавале да 1905 г. І вось гэта „рознакалёрная інтэлігенцыя“ пачынае ўтвараць краязнаўчыя організацыі і на яе вялікую радасьць і ў падзяку ёй за тое, што яна „пачула варушэньне“ рабочага люду ў красавіку 1905 году міністар асьветы Глазаў зацьвердзіў „Устав общества изучения Белорусского края“ Гэта концэпцыя ворага пролетарскае клясы, які ўпорна і абнаглеўшы дзейнічае на тым вучастку, дзе ён зьвіў сабе моцнае гняздо. Пералічанай пляядай „краязнаўцаў“ тыпу ахранкі, „барацьбітоў“ за беларускую культуру, у якіх павінны вучыцца нашы краяведы, па заданьнях „Наш Край“ не абмяжоўваецца. У 1912 г. у Віцебску засналася „Церковно-археологическое общество“, якое мела на мэце вывучэньне гістарычнага мінулага праваслаўнай царквы на Віцебшчыне“. Гэтае таварыства прыняло ў парадак царкоўны музэй. „Вайна надта шкадліва для дзейнасьці сапраўдна беларускіх таварystваў і гурткоў у Вільні і ў Менску. Большасьць членаў працаўнікоў апынулася ў шэрагах царскай арміі. Вайна нішчыла апошнюю спадчыну беларускай культуры; асабліва шкоднай была эвакуацыя Вільні. Шмат помнікаў старажытнасьці загінула ў час перавозкі ў Маскоўшчыну“. Гэта было ў 1914—1917 гг., а як-жа адбілася Кастрычнікавая рэволюцыя, а таксама дрэнна. Тут таксама праліта сьляза *па загінуўшай* культуры ў Кастрычнікавую рэволюцыю: „у пажары грамадзянскай вайны загарэлася панскае дабро і разам з імі тыя рэшткі беларускай культуры, якія захоўваліся па маёнтках ад старадаўшчыны.“ І вось гэту загінуўшую панскую рабскую культуру, якая згарэла ў агні грамадзянскай вайны, і на разваліна якой пролетарыят будуе сваю культуру, культуру соцыялістычных фабрык, заводаў, сталінбудаў, культуру саўгасаў і колгасаў, контр-рэволюцыйная нацыянал-дэмократыя імкнецца „адраджаць“; гэтай панскай культурай, па якой плачуць усе ворагі дыктатуры пролетарыяту, імкнуцца адурманьваць галовы працоўным масам Беларусі, па програме нац.-дэмократаў яе павінны вывучаць і па ёй будаваць жыцьцё: „раённае таварыства,—пішацца таксама ў гэтым артыкуле,—краязнаўчыя гурткі растуць з кожным днём, але спадчына мінулага выхаваньня прыцiскае спачатку кожнае краязнаўчае таварыства, кожнага краязнаўца. Міжвольна думкі ідуць назад, а ня ўперад“. І так лёзунг буржуазнай культуры і буржуазнай навукі назад, а ня ўперад, між тым як ленінская ўстаноўка заключаецца ў тым, каб узяўшы ад старой культуры ўсё лепшае патрэбнае і адкінуўшы ўсё дрэннае рабскае, пабудаваць сваю новую пролетарскую культуру.

Вядомая рэч, што Інбелкульт, БАН, ЦБК, усё кіраўніцтва іх з усёй контр-рэволюцыйнай нацыянал-дэмократычнай устаноўкай змагалася не за лінію бальшавіцкай партыі, а за сталыпіншчыну, за прышчэпаўшчыну, за хутарызацыю, за кулака, за „высьвятленьне па-новаму старых куткоў нашай мінуўшчыны“. Вось характэрны абразок гэтага „мінулага сталыпінскага ў нашай нядаўняй кандрацьеўшчыне на Беларусі: „выдатным, вельмі цікавым і навучальным кутком у Лепельшчыне і бадай ва ўсім нашым краі трэба прызнаць фальварак Фатынь“. У кулака гэтага фальварку Язэпа Мароза „ў 1890 годзе коняй было старых—8, кароў—15 і маладняк, але праца звычайна

ішла, як і раней, па сыстэме трохпольнага севазвароту. Толькі з 1900 году Язэп Мароз зусім узмацніўся, меў ужо каля 40 шт. кароў і каля 12 сталых коняй. З таго году ён пачаў зьмяняць севазварот, але ня так хутка. Перш-на-перш ён пачаў сеяць канюшыну, віку і інш. Потым пачаў весьці гаспадарку выключна паводле кніг, якія выпісваў ад професароў і іншых культурна-гаспадарчых устаноў. З 1900 да 1903 г. Язэп Мароз і яго сыны пасадзілі з уласных гадавальнікаў каля 8 дзесяцін саду. Пладовых ужо пладаносных, але яшчэ маладых дрэў, ёсьць больш за 3.000 штук. Груш, яблыкаў налічваецца болей як сто гатункаў. Капуснай расадай гаспадар здавальняў усю аколіцу. Да яго прыяжджалі сяляне за 30 вёрст купіць добрага гатунку расады. У пасецы налічваецца вульляў больш за 40. Нанятых усяго трое. Таварыш Мароз (!) паказаў усім сялянам, як трэба весьці гаспадарку, карыстаючыся навукай" („Наш Край" № 9-10). Вось тая культура, за якую змагаліся нацыянал-дэмократы ў Беларускай Акадэміі Навук, вось тая культура, за якую ратаваў і змагаўся „Наш Край".

Бясспрэчна, што ўся гэта работа ўмацоўвалася вядомым нам усім Кісьляковым, які таксама ў сваіх творах „Тып сялянскай гаспадаркі" пусьціў сьлязу, што „падаткам пакрыўдзілі такіх „культурных гаспадароў", як Мароз, і што будова гаспадаркі залежыць ад юрыдычных умоў (права землякарыстаньня, права найму, арэнды, дадатковая працоўная сіла і г. д.). Кісьлякоў і за „коопэрацыйныя арганізацыі сялян", якая павінна разьвязаць рукі кулаку-спэкулянту. Выводзячы тып кулацкай гаспадаркі, Кісьлякоў, разьлічваючы на яе рост, клапаціўся аб тым, каб „гаспадар вучыўся кіраваць" складанай капіталістычнай гаспадаркай. „Вось галоўнае, што стаіць на шляху ў нашага гаспадара, калі ён хоча зрабіць сваю гаспадарку даходнай. Дзяржава ва ўсім гэтым шчыра яму дапаможа". Кісьлякоў разьлічваў на дапамогу Прышчэпава, на тую ўстаноўку, якую бралі нацыянал-дэмократы ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі. Партыя выгнала з сваіх шэрагаў кулацкіх агентаў, партыя і савецкая ўлада бязьлітасна будзе жалезнай мятлой вымятаць здраднікаў і агентаў контр-рэволюцыі.

Ня толькі старажытнасьцю і пытаньнямі „сучаснасьці" займаліся краязнаўцы нацдэмы. У „Нашым Краі" ёсьць шэраг артыкулаў пад агульнай назвай „Нашы мястэчкі". Чытач можа падумаць, што ён тут сапраўды знойдзе малюнак таго значнага пад'ёму, соцыяльных зьдзьвігаў, якія мы маем у нашых мястэчках, дзякуючы правільнаму правядзеньню ленінскай нацыянальнай політыкі. Нічога падобнага, вы гэтага тут не заўважыце. Тут апісаны з вялікай стараннасьцю цэрквы, сынагогі. Вось мы чытаем пра Пагост „у гэтай сынагозе надзвычайна прыгожыя рэзаныя ножам з дрэва „омэд" (месца, дзе стаіць кантар у час набажэнств) і „оран-койдэш" („сьвятая скрыня", дзе стаяць скруткі торы). Орнамэнт багаты і рознастайны. Наверсе двуглавы арол і два буслы". З няменшай стараннасьцю аўтар (Азбукін) зацікавіўся і прыватным гандлем мястэчак.

Цікавіліся краяведы і масавай працай. Вы падумаеце, што організоўваліся масавыя экскурсіі на фабрыкі і заводы, у саўгасы і калгасы? Не. Вы знойдзеце шэраг апісаньняў краязнаўчых экскурсій па нашых прамысловых гарадох і ўсе маршруты іх гэта цэрквы, сынагогі, агляд „сьвятых" і г. д. Пры організацыі музэяў таксама ў першую чаргу сьцягваліся ўсе абразы і ўся царкоўная і нікому непатрэбная рухлядзь (Мсьціслаўль). Дзяржаўны музэй у Менску ў 1927 г. яшчэ

ня меў ніводнага экспонату нашага социялістычнага будаўніцтва, а калі рабочая моладзь сабрала надзвычайна каштоўныя экспонаты Менскай прамысловасьці, то загадчык музэю таго часу контр-рэволюцынэр Ластоўскі ня прыняў іх.

Мы часта чулі крык „відных краяведаў“ на краязнаўчых сходах аб тым, што няма рабочых у краязнаўчых організацыях, а ў той-жа час уся ўстаноўка была накіравана на тое, каб рабочых ня пусьціць у краязнаўчыя організацыі. У гэтым напрамку быў пабудаваны статут краязнаўчых організацый і гэты напрамак быў дадзены „Нашаму Краю“:—„ЦБК спадзяецца, што на старонках нашага часопісу знойдзе свой адбітак праца ўсіх беларускіх краязнаўчых організацый і заклікае ўсіх культурных працаўнікоў Беларусі—вучоных, настаўнікаў, аграномаў, дактароў, савецкіх працаўнікоў на адміністрацыйнай і гаспадарчай глебе—у шэрагі супрацоўнікаў нашага выданьня“. Тут, як бачыце, у рабочай масе няма патрэбы—стаўка галоўным чынам на інтэлігенцыю. Маецца цэлы шэраг артыкулаў Касьпяровіча, што наогул гэтыя краязнаўчыя організацыі павінны быць аўтаномнымі і ні ад каго не залежаць.

На практыцы атрымоўваецца так. Існуе краязнаўчы гурток, які самастойна вядзе перапіску па раёну. Калі ставілася пытаньне, што гурток павінен узгадняць усю сваю дзейнасьць з савецкімі організацыямі, у адказ на гэта мы мелі саботаж і развал працы. Калі вылучаліся на гэту работу адказныя працаўнікі, комуністы, то таксама пачынаўся саботаж і розныя толкі, што комуністы ня могуць працаваць. Адзін з выкладчыкаў краязнаўства — кіраўнік гуртка дае такі напрамак студэнтам: „раней жандармэрыя ўваходзіла ў краязнаўчыя організацыі, каб мець там свой уплыў, а зараз комуністаў туды суюць“. Ёсьць матар'ялы, якія сьведчаць аб тым, што нацыянал-дэмократы, вярбуючы варожы элемэнт у краязнаўчыя організацыі, ставілі перад сабой мэту пад шыльдай краязнаўчых ячэек саздаць контр-рэволюцыйныя організацыі. Маскіруючыся савецкімі і рэволюцыйнымі фразамі, нацыянал-дэмократы давалі контр-рэволюцыйную ўстаноўку ў рабоце краязнаўчых організацый. Чаго стоіць такая адозва ад ЦБК па вывучэньню рэволюцыйнага руху:

„Да ўсяго грамадзянства БССР“.

„Аднэй з мэт, якую паставіла перад сабой Сэкцыя па вывучэньню рэволюцыйнага руху ў Беларусі, зьяўляецца складаньне гістарычна - біографічнага слоўніка рэволюцыйных барацьбітоў на Беларусі“.

„Апроч гістарычнай вартасьці біографічных даных аб барацьбітох-рэволюцыянэрах, іх жыцьця і змаганьня, гэты матар'ял, будучы надрукаваным, паслужыць добрым прыкладам у выхаваньні нашай моладзі. Зараз неабходна прыступіць да збору біографічных даных аб усіх барацьбітох, якія змагаліся з царызмам за социялістычны лад, *не зважаючы на прыналежнасьць іх да тэй ці іншай социялістычнай партыі*“.

„Гэтая пастаўленая Сэкцыяй мэта можа быць выканана толькі пры шырокай дапамозе ўсяго грамадзянства Беларусі.

Вось чаму Сэкцыя па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі зьвяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі, якім вядома рэволюцыйная чыннасьць таварышоў да Кастрычнікавай рэволюцыі“... („Наш Край“ № 6-7, 1926 г.).

Як бачыце, тут па програме нацыянал-дэмакратаў Кастрычнікавая рэволюцыя ня была перамогай пролетарыяту, а Кастрычнік гэта ёсьць перамога „працоўнага“ сялянства. Нацдэмаўскую тэорыю перамогі „працоўных“ пазьней выводзіў Доўнар-Запольскі, вядомы вялікадзяржнўны шовініст. Вялікадзяржаўны шовінізм у блёку з контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам усімі мерамі імкнуцца працягваць контр-рэволюцыйную ідэолёгію. „Рэволюцыянэраў“ трэба вывучаць, не зважаючы на прыналежнасьць іх да тэй ці іншай соцыялістычнай партыі“. Якімі-б высокімі фразамі нацыянал-дэмократы не прыкрываліся, а контр-рэволюцыйны твар іх відны з усёй яскравасьцю. Вывучайце, дзе, усіх „рэволюцыянэраў“ накшталт Лёсіка, Некрашэвіча, бандыта Гаруна і к-о; ім зусім няважна, да якіх партый яны прыналежаць: эсэры, ну няхай эсэры, мацёрыя контр-рэволюцыянэры, няхай сабе, ня брэзгуем, няхай кадэты-монархісты, усё роўна— толькі-б не бальшавікі, а тыя, хто процiў бальшавікоў, хто процiў рабочае клясы. Вось як ставілі вывучэньне рэволюцыйнага руху нацыянал-дэмократы.

А вось яшчэ нацдэмаўскі прыклад вывучэньня гісторыі і „рэволюцыйнага“ руху:

Археолёгія і гісторыя. „Апісаць усе помнікі старасьветчыны: курганы, гарадзішчы, старасьвецкія будынкі і руіны, старыя цэрквы і іх помнікі, касьцёлы, сінагогі, капліцы, панскія палацы, могілкі. Ахова іх. Сабраць ведамасьці аб усіх раскопках і іншых археолёгічных выведах, якія рабіліся ў межах раёну, аб выпадковых находках каменных і мэталёвых прылад і г. д. Сабраць усе легенды і паданьні, зьвязаныя з помнікамі старасьветчыны, апавяданьні старыкоў аб прыгоне, а таксама докумэнтальныя даныя аб старых панскіх фаміліях, якія ўладалі сялянамі ў межах раёну, народныя ўспаміны аб здарэньнях апошніх дзесяцілецьцяў. Біографіі мясцовых дзеячоў. Гісторыя рэволюцыйнага і нацыянальнага руху ў межах раёну“.

(Устаноўка ЦБК „Наш Край“, № 1, 1925 г.).

За 13 год будаўніцтва Савецкай Беларусі нацыянал-дэмократы акрамя цыган на Беларусі ня бачаць нацыянальных меншасьцяй. І вы думаеце, што пра цыган сказана аб тым, што зрабіла савецкая ўлада. Не. Тут таксама працягнута нацдэмаўская старажытнасьць. Даныя аб цыганах пачынаюцца ў XV стагодзьдзі і канчаюцца ў пачатку XIX ст. „Маленькую памылачку“ ў рабоце ЦБК сярод нацменшасьцяй выпраўляе на II конфэрэнцыі Ігнатоўскі:

„Этнографічныя меншасьці на Беларусі не павінны быць забытымі. Культуру трэба браць ва ўсіх формах, якія існуюць на Беларусі. І гэта вымагаецца об'ектыўнымі ўмовамі. Калі мы возьмем, напрыклад, вывучэньне гісторыі гарадоў Беларусі на працягу таго ці іншага часу, дык немагчыма поўнае вывучэньне гэтае галіны гісторыі без таго, каб у гэтым ня прымалі ўдзел вучоныя яўрэі“. Нацыянал-опортуністу Ігнатоўскаму зусім не зразумела ленінская нацыянальная політыка нашай партыі. Зусім не вядома тая практычная работа, якая праводзіцца сярод нацыянальных меншасьцяй Беларусі ў агульным наступленьні пролетарыяту. Ігнатоўскі гэта пытаньне зводзіць да ўдзелу „вучоных яўрэяў“. Можна было-б прывесьці яшчэ цэлы шэраг прыкладаў, але і гэтых досыць, каб убачыць тую контр-рэволюцыйную работу, якую праводзілі нацыянал-дэмократы ў краязнаўчай працы.

Опортуністычнае кіраўніцтва Акадэміі зьнята. Акадэмія папаўняецца новымі партыйнымі і пролетарскімі кадрамі. Зараз праходзіць вялізарнейшая работа па перабудове ўсёй працы Акадэміі. Выходзячы з дырэктыў партыі, Акадэмія павінна мобілізаваць вакол сябе пролетарскую грамадзкасьць, каб найхутчэй ліквідаваць вялізарнейшы прарыў на культурным фронце і каб зрабіць Акадэмію з гнязда нацдэмаў асяродкам пролетарскай навукі. Краязнаўчыя організацыі павінны стаць асноўнай формай сувязі Акадэміі з шырокімі коламі рабочых і колгасьніцкіх мас з нашым соцыялістычным будаўніцтвам. Карэнная перабудова ўсёй краязнаўчай працы—неадкладная задача ўсёй нашай пролетарскай грамадзкасьці. Тое, што мы маем на сягоньня па краязнаўчай працы, як масавай організацыі, праступна, недапусьціма. Да гэтых пор мы вельмі мала ўдзялялі ўвагі рабоце краязнаўчых організацый на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва, амаль ня цікавіліся складам краязнаўчых організацый. Бязумоўна, што нам зараз-жа па ўсіх лініях трэба заняцца краязнаўчай работай, уключыць краязнаўчую работу ў наступленьне па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва. Ужо зараз з месц паступаюць заявы з просьбай дапамагчы перабудаваць работу. Патрэбна зараз-жа ўнесьці яскравасьць ва ўсю работу, мобілізаваць масы для яе парабудовы.

Чым азначаецца зьмест краязнаўчай працы? Бязумоўна, што мы павінны павесьці самую бязьлітасную барацьбу з тэй шкодніцкай контр-рэволюцыйнай устаноўкай у краязнаўчай працы, якую нацдэмам удавалася праводзіць, мы павінны даць самы бязьлітасны адпор тэй варожасьці, якая працягвалася праз краязнаўчую працу, і тэй, так званай „аполітычнасьці", якой прыкрываліся ворагі рабочае клясы—нацдэмы. Дыскусія пры Комакадэміі і рэзолюцыя па дакладу аб сутнасьці краязнаўчай працы ўстанавіла, што „ўвесь зьмест краязнаўчай работы ў краіне ў бягучы пэрыод павінен быць цалкам падпарадкаваны інтарэсам соцыялістычнага будаўніцтва". Гэта значыць, што савецкае краязнаўства, масавыя краязнаўчыя організацыі пры дыктатуры пролетарыяту нічога агульнага ня маюць з краязнаўчымі організацыямі капіталістычных дзяржаў і дарэволюцыйным краязнаўствам Расіі. І нічога ня маюць з тэй контр-рэволюцыйнай устаноўкай у краязнаўчай працы, якая была ў Беларускай Акадэміі Навук. Самая бязьлітасная барацьба з усякімі нацыянал-дэмократычнымі спробамі раўняць „краязнаўчую працу" царскай ахранкі, царкоўшчыны, з савецкім краязнаўствам. А мы не пазбаўлены таго, што і наперад будуць імкненьні працягваць усю рэакцыйнасьць у савецкае краязнаўства. На дыскусіі аб краязнаўстве было падкрэсьлена, што краязнаўства ў мінулым зьяўлялася аднэй з форм „культуртрэйгерскай" дзейнасьці буржуазнай інтэлігенцыі і „нясе ў сабе органічныя парокі буржуазнай грамады: бясплянавасьць, ідэалізацыю рэакцыйных форм быту, кульцівіраваньне экзоцікі і г. д." Савецкае краязнаўства і ўсе краязнаўчыя організацыі, прымаючы актыўнейшы ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, зьяўляючыся стойкімі барацьбітамі на фронце культурнай рэволюцыі, павінны з усёй рашучасьцю, яскравасьцю заявіць, што яны зьяўляюцца адным з зьвеньняў клясавай барацьбы пролетярыяту за пролетарскую ідэолёгію. „Толькі актыўнае служэньне інтарэсам дыктатуры пролетарыяту ў барацьбе за соцыялізм напаўняе краязнаўчы рух подлінна навуковым зьместам у галіне дасьледваньня прыроды, эканомікі і грамадзянскага жыцьця краіны". Вось чым павінен быць пранізан і зьмест і тэорэтычная і організацыйна-практычная

праца краязнаўчых організацый. „Краязнаўства—гэта адна з форм актыўнага ўдзелу мас у социялістычным будаўніцтве СССР шляхам усебаковага навуковага вывучэньня данага раёну ў мэтах дапамогі плянуючым і опэрацыйным органам савецкай улады і шляхам скарыстаньня вынікаў гэтага вывучэньня дзеля социялістычнай перабудовы краіны". Бясспрэчна, што карэнная перабудова работы краязнаўчых організацый павінна таксама карэнным чынам зьмяніць і склад саміх організацый. Мы на сягоньня ня маем ніводнага краязнаўчага гуртка ні на заводзе, ні ў колгасе. „Заместа замкнутых інтэлігенскіх краязнаўчых гурткоў мінулага, савецкія краязраўчыя організацыі павінны зьявіцца масавымі органамі савецкай грамадзкасьці". Мы гэта пытаньне зараз павінны паставіць з усёй рашучасьцю. Зараз пачынаюць адбывацца раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі. Партыйныя, комсамольскія і прафсаюзныя організацыі, рабоце гэтых конфэрэнцый павінны ўдзяліць належную ўвагу. Організацыйная структура краязнаўчых організацый мяркуецца наступная: раённая організацыя на чале з бюро, якое аб'яднае краязнаўчыя ячэйкі на фабрыках, заводах, саўгасах, колгасах і навучальных установах. Бязумоўна, што трэба правесьці вялікую работу па організацыі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах і колгасах, вярбуючы актыўных корэспондэнтаў з рабочых і колгасьнікаў у часопіс ЦБК.

„Нельга справу нацыянальна-культурнага будаўніцтва пакінуць у руках клясавага ворага. Трэба ўзяць нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў моцныя рукі комуністычнай партыі і кіраваць ім. Гэта азначае, што партыя павінна стаць на чале распрацоўкі раду пытаньняў, не палохаючыся таго, што гэта пытаньне навуковае, што гэта пытаньне літаратуры, што гэта пытаньне мовазнаўства і г. д., бо на ўсіх вучастках культурнага фронту і культурнага будаўніцтва партыі прыдзецца кіраваць. У прыватнасьці зусім неабходнай здаецца нам задача распрацаваць гісторыю Беларусі, яе экономіку і паставіць вывучэньне гэтых пытаньняў партыйным активам, шырокімі партыйнымі масамі і беспартыйнымі рабочымі" (тав. Гей, даклад аб выніках Кастрычнікаўскага пленуму ЦК КП(б)Б). Краязнаўчыя організацыі павінны стаць аднымі з масавых зьненьняў організацыі мас на фабрыках, заводах для выкананьня дырэктыў партыі, краязнаўчая праца павінна перавярнуцца ў масавы рух за пролетарскую навуку.

Таксама неабходна зьнішчыць тую аднабаковасьць, якая пануе ў краязнаўчых організацыях: захапленьне фольклёрам, этнографіяй і поўнае ігнарываньне вывучэньня экономікі, рэволюцыйнага руху, пытаньняў культурнай рэволюцыі. Усе галіны социялістычнага будаўніцтва павінны быць ахоплены краязнаўчымі організацыямі з поўнай адказнасьцю за перамогу пролетарскай ідэолёгіі.

Распачынаючы вялізарнейшую работу па разгортваньню подлінна савецкага краязнаўства, па карэннай перабудове краязнаўчых організацый, мы не пазбаўлены ад даўленьня тэй анархічнасьці, стыхійнасьці, стаўкі на самацёк, якая панавала ў рабоце краязнаўчых організацый. У адказ опортуністычнай стаўцы на самацёк мы павінны ўсю сваю работу падпарадкаваць плянавасьці. Бязумоўна, што пляны краязнаўчых організацый павінны быць увязаны з мясцовымі плянуючымі і гаспадарчымі органамі.

Асноўная чарговая неадкладная работа, якая павінна быць праведзена нашымі краязнаўчымі організацыямі, гэта даць адбітак таго вялізарнейшага энтузыязму рабочае класы, таго вялізарнейшага росту

социялістычнага будаўніцтва, які зараз праводзіцца цэлым шэрагам фабрык, заводаў, саўгасаў, уступіўшых ва ўсесаюзны конкурс на лепшае прадпрыемства. Мы маем яскравую дырэктыву XVI партыйнага зьезду па дакладу тав. Куйбышава, аб удзеле грамадзкіх організацый у абмене социялістычным вопытам прадпрыемстваў паміж сабою і да гэтых пор краязнаўчымі організацыямі нічога ня зроблена. Як рост нашай індустрыі, яе тэмпаў, дынамікі, гэтак разгортваньне колгаснага руху, вопыт лепшых павінен быць неадкладнай работай краязнаўчых організацый.

Зараз Колгасцэнтар праводзіць двухмесячнік па абмену социялістычным вопытам будаўніцтва сельскай гаспадаркі. Краязнаўчыя організацыі на мясцох павінны безадкладна ўключыцца ў гэту важнейшую работу. Мобілізаваць масы на гэту работу, апрацаваць матар'ялы дасьледваньня, зрабіць іх дастаяньнем нашых саўгасаў, колгасаў, нашай школы, навукі, каб усё гэта дапамагала далейшаму наступленьню социялістычных элемэнтаў і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

З 25 па 30 студзеня будзе праводзіцца краязнаўчая пяцідзёнка. Наша задача: усебакова падрыхтавацца да краязнаўчай пяцідзёнкі. Якія лёзунгі і задачы ставіць перад краязнаўчай пяцідзёнкай Комакадэмія і IV краязнаўчая конфэрэнцыя РСФСР?

„1) Асноўны лёзунг пяцідзёнкі: краязнаўства—форма садзейнічаньня социялістычнаму будаўніцтву з боку савецкае грамадзкасьці шляхам вывучэньня края і прыстасаваньнем вынікаў вывучэньня ў справе яго будаўніцтва.

2) Мэты і задачы краязнаўчай пяцідзёнкі: а) зьвярнуць увагу савецкай грамадзкасьці на зьмест і формы савецкага краязнаўства, на яго чарговыя задачы, на яго грамадную ролю ў справе социялістычнага будаўніцтва; б) паставіць перад шырокімі масамі працоўных рад актуальных тэм краязнаўчых работ, ужо выкананых, якія выконваюцца і якія падлягаюць выкананьню; в) уцягнуць у склад краязнаўчых організацый рабочых гораду і вёскі, колгасьнікаў і сялян шляхам організацыі на фабрыках, заводах, у жылтаварыствах, колгасах, школах, вёсках краязнаўчых ячэек; г) зрабіць навуковую работу па вывучэньню края здабыткам шырокіх мас працоўных".

Вядзецца прадрыхтоўчая праца, каб у час краязнаўчай пяцідзёнкі распачаць конкурс на лепшае апісаньне фабрыкі, заводаў, колгасаў, саўгасаў. Бясспрэчна, што разгортваньне гэтай вялізарнейшай работы патрабуе плянавасьці і ўсебаковай падрыхтоўкі з боку ўсіх організацый раёну.

Адно з важнейшых пытаньняў культурнай рэволюцыі—пытаньне політэхнізацыі школы. Работа краязнаўчых організацый павінна даць організаваны матар'ял вытворчых сіл таго ці іншага раёну, каб паглыбіць і паскорыць тэмпы політэхнізацыі школы. Краязнаўчыя організацыі павінны вывучаць вопыт лепшых школ, якія ўжо органічна зьвязаліся з фабрыкамі і заводамі, каб перанесьці гэты вопыт на другія школы. Добры пачын на сягоньня мы маем з боку 20-й Менскай фабрычназавадзкой сямігодкі, краязнаўчы гурток якой выдаў свой зборнік. Трэба, каб гэта праца была пашырана ня толькі школамі, а і раённымі організацыямі, каб вопыт і актыўнасьць месц можна было скарыстаць для выданьня патрэбных матар'ялаў для нашых школ.

Вядомая рэч, што ўсё гэта вывучэньне не аматарская справа, а „пастаўленае на моцныя ногі масавай работы павінна быць актыў-

ным“ — „аб‘ясьніць мір, каб зьмяніць яго“ — так формулюецца па Марксу наша задача. Усё вывучэньне, увесь матар‘ял павінен вывучацца і зьбірацца для таго, каб усё гэта дапамагала яшчэ і яшчэ шпарчэй рухацца наперад па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

„Зьмяніць мір можна толькі аб‘ясьняючы яго навуковым мэтодам Маркса і Леніна. Ідэалістычны падыход да зьяў прыроды і грамадзкага жыцьця толькі ізвращчае наша прадстаўленьне аб сутнасьці зьяў; савецкае краязнаўства павінна ўзброіцца востра адточанай зброяй дыялектычнага матар‘ялізму, каб у сваіх работах стаць на ўзровень па навуковай мэтодолёгіі з перадавымі атрадамі барацьбы на навуковым фронце“.

Само сабой зразумела і на гэта маецца адпаведная дырэктыва, што мы павінны безадкладна пераглядзець шэрагі краяведаў і корэспондэнтаў часопісу, аслабаніўшыся ад варожых нам людзей, так з прасеянымі шэрагамі ўключыцца ў соцыялістычны сэктар. Адпаведныя органы на мясцох адначасова павінны заняцца падборам кіруючых работнікаў па краязнаўству. Тут патрэбна з усёй рашучасьцю ўмацаваць кадры камандыраў партыйным і комсамольскім ядром. Пытаньне краязнаўчых кадраў ёсьць, у значнай ступені, пытаньне навуковых кадраў, з якіх (краязнаўчых кадраў) БАН і дасьледчыя інстытуты будуць з часам мець сталых навуковых працаўнікоў.

Карэнная перабудова ўсёй работы — уключэньне краязнаўчай работы ў соцыялістычны сэктар, мобілізацыя мас на барацьбу з нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіяй, якая панавала ў краязнаўчай працы, патрабуе карэннай перабудовы краязнаўчага друкаванага органу. Чым зараз павінен быць наш новы орган? Самая бязьлітасная барацьба з варожай марксызму ідэолёгіяй, самая бязьлітасная барацьба з імкненьнямі працягваць контр-рэволюцыйную нацыянал-дэмократычную плыню, поўная і безагаворачная ўвязка краязнаўчай працы з соцыялістычным будаўніцтвам, мобілізацыя пролетарскіх мас вакол краязнаўчай працы і самы чулы падыход да організацыі работы на мясцох, асабліва на фабрыках і заводах, вучот вопыту месц, рашучае ўцягненьне ў работу рабкораў і селькораў, разгортваньне крытыкі і самакрытыкі — вось тыя задачы, тыя асноўныя лёзунгі, якія мы павінны паставіць перад нашым друкаваным краязнаўчым органам. Бясспрэчна, што ў часопісу павінны прымаць удзел шэраг раённых і цэнтральных організацый і работнікаў. Наш друкаваны орган павінен поўнасьцю і ўсебакова адбіваць наша будаўніцтва.

Музэйная работа таксама павінна быць карэнным чынам перабудавана. Нам патрэбны ня склады царкоўшчыны, бяз усякага клясавага аналізу, нам патрэбен адбітак вытворчых сіл раёну, соцыялістычнай дынамікі таго ці іншага раёну, нам патрэбен малюнак рэволюцыйнай барацьбы за справу дыктатуры пролетарыяту. Музэй павінен дапамагаць выхоўваць рэволюцыянэра-барацьбіта з нашага маладога пакаленьня. Музэй павінен быць актыўным агітатарам за соцыялістычную перабудову раёну. Організацыя раённых музэяў там, дзе іх няма, карэнная перабудова маючыхся, організацыя музэяў пры завадзкіх і колгасных культурных цэнтрах, якія будуць папаўняць жывым матар‘ялам раённы музэй, неадкладная работа, якая павінна ісьці адначасова з перабудовай краязнаўчай працы.

Рашуча выкарчоўваючы контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм у барацьбе за савецкае краязнаўства, мы павінны адначасова весьці самую бязьлітасную барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам

як галоўнай небясьпекай на данам этапе, які будзе ігнарыраваць нацыянальную палітыку савецкай улады, звысока разглядаючы нацыянальныя меншасьці і нацыянальныя асаблівасьці раёну.

Рэч зразумелая, што ва ўсёй гэтай вялікай рабоце, за якую мы павінны ўзяцца безадкладна, мы будзем мець цэлы шэраг цяжкасьцяй, „вузкіх месц", але не раўнаньне на „вузкія месцы", а поўная іх перамога цераз соцспаборніцтва і ўдарніцтва пад кіраўніцтвам партыі дасьць нам той эфэкт у рабоце, якога ад нас чакае наша партыя і рабочая кляса.

---

**Зьм. Жылуновіч.**

# Нацыянал-дэмократы за „працай".

*(1920—1928 гг.).*

Шырока-разгорнутае социялістычнае будаўніцтва, якое пасьпяхова вядзе рабочая кляса Савецкага Саюзу на чале з сваім правадыром—Ленінскай комуністычнай партыяй, хутка набліжае краіну Саветаў да соцыялізму.

Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту на рэшткі капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі, выклікае шалёнае супраціўленьне клясавага ворага. Кулак у вёсцы, нэпман у горадзе, яўны і скрыты контр-рэволюцыянэр-шкоднік цесна зьядналіся ў адзіны контр-рэволюцыйны фронт і вядуць жорсткае супраціўленьне пераможнаму прадвіжэньню да соцыялізму.

Непасрэдныя фашыстаўскія агэнты, беларускія нацыянал-дэмократы, ставячы стаўку на інтэрвэнцыю, уключаюць сваю працу ў адзіны контр-рэволюцыйны фронт.

Актывізацыя нацыянал-дэмократызму разьвівалася водлуг разьвіцьця посьпехаў і дасягненьняў заваёў Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Згубіўшы надзею на перамогу белагвардзейшчыны над дыктатурай пролетарыяту ў адчыненым змаганьні супроць савецкае ўлады, беларуская нацыянал-дэмократыя разам з рэшткамі контр-рэволюцыі перайшла да скрытай, падрыўнай работы. У гэтай сваёй „рабоце" яна галоўную ўвагу накіравала на культурны вучастак соцыялістычнага будаўніцтва. На працягу дзесяцігадовага існаваньня савецкае ўлады, нацыянал-дэмократы сыстэматычна і ўпарта змагаліся супроціў рабочае клясы, супроціў комуністычнае партыі.

Вось як выглядае іх шкодніцкая праца ў аспэкце гістарычнага дзесяцігодзьдзя пераможнай барацьбы рабочае клясы на чале з сваёй комуністычнай партыяй за соцыялізм.

Абвешчаная маніфэстам часовага ўраду БССР уне закону, беларуская белагвардзейшчына часткаю эміgravала за межы Савецкае Беларусі, часткаю захавалася па кутках і шчылінах унутры краіны. Наступ бела-палякаў і часовае астаўленьне савецкаю ўладаю Менску абнадзеіла нацыянал-дэмократаў: яны ізноў вярнуліся да свае контр-рэволюцыйнае працы, перарванае прыходам савецкае ўлады ў канцы 1918 году. У 1919 годзе разагнаная прадажніцкая рада аднавіла сваю дзейнасьць пад выглядам беларускага нацыянальнага камітэту. Гэта

ўстанова стала асяродкам, штабам беларускай контр-рэволюцыі. Белапольскія окупанты ласкава падгарнулі нацыянальны камітэт пад сваё крыло, дырыгуючы камітэцкай дзейнасьцю. Для большага плёну ў гэтай дзейнасьці нацыянальны камітэт быў увязаны з дэфэнзывай і надараны грашыма. Хутка дзейнасьць камітэту разгарнулася даволі шырока. Яна ахапляла політычную, вайсковую і школьную галіны. Камітэт компэнсаваў імем беларускага народу ўсе тыя зьверствы і расправы окупантаў над рабочымі і сялянамі БССР, якія залілі окупаваную краіну крывёю расстрэленых рабочых і сялян і полымем пажараў. Ад імя нацыянальнага камітэту, на чале якога пасталі памешчык Скірмунт, памешчык Вярнікоўскі і іх заўсёдашнія папіхачы Лёсік, Смоліч, бандыт Аляксюк і інш., орган камітэту, газэтка „Звон", вітаў прыход окупантаў у наступных словах: „Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забыла свайго даўнейшага саюзьніка і кампана. Стары друг—лепшы новых двух. Няўжо-ж дзеля таго, што Беларусь так заняпала, абяднела і не без гістарычнай віны з боку Польшчы, дык яна ня мае права на братэрскую помач ад свайго вінавайцы ў гэты рашучы і адпаведны момант?" І далей: „Польшча павінна дапамагчы Беларусі. Яна павінна пасунуць сваё войска яшчэ на ўсход, каб адваяваць ад бальшавікоў усходнюю Беларусь."

Захапіўшы Вільню 22 красавіка, Пілсудзкі падаў сыгнал беларускай белагвардзейшчыне ў наступных словах свае адозвы: „Польскае войска, прышоўшае на Беларусь, нясе ўсім вам свабоду... Хачу вам даць магчымасьць разьвязаць унутраныя і нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі захочаце, без якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы." Побач з гэтым, окупанты падкінулі радаўцам агрызак у выглядзе права карыстаньня беларускаю моваю для зносін з урадам.

Пры захопе Менску окупантамі Пілсудзкі яшчэ раз палашчыў сваіх верных сабак-радаўцаў гэткімі лісьлівымі абяцанкамі: „Я хацеў-бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі", піша ён у сваёй адозьве. Беларусь можа гаварыць з Польшчаю „як роўны з роўным і вольны з вольным." Але і бяз гэтага гладжаньня па галоўцы беларуская контр-рэволюцыя аддала-б сябе ў распараджэньне драпежнага окупанта. Выбаўленая ад сваячаснай кары, заслужанай ранейшаю барацьбою з савецкай уласьцю, беларуская контр-рэволюцыя абудзіла сваю клясавую помсту і ўліла яе ў адну пасудзіну з белапанскай фашыстаўскай контр-рэволюцыяй. Апошняя стала тым сродкам, за які ўхапіліся беларускія белагвардзейцы для працягу свае барацьбы з рабочымі і сялянамі БССР, з іх правадыром—комуністычнай партыяй Беларусі.

Перад прыездам Пілсудзкага ў Менск у верасьні 1919 году камітэцкая газэта беларускіх контр-рэволюцыянэраў захлёбвалася ў сабачай вернасьці галаве фашыстаўскага панства—Пілсудзкаму. Яна пісала: „Гэтымі днямі прыяжджае да Менску начальнік польскай дзяржавы Язэп Пілсудзкі. Гэта дзякуючы яму наш змучаны, абяздолены край збаўляецца ад крывавага панаваньня маскоўцаў. Гэта ён зьвяртаўся да насяленьня Беларусі з адозваю, у якой абвяшчаў, што нясе нам волю і збаўленьне ад векавой крыўды і няволі. Прывет табе, начальнік польскай дзяржавы, на тваёй роднай зямельцы Беларусі."

Гэта прадажніцкая дэклярацыя беларускай контр-рэволюцыйнай белагвардзейшчыны, набіўшай рукі ў справе праданьня краіны рабочых, гэтым не абмяжоўвалася. Яна была ўрачыста паўторана на прыёме

Інжынэр Шаліма.

# За пролетарскія кадры інжынэраў.

Да XIII-ай гадавіны Кастрычніка мы падыходзім з буйнымі, нябывалымі посьпехамі. Мы ня можам паказаць той галіны працы ў соцыялістычным будаўніцтве, дзе-б гэтых посьпехаў ня было. Вынікі выкананьня другога году пяцігодкі яскрава сьведчаць аб гэтым.

Буйнае соцыялістычнае будаўніцтва заводаў, фабрык, саўгасаў, колгасаў, соцыялістычных гарадоў, шляхоў зносін і г. д. ідзе шпаркім тэмпам і такім, што для поўнага ахвату яго (будаўніцтва) не хапае кадраў рабочых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу. Беспрацоўя мы ўжо даўно ня маем.

З году ў год соцыялістычнае будаўніцтва патрабуе новых кадраў. Гэтыя абставіны ўлічыў ЦК нашае партыі і Ўрад і па пастанове іх у гэтым годзе па БССР адчынены шэраг вышэйшых навучальных устаноў, якіх па сёньнешні дзень, на парозе XIV-ай гадавіны Кастрычніка маецца ўжо 12.

І калі да гэтага часу індустрыяльна-тэхнічных вышэйшых навучальных установ па БССР ня было, дык цяпер толькі ў Менску іх маецца дзьве: Будаўнічы і Хэміка-Тэхналёгічны Інстытуты.

Будаўнічы Інстытут у сваю чаргу падзяляецца на Інстытуты, якія рыхтуюць інжынэраў па ўсіх самастойных галінах нашае народнае гаспадаркі: электратэхніцы, шляхаваму будаўніцтву, будаўніцтву фабрычна-завадзкому, колгаснаму, жыльлёваму і санітарнаму і організацыйна падзяляецца на тры аддзяленьні—электратэхнічнае, шляхавае і будаўнічае.

Пакуль што ўсе гэтыя Інстытуты аб'яднаны адным кіраўніцтвам. У далейшым, кожнае з адзначаных аддзяленьняў бязумоўна будзе выдзелена ў самастойны Інстытут.

Ня гледзячы на рад цяжкасьцяй і надта кароткі тэрмін вызначаны для організацыі Інстытуту (2 месяцы), дзякуючы бальшавіцкай настойлівасьці організацый удзельнічаючых у стварэньні Інстытуту, Інстытут організаваны і разьвіваецца шпаркім тэмпам. Такія вялізарныя посьпехі, як організацыя Вышэйшай Індустрыяльна-Тэхнічнай Навучальнай Установы за 2 месяцы магчымы толькі ў савецкай краіне, у краіне дыктатуры пролетарыяту, які праяўляе сталёвую непахісную волю пры правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў па соцыялістычнаму будаўніцтву.

На шляху організацыі сустракаліся людзі, якія падсьмейваліся над „сумасброднай“ ідэяй адчыненьня заняткаў у тэрмін. Ёсьць людзі, якія не жадаюць дабра новаму дзіцяці. Трэба з усёй рашучасьцю адмесьці гэтых практыкаў правага ўхілу, трэба ўтварыць усе ўмовы пасьпяховага разьвіцьця Інстытуту.

На бліжэйшы час програма Інстытуту гэтакая:

1. Асеньні набор (першы паток)—128 чалавек, з якіх: 25 электрыкаў, 40—дарожнікаў і 63 будаўнікі—ужо прыступілі да работы і займаюцца з 1-га кастрычніка.

2. У зімовы набор (2-гі паток) будзе прынята—40 чалавек электрыкаў, 60—дарожнікаў і 80—будаўнікоў.

3. У асеньні набор 1931 году мяркуецца прыняць каля 60 чалавек электрыкаў, 100 дарожнікаў і 100 будаўнікоў (апошнія лічбы орыентыровачна).

Акрамя таго, у сувязі з недахопам інжынэрных кадраў у будаўнічай прамысловасьці БССР, перад Інстытутам пастаўлена задача перакваліфікацыі тэхнікаў у інжынэры, з такім разьлікам, каб гэта не адбілася на рабоце будаўніцтва і ў той самы час, каб даць спэцыялістых не за 3 і 4 гады, а ў больш кароткі тэрмін (2 гады з перапынкам на будаўнічы сэзон).

Інстытутам ужо організаваны вячэрнія курсы па перакваліфікацыі 60 асоб тэхнікаў і практыкаў будаўнікоў з 1-га лістапада г. г. і з 15 лістапада будуць організаваны такія-ж курсы па перакваліфікацыі тэхнікаў і практыкаў дарожнікаў у інжынэры, організаваны і працуюць 3 групы па падрыхтоўцы ў Інстытут.

Але мала гаварыць аб колькасьці, трэба сказаць і аб якасьці.

Нам трэба мець інжынэраў-будаўнікоў соцыялізму, адданых рабочай клясе і пагэтаму перад Інстытутам пастаўлена задача выхаваньня людзей здольных і жадаючых у будучым атрыманыя вышэйшыя тэхнічныя веды аддаць на карысьць пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. З гэтай задачай могуць справіцца людзі, якія вышлі з нетраў рабочае клясы, кроўна зьвязаныя з рабочай клясай. Вось чаму нас так цікавіць соцыяльны і партыйны склад прынімаемых у Інстытут.

З 128 асоб, якія прыняты ў першы паток Інстытуту мы маем наступны склад студэнтаў.

**Па соцыяльнаму становішчу:**

а) рабочых і іх дзяцей . . . . 76,5%
б) колгасьнікаў, сялян і іх дзяцей . . 14%
в) спэцыялістых, служачых і іх дзяцей . 9,5%

**Па партыйнасьці:**

а) членаў і кандыдатаў КП(б)Б . . . 66%
б) членаў КСМ . . . . . . . 18%
в) беспартыйных. . . . . . . 16%

Як відаць, справа ўкомплектаваньня стаіць ня дрэнна. Хужэй абстаіць справа па стану:

З 128 усіх прынятых на 1-шы курс студэнтаў маецца толькі 12 жанчын. Гэта ні ў якім разе не адпавядае тэй устаноўцы, якую мы маем у адносінах уцягненьня жанчын нараўне з мужчынамі ў нашае соцыялістычнае будаўніцтва. Прыймовая камісія білася за кожную жаночую кандыдатуру, але іх было надзвычайна мала. Тлумачыцца гэта тым, што на нашых прадпрыемствах жанчын яшчэ мала, а Інстытут яшчэ не популярызаваны, аб іх мала хто ведае.

Трэба павесьці растлумачальную працу сярод рабочых аб неабходнасьці набыцьця імі і іх дзяцьмі вышэйшых тэхнічных ведаў.

Вячэрнія курсы па падрыхтоўцы тэхнікаў у інжынэры маюць наступны склад:

а) па паходжаньню з рабочых . . 16 асоб
б) „ „ з сялян . . . 10 „
в) „ „ служачых . . 16 „
г) „ „ саматужнікаў. . 3 „
д) „ „ іншых . . . 12 „

З іх працавалі самі на прадпрыемствах у якасьці рабочых—9 асоб, членаў і кандыдатаў партыі—5 чалавек, членаў КСМ—1 чалавек.

Кожны ведае, што пастаноўка навучаньня ў Вышэйшай Тэхнічнай Установе значна залежыць ад наяўнасьці ў складзе яе навуковых сіл. У гэтай галіне Інстытут мае посьпехі. Вакол яго (Інстытуту) ужо стварылася добрая грамадзкая думка з боку ўсіх спэцыялістых ня толькі Менску і БССР, але і Саюзу ня гледзячы на тое, што Інстытут пра сябе амаль ня піша. Цяпер Інстытут знаходзіцца ў такім становішчы, што ён ня можа запрасіць на працу ўсіх жадаючых працаваць у Інстытуце навуковых працаўнікоў з другіх гарадоў Саюзу з прычыны адсутнічаньня кватэр у Менску. Нам здаецца, *што адпавядаючыя організацыі павінны дапамагчы Інстытуту як у справе прадастаўленьня кватэр, так і ў справе фінансаваньня Інстытуту, каб апошні меў магчымасьць сам адбудаваць кватэры для профэсароў.*

Па сёньнешні дзень Інстытут мае:

а) профэсароў — 3 асобы
б) доцэнтаў — 10 „
в) асыстэнтаў — 13 „

Прычым з іх 7 чалавек сябры КП(б)Б.

Інстытут ставіць перад сабою задачу ня толькі падрыхтоўкі інжынэраў, але і разьвіцьця навукова-дасьледчай работы па сваёй спэцыяльнасьці праз увязку работы адпаведнай галіны прамысловасьці і работы Інстытуту. Магчымасьцяй ёсьць шмат. Карысьць ад такой працы відавочна. Дастаткова сказаць, што да гэтага часу ў Менску яшчэ няма такой організацыі, якая-б паставіла дасьледчую работу па будаўнічай і будаўніча-дарожнай галіне прамысловасьці на належную вышыню. Так да гэтага часу зусім ня вывучаны такія сур'ёзныя пытаньні, як:

1. Спосабы вазвядзеньня дарожных насыпаў на балотах.

2. Прычыны ўтварэньня пучын па дарогах і спосабы барацьбы з імі.

3. Выбар найлепшага тыпу як па конструкцыі, так і па кошту гаражоў для аўтомобіляў.

4. Якой таўшчыні павінны быць агараждаючыя конструкцыі (сьцены) жылых пабудоў.

5. Проблема проектаваньня і пабудоў социялістычных гарадоў і наогул населеных месц. А гэта проблема ў сувязі з нашым социялістычным будаўніцтвам надзвычайна сур'ёзная. Дастаткова сказаць, што пабудова сталіцы БССР—Менску яшчэ ня ідзе па строга распрацаванаму пляну.

Сіл і базы ў навукова-дасьледчых організацый няма для правядзеньня сур'ёзных навукова-дасьледчых работ, а як вядома ад той ці іншай пастаноўкі навукова-дасьледчай работы залежыць і пасьпяховы рух уперад у галіне тэхнікі, і пасьпяховае правядзеньне работ, і кошт пабудоў і інш.

Мы павінны адмовіцца ад саматужніцтва ў навукова-дасьледчай рабоце і лёгкіх адносін да яе.

*Трэба аб'яднаць практычна дасягненьні прадпрыемства з навукова-тэорытычнымі ведамі.*

Пасіленьне навукова-дасьледчай работы можа быць дасягнута шляхам пасіленьня складу супрацоўнікаў навукова-дасьледчых орга-

нізацый незалежна ад існуючага Будаўнічага Інстытуту (шлях распыленьня навуковых сіл), ці шляхам організацыі іх пры Інстытуце (канцэнтрацыя навукова-інжынэрных сіл, рацыянальнае іх скарыстаньне).

Ці зможа зараз Інстытут правесьці організацыю навукова-дасьледчай працы.

Ня зможа, бо ў яго няма матар'яльнай базы таму, што ён яшчэ ня мае належнага аўтарытэту. Інстытут ня мае такой элемэнтарнай рэчы як памяшканьняў для правядзеньня заняткаў са студэнтамі. Шляхам нечалавецкіх патуг удалося адчыніць заняткі з 1-ым патокам, з 2-ім патокам заняткаў распачаць мабыць ня ўдасца з-за адсутнасьці памяшканьняў, нельга організаваць габінэтаў: электра-тэхнічнага, будаўнічнага, гідраўлічнага, санітарнай тэхнікі, дарожнага, фізычнага. З гэтай-жа прычыны экспонатаў, якія бесхваробна могуць быць дадзены Інстытуту чамусьці не даюць.

Усё гэта сьведчыць, што пытаньню падрыхтоўкі маладых пролетарскіх кадраў не аддаюць на практыцы належнай увагі, што яшчэ ня зломаны бюрократычны лёд з гэтага пытаньня.

Патрэбен рашучы пералом, максымальная ўвага гэтаму пытаньню і толькі гэта будзе гарантыяй пасьпяховага разьвіцьця Навучальнай Індустрыяльна-Тэхнічнай Установы, так неабходнай для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва БССР.

Інстытут зараз прыступіў да проектаваньня:

а) вучэбнага корпусу Інстытуту і рабфаку пры ім;
б) інтэрнату для студэнтаў,
в) дому для профэсуры.

Інстытут лічыць, што ўжо да восені будучага 1931 году ён павінен пабудаваць неабходную колькасьць вучэбнай плошчы для магчымасьці правядзеньня заняткаў ужо з разгорнутым контынгентам студэнтаў 1-га і 2-га курсаў, студэнтаў вышэйшых курсаў па перакваліфікацыі тэхнікаў у інжынэры і Рабфакаў.

Набыцьцё спэцыяльна прыстасаванай навучальнай плошчы, габінэтаў лябораторый і г. д. дасьць магчымасьць ня толькі прыцягнуць буйныя навукова-тэхнічныя сілы Саюзу для работы ў Інстытуце і тым самым палепшыць якасьць падрыхтоўкі інжынэраў, але і стварыць умовы для глыбокай навукова-дасьледчай работы і тым самым прасунуць уперад нашы дасягненьні ў тэхніцы.

Спадзяемся, што пры дапамозе ўсіх організацый са сваімі задачамі і капітальнага будаўніцтва, і організацыі навукова-дапаможных габінэтаў і лябораторый, і прыцягненьня буйных навуковых сіл як для падрыхтоўкі кадраў, так і для разьвіцьця і паглыбленьня навукова-дасьледчай работы—Інстытут справіцца.

Інстытут ставіць сабе мэтай выданьне падручнікаў па тэхнічных дысцыплінах вучэбнага пляну. Двума навуковымі працаўнікамі Інстытуту па даручэньню апошняга ўжо напісана 1-ая частка рабочай кнігі па гэодэзіі і здана ў друк. Вядома, што Інстытут не застановіцца на гэтым. Перад ім стаіць задача стварэньня тэхнічнай літаратуры на беларускай мове як для студэнтаў Інстытуту, так і для працуючых на мясцох тэхнікаў і інжынэраў, якія-б маглі заўсёды папаўняць свае тэхнічныя веды і тым самым даваць большую карысьць соцыялістычнаму будаўніцтву.

Пры дапамозе ўсіх працоўных БССР, усіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый, пры стварэньні вакол Інстытуту грамадзкай

думкі, пры давядзеньні да ведама кожнага рабочага, колгасьніка і селяніна-бедняка аб вялікіх задачах нашага соцыялістычнага будаўніцтва і ролі кадраў у гэтым будаўніцтве, задачы, ускладзеныя пролетарыятам на Інстытут у справе падрыхтоўкі новых кадраў адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва інжынэраў, ён выканае.

---

В. С.

# Краязнаўства—на службу соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы.

У соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі — у колгасах і саўгасах ёсьць ужо вялізарныя дасягненьні ў організацыі розных галін сельскае гаспадаркі, працы і новага быту. У мэтах самага шырокага абмену соцыялістычным вопытам у сельскай гаспадарцы Колгасцэнтар СССР і Усесаюзная акадэмія с-г. навук імя Леніна праводзяць двухмесячнік (лістапад--сьнежань) усесаюзнага выяўленьня дасягненьяў у колгасах і саўгасах і абмену тымі дасягненьнямі, якія ёсьць у галіне організацыі і тэхнікі буйнай соцыялістычнай вытворчасьці для выкарыстаньня іх у практычнай працы колгасаў і саўгасаў у 3-м годзе пяцігодкі. Двухмесячнік павінен дапамагчы і ажыцьцяўленьню дырэктывы партыі адносна ўцягненьня новых мас беднякоў і сераднякоў у колгасы.

Для правядзеньня агляду дасягненьяў у кожным колгасе і саўгасе організуюцца спэцыяльныя брыгады з лепшых ударнікаў, прадстаўнікоў партыйных і грамадзкіх організацый, дасьледчых устаноў і інш. Усе краязнаўчыя організацыі БССР павінны абавязкова ўключыцца ў працу брыгад і прыняць у ёй самы актыўны ўдзел. Раённым краязнаўчым таварыствам неабходна ўключыцца ў працу раённых аглядавых камісій (пры райколгассаюзе).

Задачай раённых камісій, брыгад у колгасах і саўгасах для вывучэньня дасягненяняў у соцыялістычнай сельскай гаспадарцы і краязнаўчых організацый зьяўляецца:

1. Дасьледваньне дасягненьняў і рацыяналізатарскіх прапаноў у падрыхтоўцы і правядзеньні сельска-гаспадарчых кампаній (уборка збожжавых, тэхнічных і садова-гародных культур, хлебазагатоўкі, ворыва на зяб, сіласаваньне, уборка сена, загатоўка кармоў для жывёлы і г. д.), прычым асабліва вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на сваечасовасьць рамонту і падрыхтоўкі с-г. інвэнтару, зьніжэньне каштоўнасьці і падвышэньне якасьці яго рамонту, на максымальную нагрузку і ўшчыльненьне рабочага дня с-г. машын і інвэнтару; экономію гаручага і змазачнага матар'ялу; лепшы нагляд за машынамі; збор і выкарыстаньне адкідаў (масла, часткі машын); правільнасьць расстаноўкі і скарыстаньня інвэнтару па брыгадах, вучастках і экономіях, сваечасовасьць выхаду на работу і выкананьня гэтых работ, вытворчасьць с-г. машын і інвэнтару; сваечасовасьць і правільнасьць падрыхтоўкі глебы, насеньня (падбор гатункаў, чыстка і інш.); максымальнае пашырэньне пасеваў, сваечасовасьць здачы с-г. продуктаў, выкананьне і перавыкананьне плянаў загатовак і на організацыю сустрэчнага вытворчага фінансавага пляну ў колгасах і саўгасах.

2. Дасьледваньне нагляду за пасевамі (баранаваньне азімых вясной, сваечасовае змаганьне з сьмяцьцёвай расліннасьцю, сваечасовае прарэджваньне і асыпка асыпных культур, барацьба з шкоднікамі палёў і інш.).

3. Трэба абавязкова дасьледваць, ці сваечасова і наколькі поўна выкананы плян зяблевага ворыва, агро- і зоомінімуму і мэліорацыйных палепшаньняў.

4. У справе вывучэньня жывёлагадоўлі неабходна выявіць: рост статку ў колгасах і саўгасах (сьвіней, кароў, авечак і г. д.), павялічэньне ўдою, лепшы адкорм і падвышэньне продукцыйнасьці жывёлы, правільнасьць кармленьня, сіласаваньне кармоў, укомплектаваньне статку вытворнікамі і матачным матар'ялам, выхоўваньне маладняку, будаўніцтва і мэханізацыя скотных двароў і сьвінарнікаў.

5. Надзвычайна вялікае значэньне мае вывучэньне організацыі працы ў колгасах і саўгасах: правільная організацыя брыгад; увядзеньне зьдзельнай працы і норм выпрацоўкі; расстаноўка, скарыстаньне і вучот рабочай сілы; павялічэньне продукцыйнасьці працы і працоўнай дысцыпліны; організацыя соцспаборніцтва і ўдарніцтва; зьніжэньне сабекошту і адміністрацыйных выдаткаў; правільнасьць разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў у колгасах і інш.

6. У справе дасьледваньня новага прыліву ў колгасы і масавай працы ў колгасах і саўгасах неабходна выявіць: наладжваньне правільных узаемадаадносін колгасаў і саўгасаў з індывідуальнымі гаспадаркамі; організацыю і працу вярбовачных камісій, груп садзейнічаньня ўцягненьню адзінаасобнікаў у колгасы; дапамогу колгасаў і саўгасаў бядняцка-серадняцкім гаспадаркам і прыцягнене іх на працу ў колгасы і саўгасы; колькасьць уцягнутых у колгасы індывідуальных гаспадарак; працу з беднатой, жанчынамі і моладзьдзю; організацыю соцспаборніцтва і ўдарніцтва (у саміх колгасах і саўгасах і паміж імі); працу вытворчых нарад і г. д.

7. Дасьледваць, наколькі сваечасова і правільна праведзены будаўнічыя работы і рамонт будынкаў у саўгасах і колгасах, якія ёсьць дасягненьні ў зьніжэньні сабекошту ў будаўніцтве і рамонце.

8. Вывучыць правільнасьць пастаноўкі вучоту і рахункаводзтва, справаздачнасьці, рост капіталаўкладаньняў, непадзельных капіталаў і інш.

9. Вялікую ўвагу неабходна зьвярнуць і на дасьледваньне організацыі працы культурна-бытавых устаноў у колгасах і саўгасах: організацыя грамадзкага харчаваньня, лазьняў, пральняў, мэдыцынскага і вэтэрынарнага абслугоўваньня, організацыя школ, лікпунктаў, хатчытальняў і чырвоных куткоў, дзіцячых дамоў, яасьляў, пляцовак, організацыя і праца грамадзкіх організацый, організацыя культурнага абслугоўваньня ў часе палявых работ, організацыя вайсковай падрыхтоўкі і г. д. [1]).

Адначасова з вывучэньнем дасягненьняў па ўсіх вышэйпаказаных пытаньнях неабходна выявіць і ўсе недахопы ў колгасах і саўгасах (па адпаведных разьдзелах) і вызначыць конкрэтныя мерапрыемствы і шляхі для зьнішчэньня ўсіх выяўленых недахопаў, скарыстоўваючы вопыт і дасягненьні лепшых колгасаў і саўгасаў, дзеля чаго павінны рабіцца выезды ў суседнія колгасы і саўгасы з мэтай вывучэньня іх дасягненьняў і недахопаў.

Апрача актыўнага ўдзелу ў дасьледваньні дасягненьняў і недахопаў у колгасах і саўгасах, краязнаўчыя організацыі павінны прыняць

---

[1]) Паводле інструкцыі Белколгасцэнтру.

такі-ж актыўны ўдзел у арганізацыі грамадзкіх буксіраў для падцягваньня і дапамогі тым колгасам і саўгасам, якія адстаюць у паасобных галінах працы.

Праца брыгад і разам з імі краязнаўчых арганізацый па агляду дасягненьняў і рацыяналізатарскіх прапаноў у колгасах і саўгасах павінна разгарнуцца ў самы шырокі рух за баявыя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ўсіх колгасьнікаў і рабочых саўгасаў, ахапляючы і бядняцка-серадняцкія масы вёскі. На аснове выяўленых дасягненьняў і рацыяналізатарскіх прапаноў неабходна разгарнуць шырокі рух колгасьнікаў і рабочых колгасаў па складаньню сустрэчных вытворчых плянаў з улічэньнем усіх рэальных магчымасьцяй і творчай ініцыятывы мас.

Двухмесячнік агляду неабходна выкарыстаць таксама ў мэтах самай шырокай популярызацыі задач савецкага краязнаўства, як аднэй з форм актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве шырокіх працоўных мас, і арганізацыі ва ўсіх колгасах і саўгасах дзейных краязнаўчых гурткоў, у якія неабходна ўцягнуць шырокія масы колгасьнікаў і рабочых саўгасаў. У процэсе працы брыгад па вывучэньню дасягненьняў у соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі краязнаўчыя арганізацыі павінны азнаёміць колгасьнікаў і рабочых саўгасаў з найлепшымі мэтодамі дасьледваньня сучаснага савецкага краязнаўства, з тэхнікай апрацоўкі матар'ялаў для скарыстаньня іх у дакладах і для друку.

У правядзеньні двухмесячніка агляду найлепш можна паказаць практычнае значэньне краязнаўчай дасьледчай працы ў соцыялістычным будаўніцтве, што дасьць стымул для арганізацыі краязнаўчых гурткоў і музэяў (вытворчага характару) у саўгасах і колгасах.

Неадкладнае ўключэньне ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР у працу раённых камісій і брыгад (у колгасах і саўгасах) па агляду дасягненьняў, шырокая популярызацыя гэтых дасягненьняў, выяўленьне недахопаў у соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі і распрацоўка мерапрыемстаў па зьнішчэньню іх, удзел у складаньні вытворча-фінансавых плянаў колгасаў і саўгасаў на аснове выяўленага вопыту лепшых колектыўных і савецкіх гаспадарак, удзел у арганізацыі масавага соцспаборніцтва і ўдарніцтва, уцягненьне ў колгасы новых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, шырокая популярызацыя задач савецкага краязнаўства ў соцыялістычным будаўнітве і арганізацыя краязнаўчых гурткоў і гурткоў вынаходніцтва ў саўгасах і колгасах—вось асноўныя задачы ўсіх краязнаўчых арганізацый на працягу ўсяго двухмесячніка і бліжэйшага часу.

**В. Шчарбакоў.**

---

# Краязнаўства і антырэлігійная праца.

Рабочая кляса Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і пры актыўным удзеле бядняцка-серадняцкіх мас сялянтства вядзе напружную працу ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва. Кожны дзень, кожны месяц і кожны год прыносяць нам усё новыя і новыя перамогі на фронце гаспадарчага будаўніцтва, на фронце культуры. Вырастаюць новыя фабрыкі і заводы, пабудаваныя па апошняму слову тэхнікі, колектывізуецца вёска, падымаецца культурны ўзровень працоўных мас, перабудоўваецца наш быт. Адбываецца шпаркае накап-

леньне элемэнтаў новай пролетарскай культуры, закладваецца моцны фундамант новага грамадзтва — социялізму. У процэсе новага будаваньня, у процэсе пераробкі ўсяго нашага ладу ствараюцца новыя грамадзкія адносіны, узбагачаецца наша практыка, перавыхоўваюцца масы.

Гэты процэс социялістычнага будаўніцтва, які мае сусьветна-гістарычнае значэньне, не працякае, аднак, гладка. Ён зьяўляецца складаным процэсам. На яго шляху ёсьць шмат перашкод, ня мала сіл, якія ўсялякім чынам затрымліваюць нашу працу. Рэшткі эксплёататарскіх кляс, рэакцыйна-буржуазная інтэлігенцыя, кулацтва і рознага роду нацыяналісты і шовіністы напружваюць усе свае сілы, каб затрымаць пасьпяховы ход социялістычнага будаўніцтва, сарваць нашы пляны, завярнуць ход гістарычнага разьвіцьця ў бок капіталістычнай рэстаўрацыі. Яны ніяк ня могуць згадзіцца з усім тым, што ім даводзіцца наглядаць у Савецкім Саюзе. Усімі сіламі яны хочуць адцягнуць сваю пагібель. Яны хочуць старога, яны прагнуць улады і эксплёатацыі над шматмільлённымі масамі. Кулацтва, якое ліквідуецца на базе суцэльнай колектывізацыі, буржуазная інтэлігенцыя, якая пазбаўлена сваіх прывілей, рэшткі паноў і капіталістых, папы, ксяндзы і рабіны — уся гэта зграя шукае ўсіх сродкаў супроць дыктатуры пролетарыяту супроць пролетарскай рэволюцыі.

Будучы заядлымі ворагамі савецкай улады, яны, гэтыя абломкі старога абшарніцка-капіталістычнага ладу, на працягу 13 год існаваньня дыктатуры пролетарыяту вялі самую жорсткую барацьбу супроць тых, хто ўзьняў сьцяг Кастрычніка, хто моцна трымае ў сваіх мазольных руках гэты сьцяг, хто з гэтым сьцягам будуе новы лад, у якім ня будзе эксплёатацыі чалавека чалавекам, дзе будзе росквіт новай культуры, дзе праца з цяжкага ярма стане ўсеагульнай радасьцю.

Усе сродкі, усе спосабы паспрабавалі гэтыя ворагі працоўных мас супроць дыктатуры пролетарыяту. Адчыненая ўзброеная барацьба белагвардзейскіх банд, кулацкія паўстаньні, бандыцкія напады, забойства з-за вугла, агітацыя з царкоўных амбонаў, крыжовыя паходы з заклікамі супроць „барбараў“ і бязбожнікаў, узрывы і падпалы, шкодніцтва і контр-рэволюцыйныя змовы, нацкоўваньне працоўных адной нацыі на працоўных другой, заклік да інтэрвэнцыі, організацыя падпольных контр-рэволюцыйных партый і організацый, спадман і ліцэмерра, усё, што толькі можна прыдумаць — усё гэта было паспрабавана ў барацьбе супроць пролетарскай рэволюцыі, супроць социялізму. Якой-бы та ні была цаной гэтыя шкоднікі і контр-рэволюцянэры, дармаеды і прадажніцкая сволач гатовы былі затапіць пролетарыят колгасьнікаў, батракоў і бядняцка-серадняцкае селянства ў іх уласнай крыві і на іх трупах, на руінах савецкай улады зноў пабудаваць капіталістычнае грамадзтва.

Вось чаго хоча гэтая прадажніцкая зграя, вось за што яна вядзе барацьбу, вось куды яна імкнецца. Гэта програма тых, хто будаваў „прампартыю“, хто на працягу шмат год зрываў наша будаўніцтва, хто шкодзіў, нёс голад, разбураў нашы пляны і цяпер сядзіць на лаве падсудных, і каго рука пролетарскага правасудзьдзя бязьлітасна пакарае.

За гэту самую програму па сутнасьці змагаліся і тыя, хто стварылі контр-эволюцыйную організацыю ў БССР, хто змагаўся за польскі фашызм, за аднаўленьне прыватнай уласнасьці абшарнікаў і капіталістых, за кулака эксплёататара, за буржуазную нацыяналістычную культуру, за буржуазную рэстаўрацыю, за тое, каб Савецкая Беларусь зрабілася колёніяй капіталістычнай Эўропы і фашыстаўскай Польшчы. Гэта тыя,

імя якіх *беларускія контр-рэволюцыйныя нацыянал-дэмократы;* гэта тыя, на чале якіх былі Лёсікі, Некрашэвічы, Ластоўскія, гэта тыя, якія пад крылом нацыянал-опортуністых, перавярнуўшы лябараторыі і габінэты навуковых устаноў БССР і перш за ўсё Беларускай Акадэміі Навук — гэтай заваёвы пролетарскай рэволюцыі—у свае контр-рэволюцыйныя гнёзды, рабілі на працягу шмат год сваю шкодную агідную справу. З імі органы дыктатуры пролетарыяту разьлічацца так, як распраўляліся з часу Кастрычніка з рознага роду іншымі шкоднікамі і контр-рэволюцыянэрамі.

Пролетарыят і бядняцка-серадняцкія масы сялянства на працягу 13 год існаваньня савецкай улады ўпарта абаранялі заваёвы пролетарскай рэволюцыі, грудзьмі абаранялі СССР ад усялякіх замахаў як з боку ўнутраных, так і з боку замежных ворагаў, у той-жа час напружвалі ўсе свае сілы на фронце будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі і пролетарскай культуры. У адказ на выступленьні нашых ворагаў працоўныя масы заўсёды адказвалі яшчэ большымі патугамі на фронце будаўніцтва соцыялізму, яшчэ большым энтузыязмам, яшчэ большай адданасьцю савецкай уладзе, яшчэ большай пільнасьцю.

Зараз, у момант самай жорсткай клясавай барацьбы, у момант мобілізацыі клясавым ворагам усіх сваіх сіл, на вылазкі Рамзіных, Лёсікаў, Нэкрашэвічаў пролетарыят, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы адказваюць яшчэ большым працоўным энтузыязмам, яшчэ большай згуртаванасьцю вакол комуністычнай партыі. Да напружанай працы працоўных мас, да іх працоўнага энтузыязму, да лёзунгу пролетарыяту „Пяцігодка ў 4 гады" далучаецца сумленная адданаяса вецкай уладзе інтэлігенцыя і савецкія спэцыялісты.

На контр-рэволюцыйныя змовы нашых ворагаў усе навуковыя, грамадзкія, культурныя і асьветныя ўстановы нашага Саюзу і ў тым ліку нашай Савецкай Беларусі павінны адказаць так, як адказвае пролетарыят. Яны павінны згуртаваць свае сілы вакол комуністычнае партыі, шырока разгарнуць працу на сваім вучастку, узьняць дысцыпліну, праявіць максымум працаздольнасьці, выкрываць ворагаў, бязьлітасна адкідваючы іх з сваіх організацый, узмацніць пільнасьць на ідэолёгічным фронце, праявіць максымум пролетарскай вытрыманасьці ў сваёй працы, удзесяцярыць сваю энэргію, накіроўваючы яе ў бок ўсямернага садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву, разьвіцьця пролетарскай культуры, па шляху барацьбы з усімі тымі, хто перашкаджае нашаму новаму будаўніцтву, з абломкамі рэакцыйнага мінулага.

Краязнаўчыя організацыі ў справе дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву, у справе будаваньня новага грамадзтва, у справе барацьбы за пролетарскую культуру, за новы пролетарскі быт павінны адыграць адну з важнейшых роляў. Яны могуць і павінны ўзьняць шырокую савецкую грамадзкасьць на справу вывучэньня і скарыстаньня ўсяго таго, што можа прысьпешыць нашы тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, на справу выкрыцьця і барацьбы з усім тым, што перашкаджае гэтаму будаўніцтву.

Будаўніцтва новага соцыялістычнага грамадзтва зьяўляецца надзвычайна складаным процэсам. Для пабудовы новага будынку патрэбны ня толькі пляны, патрэбна ня толькі пэрспэктыва і яскравае ўяўленьне мэты, да якой мы імкнемся, ня толькі здольнасьць будаваць,—для гэтай пабудовы патрэбны і матар'ялы. З усяго, што мы маем, трэба ўмець адабраць усё вартае, трэба, апрача гэтага, адкінуць і ўсё непатрэбнае, шкоднае.

Новае будуемае намі соцыялістычнае грамадзтва зьяўляецца надзвычайна складаным, шматгранным. Мы-ж ня толькі будуем новыя фабрыкі і заводы, ня толькі будуем моцныя электрастанцыі, мы ствараем і новую культуру, мы перабудоўваем і наш быт, мы перараджаем псыхолёгію і погляды самога чалавека. Разам з будаўніцтвам новай матар'ялістычнай культуры, мы будуем іншую, кажучы старой мовай, і духоўную культуру.

Пры правядзеньні гэтай найскладанай працы нам перш за ўсё патрэбна ведаць, што мы маем; нам трэба ведаць і бачыць увесь той „матар'ял", які патрэбны для нашага будаўніцтва, трэба бачыць і ўсе тыя элемэнты матар'яльнай і духоўнай культуры, якія намі павінны быць адкінуты, як непатрэбныя.

Процэсам соцыялістычнага будаўніцтва ахоплена ўся наша Савецкая краіна. Паўсюды ідзе напружная, упартая, крапатлівая праца. Нам трэба бачыць гэту працу, ведаць, як яна ідзе, як скарыстоўваюць усе тыя элемэнты, усе тыя сілы, матар'ялы, якія мы маем і якія можна і трэба скарыстаць у нашым вялікім соцыялістычным будаўніцтве. Гэта праца вымагае ад нас максымум энэргіі, уменьня, максымум прадбачнасьці, максымум узгодненасьці.

Краязнаўчыя організацыі ў гэтым могуць і павінны адыграць вялікую ролю. Для максымальнага скарыстаньня ўсяго таго, што мы маем, трэба ведаць, дзе ўсё гэта, у якім выглядзе яно знаходзіцца. Краязнаўчыя організацыі павінны накіраваць усе свае сілы на вывучэньне, выкрыцьцё і вытворчых сіл той ці іншай мясцовасьці, і тых рэсурсаў, якія гэта мясцовасьць мае, і ўсіх тых элемэнтаў матар'яльнай і духоўнай культуры, якія мы можам скарыстаць для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва. Яны—нашы шчупальцы на мясцох. Яны могуць і павінны адыграць вялікую ролю ў справе вывучэньня і скарыстаньня ўсяго таго, што прысьпешыць нашы тэмпы будаўніцтва, што палегчыць нашу працу. Вывучаць прыроду і яе сілы ў мэтах скарыстаньня, ускрываць дадатныя элемэнты ў нашай складанай працы, запазычваць лепшыя ўзоры працы з мэтай іх прымяненьня, адзначаць новыя дадатныя тэндэнцыі ў працы, у быце, у культуры, новыя расткі нашага жыцьця, дзяліцца думкамі аб іх, садзейнічаць іх разьвіцьцю, абменьвацца практыкай соцыялістычнай працы— вось важнейшыя задачы краязнаўчых організацый.

Але ня толькі ў гэтым павінна быць праца гэтых організацый. Мы ўжо казалі, што наша будаўніцтва зьяўляецца вельмі складаным і шматгранным. Вельмі складанай зьяўляецца і тая абстаноўка, у якой гэта будаўніцтва адбываецца. Нам трэба ведаць гэту абстаноўку, каб палегчыць процэс будаўніцтва, прысьпешыць яго. Ведаць трэба ня толькі ўсё тое, што спрыяе нашай працы, але і ўсё тое, што ёй перашкаджае. У нашым быце, у нашай абстаноўцы, у нашым жыцьці, у нашых звычках, поглядах і псыхолёгіі ёсьць надзвычайна шмат рэштак мінулага, што вырасла ў абстаноўцы дарэволюцыйнага часу, шмат адмоўных, шкодных для нашага будаўніцтва, для дыктатуры пролетарыяту элемэнтаў узьнікае і цяпер, у нашых умовах, паколькі яшчэ існуюць рэшткі ранейшых эксплёататарскіх клясаў, абломкі капіталістычнай культуры, паколькі яшчэ існуе неліквідаванае намі кулацтва, паколькі яшчэ існуе ў тым ці іншым выглядзе прыватная ўласнасьць.

Усе гэтыя адмоўныя элемэнты, усе гэтыя моманты, якія перашкаджаюць нашаму будаўніцтву, мы таксама павінны вывучаць,

ускрываць, каб з імі змагацца, каб іх зьнішчаць і перашкаджаць іх разьвіцьцю. Носьбітамі ўсіх гэтых элемэнтаў зьяўляюцца пэўныя групы насяленьня, сярод якіх ёсьць шмат і такіх, каторыя сваёй дзейнасьцю дапамагаюць не барацьбе з гэтымі элемэнтамі, ня зьнішчэньню іх, але наадварот дапамагаюць іх росту, іх умацаваньню.

Ведаць гэтыя элемэнты, якія ўзьнікаюць у нашых умовах, ускрываць тыя з іх, якія нам давялося атрымаць ад мінулага дарэволюцыйнага часу, аб царска-капіталістычнай Расіі, ускрываць конкрэтных носьбітаў іх і перш за ўсё тых, якія сьвядома сваёй дзейнасьцю дапамагаюць разьвіцьцю і ўмацаваньню ўсяго антыпролетарскага, антысоцыялістычнага, антысавецкага—усё гэта таксама зьяўляецца задачамі нашых краязнаўчых організацый.

Але справа ня толькі ў тым, каб мы вывучалі, ускрывалі ўсе тыя сілы, сродкі, якія альбо садзейнічаюць, дапамагаюць нашаму будаўніцтву, альбо, наадварот, затрымліваюць, перашкаджаюць яму. Калі-б толькі гэтым займаліся нашы краязнаўчыя організацыі, яны не занялі-б тое месца, якое мы адводзім ім у барацьбе за соцыялізм, за дыктатуру пролетарыяту, за пролетарскую рэволюцыю. Ня толькі пасыўна вывучаць, назіраць увесь шматгранны процэс будаўніцтва і барацьбы ў нашай краіне павінны краязнаўчыя організацыі, але самі павінны актыўна ўдзельнічаць у гэтай барацьбе, максымальна скарыстоўваць для практычнай дзейнасьці і другімі організацыямі і самімі краязнаўцамі атрыманых ад вывучэньня вынікаў.

Краязнаўцы і краязнаўчыя організацыі павінны стаць у шэрагі актыўных барацьбітоў за соцыялістычнае грамадзтва, за індустрыялізацыю і колектывізацыю, за новую, пролетарскую культуру.

З гэтага пункту погляду роля краязнаўчых організацый у справе барацьбы супроць рэлігіі ва ўсіх яе праявах, у справе ўдзелу ў антырэлігійнай працы, у справе будаўніцтва антырэлігійнай культуры і антырэлігійнага быту павінна быць выключнай. Мы цяпер вядзем барацьбу супроць рэлігіі, супроць царкоўнікаў не абстрактнага характару, але барацьбу, неадлучную ад усяго процэсу соцыялістычнага будаўніцтва. Антырэлігійны фронт мы разглядаем, як фронт клясавы. Царкоўнікі і рэлігійнікі разам з абломкамі капіталістычных клясаў, разам з буржуазнай інтэлігенцыяй, разам з кулацтвам вядуць упартую барацьбу супроць нашага будаўніцтва, супроць нашай пролетарскай культуры. Яны агітуюць і ня толькі агітуюць супроць колектывізацыі, яны перашкаджаюць выхаваньню ў комуністычным напрамку нашай моладзі, яны сваёй працай паслабляюць абароназдольнасьць нашага Саюзу, яны змагаюцца супроць новага быту.

Краязнаўчыя організацыі ў сваёй працы павінны зьвярнуць сур‘ёзную ўвагу на гэты вучастак барацьбы, на антырэлігійны фронт. Гэты апошні ня толькі ня страціў для нас значэньня цяпер, але набыў яшчэ большае. Антысавецкія элемэнты актывізуюцца, і разам з імі актывізуецца поп, ксёндз, рабін, сэктант. Царква і рэлігія, апіраючыся на культурную адсталасьць мас і асабліва на адсталасьць сялянак, на старыя бытавыя звычкі, на несьвядомасьць адсталых мас, усялякім чынам перашкаджаюць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву і росту культурнасьці працоўных мас. Сярод сялянства, мяшчанскіх пластоў насяленьня ёсьць яшчэ высокі процант рэлігійных.

Антырэлігійны фронт нам неабходна ўмацаваць. Антырэлігійную працу нам неабходна ўзьняць. У нашых умовах у БССР гэта праца вельмі слаба. Вораг гэтым карыстаецца.

Што могуць і што павінны зрабіць нашы краязнаўчыя організацыі ў справе ўмацаваньня антырэлігійнага фронту? Яны перш за ўсё павінны адыграць вялікую ролю ў справе вывучэньня нашага ворага на гэтым фронце. Гэтага ворага мы павінны добра ведаць. Цяжка змагацца з тым, каго мы добра ня ведаем. Трэба аддаць сур'ёзную ўвагу вывучэньню гэтай зграі рэлігійнікаў, царкоўнікаў, трэба выкрываць іх манэўры, іх мэтоды працы і ўзьдзейнічаньня на масы. Нам трэба ведаць, што адбываецца цяпер у настроях шырокіх сялянскіх мас у дачыненьні да рэлігіі, якія процэсы ў гэтым напрамку адбываюцца сярод сялянства і іншых груп насяленьня, як масы адносяцца да царкоўнікаў і рэлігійнікаў, якое наведваньне царквы, касьцёлу, сынагог і малітвеных дамоў, якія групоўкі існуюць цяпер сярод рэлігійнікаў, у якім напрамку вядзецца цяпер праца сярод дзяцей, якія конкрэтныя формы барацьбы з соцыялістычным будаўніцтвам ужываюць цяпер царкоўнікі і рэлігійнікі. Аб усім гэтым антырэлігійнік павінен ведаць, каб яго удар па рэлігіі, па царкоўніку быў найбольш вострым і трапным. Няма чаго казаць аб тым, што мы нашага супраціўніка на гэтым фронце мала ведаем, часам і зусім ня ведаем.

Як царкоўнік і рэлігійнік змыкаецца з шкоднікам, з контр-рэволюцыянэрам, з кулаком, з нацдэмам і шовіністым—аб усім гэтым нам вельмі трэба ведаць, каб на падставе ўсяго гэтага распрацоўваць свае мэтоды барацьбы з ворагам. Краязнаўчыя організацыі ў гэтым напрамку павінны праводзіць вялікую і бязупынную працу. Яны павінны ўзбагаціць нас адпаведнымі матар'яламі. На падставе іх мы зможам умацаваць наш антырэлігійны фронт.

Але краязнаўчыя організацыі павінны ня толькі займацца вывучэньнем рэлігійнікаў і рэлігійных настрояў мас. Не! Яны разам з гэтым павінны вывучаць і нашы сілы, сілы ваяўнічых бязбожнікаў, працу тых, хто павінен весьці і вядзе антырэлігійную барацьбу, як яна праводзіцца на мясцох, хто яе вядзе, які стан ячэек саюзу бязбожнікаў на мясцох, іх склад, як вядзецца іх праца, якія формы і мэтоды гэтай працы, пры якіх умовах праца адпаведных організацый мае найлепшыя вынікі, што перашкаджае разгортваньню антырэлігійнай працы на мясцох — усім гэтым краязнаўчыя організацыі павінны цікавіцца, аб гэтым яны павінны пісаць, увесь матар'ял па гэтых пытаньнях яны павінны зьбіраць і найбольш мэтазгодна скарыстоўваць.

Вялікая праца ў галіне антырэлігійнага выхаваньня нашай моладзі павінна праводзіцца нашымі школамі. Як яна праводзіцца, як настаўніцтва адносіцца да антырэлігійнай працы, якая ступень рэлігійнасьці сярод нашых дзяцей—гэтымі пытаньнямі краязнаўцы таксама павінны займацца. Краязнаўчыя організацыі павінны зараз асабліва вялікую ўвагу аддаваць вывучэньню быту і будаўніцтва новага быту. У справе рэконструкцыі быту савецкімі, коопэрацыйнымі і іншымі організацыямі праводзіцца досыць вялікая праца. Гэта праца асабліва пачынае цяпер разгортвацца ў нашых комунах і колектывах. Як ідзе гэта праца на мясцох, якая барацьба ўзьнікае вакол гэтай справы, якія дасягненьні ёсьць у гэтай галіне — мы часта аб усім гэтым ня ведаем і ня маем адпаведных матар'ялаў. Між тым веданьне конкрэтнага матар'ялу, конкрэтнай працы і конкрэтных форм барацьбы вакол быту і ў сувязі з рэконструкцыяй яго магло-б адыграць вялікую ролю ў справе паляпшэньня нашай працы ў гэтым напрамку.

Краязнаўчыя організацыі павінны ўнесьці ў пляны сваёй працы і бытавую галіну, уплыў рэлігіі і рэлігійнікаў на быт. Пытаньні за-

трымліваньня рэлігіяй працы па рэконструкцыі нашага быту. Вывучэньне бытавых абрадаў, рэлігійных і рэволюцыйна-грамадзкіх абрадаў, вывучэьне новых пачынаньняў у гэтым напрамку, расткоў новага антырэлігійнага быту — усё гэта павінна быць об'ектам вывучэньня краязнаўчымі організацыямі.

Было-б няправільна, каб краязнаўчыя організацыі на фронце антырэлігійнай барацьбы абмежаваліся толькі вывучэньнем рэлігіі, духавенства, іх тактыкі, вывучэньнем форм і мэтодаў барацьбы бязбожнікаў, працы школы і іншых організацый у гэтым напрамку. Не! Краязнаўчыя організацыі павінны самі стаць у шэрагі барацьбітоў з рэлігіяй і рэлігійным бытам. Яны павінны актыўна дапамагаць працы нашых ячэек саюзу бязбожнікаў, павінны дапамагаць настаўніцтву ў справе антырэлігійнага выхаваньня дзяцей, яны павінны першымі браць новыя пачынаньні мас у справе разьвіцьця і будаўніцтва новага быту. У гэтым краязнаўцы павінны быць актыўнымі. Яны павінны праяўляць сябе актыўнымі барацьбітамі за новую, пролетарскую, атэістычную культуру. Ня прыходзіцца казаць аб тым, што нашы краязнаўчыя організацыі вельмі малую ўвагу аддавалі гэтай галіне працы. Часопіс „Наш Край“ з яго мінулым опортуністычным кіраўніцтвам, з яго нацдэмаўскімі ўстаноўкамі да гэтага часу не аддаваў належнай увагі гэтай галіне працы, ён ігнараваў гэтую працу ў поўнай згодзе з буржуазнымі нацыяналістамі. Рашуча павярнуць у бок барацьбы за новы соцыялістычны быт, вырваць рэшткі карэньняў рэлігійнасьці — неадкладная задача краязнаўчых таварystваў.

---

С-іч.

# Кароткая програма па вывучэньню быту колгасьнікаў

Сучасны момант колгаснага будаўніцтва зьяўляецца вельмі цікавым момантам, калі яшчэ застаюцца ня зжытымі старыя звычаі, традыцыі, псыхолёгія ўласьніка, і разам з тым нараджаецца новае: новыя колектывістычныя звычаі, колектыўная псыхолёгія, новыя звычаі і ўзаемаадносіны; ламаецца стары быт і нараджаецца новы быт, комуністычны. Вывучэньне новага быту ў колгасах (пры няизжытых яшчэ старых традыцыях) мае падвойнае значэньне: а) адбіцьцё пэўнага гістарычнага моманту ў грамадзкім жыцьці і б) выяўленьне ўсіх дадатных, а таксама і адмоўных бакоў у організацыі новага быту, што павінна быць улічана ў далейшай практычнай працы, у новых колгасах, якія далей будуць організоўвацца шпаркім тэмпам.

Ніжэй падаецца прыкладная програма па вывучэньню быту колгасьнікаў, на якую трэба глядзець, як на орыентовачную програму, і якую магчыма зьмяніць у залежнасьці ад мясцовых умоў.

Пры складаньні данай програмы мною выкарыстана „Программа по изучению быта рабочих“, складзеная Л. Кіціцыным і В. Сьмірновым (выд. ЦБК РСФСР, 1929 г.).

З прычыны важнасьці вывучэньня быту колгасьнікаў для практычных мэт колгаснага будаўніцтва краязнаўчым організацыям і паасобным краязнаўцам трэба неадкладна ўзяцца за гэту справу.

## I Вытворчы быт колгасьнікаў.

1. Дакладна вызначыць, у якой арцелі ці комуне праводзілася вывучэньне быту колгасьнікаў; да якога часу належаць весткі і якім спосабам яны зьбіраліся.

Адзначыць час організацыі колгасу, месца яго знаходжаньня ад чыгункі, прамыслова-экономічных і культурных цэнтраў і даць кароткую характарыстыку экономічнага і культурнага раёну і вёсак, з якіх організаваўся колгас: забясьпечанасьць зямлёй і яе ўраджайнасьць, забясьпечанасьць жывёлай, жывым і мёртвым інвэнтаром (машынамі), с.-гаспадарчая тэхніка і прамысловасьць, адходныя промыслы (якія і куды), граматнасьць.

2. Каго прымаюць у калгас і якія прад'яўляюцца запатрабаваньні. Ці былі выпадкі адмаўленьня ў прыёме батракам і беднаце і прыёме заможных. Прывядзеце прыклады адмаўленьня ў прыёме ў колгас з розных прычын. Як адносяцца старыя колгасьнікі да новых, прынятых у колгас.

3. Апішэце таварыскія ўзаемаадносіны колгасьнікаў у працы: адносіны дарослых, старых і падлеткаў, больш моцных і здаровых і слабейшых, беднякоў і серадмякоў (у таварыствах, арцелях), больш спрытных да работы да менш спрытных і напрактыкаваных і інш. Выявіць, як часта бываюць тыя ці іншыя спрэчкі, скаргі; іх характар і прычыны; ці ня маюць месца нетаварыскія ўчынкі з жаданьнем пашкодзіць таварышу. (Прывесьці прыклады і паказаць прычыны). Выпадкі скрываньня шкодных учынкаў у вытворчасьці (па якіх мотывах). У якіх формах і памерах мае месца таварыская дапамога ў працы. Паказаць, як у калгасе (арцелі, комуне) зьмяняюцца таварыскія ўзаемаадносіны ў вытворчасці ў параўнаньні з узаемаадносінамі ў вёсцы і як тыя ці іншыя адносіны спрыяюць (або перашкаджаюць) павялічэньню продукцыйнасьці працы.

4. Адносіны колгасьнікаў да спэцаў, кіраўнікоў розных галін гаспадаркі, членаў праўленьня, настаўнікаў, селькораў і інш.; калі сустракаюцца непаразуменьні, дык на якой глебе. Адзначыць, якія запатрабаваньні выстаўляюць колгасьнікі ў адносінах да вышэйпамянёных катэгорый працаўнікоў.

5. Даць характарыстыку ўзаемаадносін розных экономічных груп насельніцтва ў с-г. арцелях і таварыствах: адзначыць, ці ня бываюць непаразуменьні, выяўленьне зайздрасьці і інш.

6. Якія можна заўважыць новыя інтэрнацыянальныя моманты ў узаемаадносінах паміж колгасьнікамі розных нацыянальнасьцяй (беларусаў, яўрэяў, палякаў і інш.). Прывесьці прыклады гэтай інтэрнацыянальнасьці і паказаць, як і якімі мэтодамі праводзіцца інтэрнацыянальнае выхаваньне ў колгасе (прывесьці найбольш удалыя мэтоды і спробы).

7. Адносіны да жанчыны-колгасьніцы (у параўнаньні з адносінамі ў вёсцы). Калі ёсьць выпадкі крыўды, зьняважаньня жанчын і інш., дык прывесьці прыклады і разабраць прычыны такіх адносін, а так сама адзначыць і меры барацьбы з гэтымі перажыткамі. Праца ў колгасах жанчын-вылучэнак, грамадзкіх працаўніц.

8. Адносіны да дзяцей і падлеткаў у вытворчасьці (у параўнаньні комуны, с-г. арцелі, вёскі). Адзначыць, якімі мэтодамі вядзецца працоўная падрыхтоўка падлеткаў і зьнішчэньне эксплёатацыі дзіцячай працы ў гаспадарках, якія ўвайшлі ў колгас.

9. Як адносяцца колгасьнікі да жылых і надворных будынкаў свайго колгасу (колектыўных і індывідуальнага карыстаньня): захаваньне чыстаты, рамонт, беражлівасьць і догляд; прыстасаванасьць будынкаў для працы (майстэрняў, кухні, будынкаў, дзе праводзіцца малацьба, ачыстка насеньня і г. д.) у параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі ў вёсках.

10. Адносіны колгасьнікаў да аграмажданай маемасьці: машын, с.-гаспадарчага інвэнтару, жывёлы і інш. Прыклады нядбайных і няўважлівых адносін і меры барацьбы з імі. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на праяўленьне ашчадных і гаспадарчых адносін да колектыўнай маемасьці, імкненьне да ўдасканаленьня тых ці іншых машын і с.-гаспадарчых прылад. Калі ў колгасе мела месца псаваньне маемасьці, дык паказаць, як вядзецца змаганьне з такімі зьявішчамі і якія мэтоды ў калгасе лічацца найлепшымі для выхаваньня колгасьнікаў у напрамку колектыўнага карыстаньня с.-г. прыладамі і дагляду за імі.

У с.-г. арцелях вельмі важна параўнаць адносіны колгасьнікаў да колектыўнай і сваёй маемасьці.

11. Адносіны колгасьнікаў да працы: сваечасовасьць выхаду на працу, інтэнсыўнасьць працы; пропускі працоўных дзён, прагулы і іх прычыны, якая з імі вядзецца барацьба і якім чынам (спосабы ўплыву). Наколькі добрасумленна выконваецца праца колгасьнікамі (у параўнаньні з працай у індывідуальных гаспадарках; у с.-г. арцелях—праца ў сваёй гаспадарцы і колгасе). Адносіны да працы з боку моладзі і паджылых людзей, партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных, пісьменных і няпісьменных. Адносіны сьвядомых колгасьнікаў да нядбайных працаўнікоў, прагульшчыкаў.

12. Сродкі для падвышэньня працоўнай дысцыпліны: ужываньне карных мер (вымовы, папярэджаньні, перавод на іншыя работы, выключэньне з колгасу і інш.), заахвочваньне (выдача прэмій, вылучэнства і г. д.), роля самакрытыкі і ўплыў колектыву; прыклад партыйцаў, комсамольцаў. Як адносяцца колгасьнікі да мерапрыемстваў па падняцьцю працоўнай дысцыпліны. Роля колгаснай газэты ў барацьбе за працдысцыпліну. Роля ўдарных брыгад і адносіны да іх. Соцспаборніцтва ў колгасе, яго організацыя, уцягненьне колгасьнікаў і вынікі (новыя мэтоды і тэмпы працы).

(Вынікі падняцьця продукцыйнасьці працы пажадана даць у лічбовых даных альбо ў выглядзе дыяграмы).

13. Мерапрыемствы па падвышэньню кваліфікацыі колгасьнікаў, якія працуюць у розных галінах гаспадаркі: організацыя курсаў, дакладаў, камандыроўкі, выпіска адпаведнай літаратуры, завочная сыстэма падрыхтоўкі і інш. Высьветліць, у якіх галінах гаспадаркі адчуваецца асаблівая неабходнасьць у падвышэньні кваліфікацыі колгасьнікаў (колгасьніц); з боку якой катэгорыі колгасьнікаў выяўляецца асаблівае імкненьне да падвышэньня кваліфікацыі (моладзь, паджылыя людзі, мужчыны, жанчыны, пісьменныя і г. д.); якія мэтоды падвышэньня кваліфікацыі даюць налепшыя вынікі.

14. Як скарыстоўваецца час перапынку ў працы: сон, гутаркі, сьпевы, чытаньне газэты і інш. Якія пытаньні закранаюцца і абгаварваюцца ў час перапынку (вытворчага, палітычнага, бытавога характару і інш.).

15. Харчаваньне ў часе працы; з чаго складаецца сьнеданьне, абед, полудзень і вячэра ў розныя сэзоны (ворыва, сяўба, жніво,

касьба і інш.), дзе гатуецца страва, як дастаўляецца; у якой меры мае месца колектыўнае і індывідуальнае (у с.-г. арцелях) харчаваньне.

16. Адзеньне ў часе працы. Якое адзеньне ўжываецца мужчынамі, і жанчынамі на розных відах работ (ворыва, касьба, жніво, малацьба, даеньне кароў, праца ў садзе, на гародзе і г. д.). Апісаць спэцыяльныя віды адзеньня для розных работ. Параўнайце адзеньне колгасьнікаў раней і цяпер. (Пры апісаньні адзеньня трэба мець на ўвазе вопратку, абутак і галаўныя уборы).

17. Профэсійныя хваробы — няшчасныя выпадкі ў часе працы; меры папярэджаньня і барацьба з профэсійнімі хваробамі.

18. Мова працы. Адзначыць, як называюцца розныя с.-г. машыны і прылады, часьці машын, паасобныя моманты і процэсы працы, об‘екты (і часьці) прылажэньня працы, розныя катэгорыі рабочых; запісаць розныя працоўныя выклікі, зьвязаныя з рознымі момантамі працы (пачатак, астаноўка, узмацненьне тэмпу і інш.); розныя назвы продукцыі працы; як выражаюцца пажаданьні посьпеху ў працы; прывітаньні (словы трэба запісаць у цэлых сказах з паказаньнем фонэтычнага вымаўленьня і націску). Запісаць новыя працоўныя песьні жарты, прыслоўі і інш.

*Увага.* Вельмі пажадана падрабязна апісаць увесь працоўны дзень некалькіх колгасьнікаў (мужчын і жанчын) у розных відах працы і ў розныя поры году.

## II Хатні быт колгасьнікаў.

1. Склад тыповай сям‘і ў колгасе: колькі пакаленьняў жыве ў аднэй сям‘і (дзед, сын, зяць, унук); велічыня сем‘яў, лік едакоў працаздольных і непрацаздольных; які ўплыў робіць колгас на драбленьне або павялічэньне складу сем‘яў і чым гэта тлумачыцца.

2. Бюджэт колгасьніка. Гадавы (і пажадана памесячны) прыбытак сям‘і колгасьніка (узяць тыповыя сем‘і) з паказаньнем—крыніц прыбытку (зарплата ў колгасе, на адыходных промыслах і інш.); паказаць заробак і ўвесь прыбытак як усёй сям‘і, так і паасобных яе членаў. Выдаткі паасобных членаў і ўсёй сям‘і (асабліва патрэбна) на харчаваньне, адзеньне, культурныя патрэбы (якія?), на курэньне, алкоголь і г. д.

3. Кватэрныя ўмовы: жылая плошча, кубатура; асьвятленьне, ацяпленьне; лік пакояў і іх прызначэньне, якія работы выконваюцца ў кватэры ўлетку, узімку і ўвосень; ці ня трымаюцца ў кватэрах дробная жывёла і птушкі (якія і калі); як і наколькі падтрымліваецца чыстата ў кватэрах і сьвежасьць паветра; якія запасы спажываньня і продукты харчаваньня захоўваюцца ў кватэрах. Як у колгасе паляпшаюцца кватэрныя ўмовы.

Хатняе абсталяваньне: стол, стульля (лаўкі), шафы і портрэты, фотографіі і музыкальныя інструманты, радыё, кнігі, кветкі і інш.

4. Санітарна - гігіенічныя ўмовы жыцьця: утрыманьне вуліцы, двара (чыста, гразна); адхожыя месцы; дзе мыецца і сушыцца бялізна (агульныя пральні, сушкі); калі і як часта мыюцца дарослыя і дзеці; карыстаньне мылам; дагляд за зубамі; карыстаньне пасудаю для яды, выціральнікам; на чым і як сьпяць (на ложках, на лаўках, на печы; па адным па некалькі чалавек), чым накрываюцца (адзеньнем, коўдрай) і інш.

5. Даць апісаньне верхняга і ніжняга адзеньня па сэзонах: улетку, увосень, узімку; галаўныя ўборы, абутак; дзе вырабляецца і шыецца (дома, на фабрыцы) (пажадана даць фотоздымкі). Параўняць адзеньне колгасьнікаў (якія доўга ў колгасе) у параўнаньні з сялянамі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёсак.

6. Як арганізавана харчаваньне (агульная кухня, сталоўка, гатаваньне і харчаваньне дома); колькі разоў у дзень ядуць і што, якая розьніца ў харчаваньні дарослых і дзяцей. Наладзіць вядзеньне дзеньнікаў харчаваньня колектыву або паасобных сем'яў (тыповых) колгасьнікаў хаця-б на працягу тыдню (з паказаньнем часу). Паказаць розьніцу ў харчаваньні колгасьнікаў і сялян індывідуальных гаспадарак (беднякоў і серадиякоў), а таксама пры колектыўным і індывідуальным харчаваньні ў колгасе.

Якія напіткі ўжываюцца (вада, чай, квас, бярозавік, сыраватка і інш.), з чаго і як яны прыгатаўляюцца; ужываньне алкоголя (калі, як часта). Якія меры прыймаюцца да палепшаньня харчаваньня ў колгасе.

7. Як праводзіцца нерабочы час: калі ўстаюць і кладуцца спаць, колькі гадзін у суткі прыходзіцца на сон, на адпачынак, на хатнія работы; як і на што скарыстоўваецца вольны час (гульні, забавы, чытаньне, спорт і інш.).

8. Сямейныя адносіны: адносіны бацькоў і дзяцей, мужчын і жанчын у сям'і; адносіны да старых і малых. Працоўны дзень жанчыны. Якія зьмены ў сямейным жыцьці можна бачыць у сувязі з колектывізацыяй (памяншэньне хатніх спрэчак і непаразуменьняў), больш свабодныя адносіны ўсіх членаў сям'і і інш. Выпадкі разводаў і прычыны іх; адносіны сям'і і адносіны да разьведзеных і аліментшчыкаў.

9. Выхаваньне дзяцей. Дагляд за дзяцьмі ў доме, у часе працы на полі; хто зьяўляецца нянькамі малалетніх дзяцей; гігіенічныя ўмовы дзіцячага быту: кармленьне, мыцьцё, адзеньне і г. д.; ясьлі, дзіцячыя пляцоўкі, сады; пастаноўка працы ў іх. Як зжываюцца адмоўныя бакі ў выхаваньні дзяцей: біцьцё, лаянкі, лекі рознымі шэптамі і г. д.

Пэдпропаганда школы, пэдагогічнай і агульнай прэсы; новае ў выхаваньні дзяцей.

10. Быт моладзі. Ступень самастойнасьці моладзі ў сям'і (і з якога часу) раней і цяпер. Узаемаадносіны моладзі і старэйшых у сям'і (дзяцей, бацькоў, дзядоў) і моладзі паміж сабой (паміж брацьцямі і сёстрамі); якія бываюць конфлікты і на якой глебе. Удзел моладзі ў грамадзкай працы. Як праводзіць моладзь вольны час улетку і ўзімку (раней і цяпер), у буднія дні і рэволюцыйныя сьвяты. Што чытае моладзь і дзе бярэ кнігі, часопісі. Гульні і забавы (раней і цяпер). Уступленьне ў комсамол і адносіны да комсамольскай працы. Удзел і праца моладзі ў розных гуртках (якіх?). Імкненьне моладзі да падвышэньня сваіх ведаў, праца па самаадукацыі.

Наогул зьвярнуць увагу на тое новае, што нараджаецца ў быце сучаснай моладзі пры ўмовах колектыўнага жыцьця.

11. Барацьба з рэлігіяй. Адносіны да царквы і рэлігійных абрадаў і ўплыў антырэлігійнай пропаганды; праца ячэйкі бязбожнікаў у колгасе. Сьвяткаваньне рэволюцыйных сьвят і зжываньне сьвят рэлігійных. Як зжываюцца забабоны ў быце, рэшткі вераваньня ў розныя сілы прыроды, знахароў, ведзьмаў і інш. Асноўныя фактары, якія ўплываюць на матар'ялістычны сьветапогляд колгасьнікаў.

Важнейшыя моманты ў сямейным жыцьці і як яны цяпер спраўляюцца ў колгасах: нараджэньне дзіцяці, шлюб, пахаваньне і г. д. Адзначыць, што захавалася ад старых абрадаў і што ёсьць новага. Прывесьці прыклады, апісаньні, даць фотаздымкі.

12. Адзначыць, якія моманты і ўмовы асабліва ўплываюць на зьмену быту ў колгасах: уплыў партыйнай і комсамольскай ячэек, рабочых (праз шэфства і інш.), савецкага друку і г. д.

Пажадана запісаць новыя творы народнай творчасьці, зьвязаныя з жыцьцём і бытам у колгасе (з паказаньнем калі, дзе і ад каго запісаны той ці іншы твор).

## III Грамадзкі быт.

Шляхам непасрэдных назіраньняў, апытаньняў колгаснага актыву і з насьценных газэт, з матар'ялаў грамадзкіх організацый у колгасе магчыма ў значнай меры высьветліць грамадзкі быт колгасьнікаў і яго дынаміку. Неабходна высьветліць прынамсі наступныя пытаньні:

1. Ступень зацікаўленасьці розных груп колгасьнікаў (моладзі і людзей старэйшага ўзросту, жанчын) да грамадзкага і політычнага жыцьця (пажадана параўнаць з зацікаўленасьцю да ўступленьня ў колгас і зацікаўленасьцю неколгасьнкаў).

Адносіны колгасьнікаў да розных задач соцыялістычнага будаўніцтва (індустрыялізацыя, колектывізацыя, электрыфікація, дзяржаўныя пазыкі і г. д.)

2. Наведваньне сходаў і ступень актыўнасьці на сходах, якія пытаньні на сходах выклікаюць найбольшую зацікаўленасьць, удзел жанчын, моладзі. Адносіны і ўдзел у розных політычных компаніях. (Даць конкрэтныя прыклады).

3. Культурнае жыцьцё; якія існуюць культурныя ўстановы; праца клюбу і гурткоў, лікпункты і школы малапісьменных; ступень зацікаўленасьці справай самаадукацыі і організацыя яе. Выпіска і чытаньне газэт і часопісаў. Што больш чытаюць і якія веды найбольш цікавяць колгасьнікаў: сельска-гаспадарчыя, політычныя і г. д.; праца бібліотэкі. Зацікаўленасьць экскурсіямі, выстаўкамі (куды і якімі).

4. Удзел колгасьнікаў у добраахвотных організацыях: Мопр, Асоавіяхім, Прэч няпісьменнасьць і інш.; праца гэтых організацый і іх выхаваўчае значэньне для колгасьнікаў.

5. Найбольш выдатныя асобы ў колгасе: выдатныя організатары, селькоры, грамадзкія і політычныя дзеячы і г. д. і іх праца. Вылучэнцы.

6. Праца партыйнай і комсамольскай ячэек, і ўплыў іх на эканомічнае разьвіцьцё, быт і культурнае жыцьцё колгасаў; імкненьне колгасьнікаў у партыю і моладзі ў комсамол. Праца піонэратраду.

* * *

Вельмі пажадана і патрэбна, каб у колгасе, дзе вядзецца яго вывучэньне, быў організаваны калі ня музэй, дык хаця-б куток (пры школе, пры клюбе), у якім-бы можна было сабраць і належным чынам паказаць разьвіцьцё колгасу, яго рост, зьмену быту і інш. У такім кутку ці музэі (яшчэ лепш) трэба сабраць і паказаць прыблізна наступныя экспонаты:

1) карту свайго раёну і плян колгасу ў момант яго зараджэньня і ўважнейшыя моманты яго разьвіцьця (узбуйненьне і інш.);

2) дыяграмы росту колгасу: насельніцтва, плошчы розных угодзьдзяў, розных відаў капіталу, жывёлы, інвэнтару, дынамікі культур, ураджаяў, таварных выхадаў і іншых паказчыкаў гаспадарчага росту колгасу, дыяграмы росту культурнасьці, павялічэньня граматнасьці і г. д.

3) фотаздымкі і зарысоўкі розных рабочых і жылых будынкаў (у розныя часы); розныя моманты працы, адпачынку, сямейнай абстаноўкі, розных бытавых момантаў (гульні моладзі, абед, вясельле ў колгасе і інш.); фотаздымкі першых оранізатараў колгасу і найбольш выдатных працаўнікоў;

4) прылады для розных відаў працы, прадметы хатняга ўжытку,

5) розныя пісьмовыя матар'ялы, якія характарызуюць жыцьцё і працу і быт колгасьнікаў (газэты, часопісы, справаздачы і інш.).

Зусім зразумела, што ўсё сказанае аб організацыі музэю ці кутку ў колгасе зьяўляецца першапачатковай ступеньню організацыі музэю (кутку), які можа разрасьціся з цагам часу. Усе экспонаты, што выяўляюць быт колгасьнікаў, можна паказаць у наступных комплексах (прыкладна): а) вытворчы быт колгасьнікаў; б) хатні быт; в) грамадзкі быт колгасьнікаў (данага колгасу).

Такі музэй (куток) у колгасе можа адыграць вялікую ролю ў справе пропаганды за колектыўнае жыцьцё і працу, за найлепшую організацыю быту і разам з тым адбіць усе этапы разьвіцьця колгасу, яго цяжкасьці і посьпехі, дасягненьні.

---

А. Шашалевіч.

# Аб популярызацыі вытворчага краязнаўства.

Пытаньне аб популярызацыі краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас яшчэ дагэтуль застаецца важным пытаньнем, якім усе краязнаўчыя організацыі павінны заняцца. Асабліва актуальным гэта пытаньне зьяўляецца ў *вытворчым краязнаўстве,* бо калі раней і популярызавалася краязнаўства, дык толькі такія яго галіны, якія ня так актуальны ці зусім не актуальны для нашай эпохі соцыялістычнага будаўніцтва (гісторыя, археолёгія, этнографія і інш.). З другога боку, самы характар краязнаўства ня быў вытворчым. Краязнаўства мела замкнёны, акадэмічны характар, было далёкім ад жыцьця і змаганьня за соцыялізм савецкай краіны. Новы этап у жыцьці Савецкага Саюзу, новыя задачы, якія стаяць перад шырокімі працоўнымі масамі ў барацьбе за соцыялістычную рэконструкцыю краіны, вымагаюць, каб і краязнаўства карэнным чынам зьмяніла свой зьмест, зрабілася вытворчым. Гэта азначае, што трэба вывучаць ня толькі вытворчыя сілы і багацьці краю, ня толькі вытворчыя процэсы і эканомічныя ўзаемаадносіны, але і практычна зьвязваць з гэтым свой удзел у соцыялістычнай перабудове краіны, практычна дапамагаць ажыцьцяўленьню пяцігадовага пляну, практычна прыводзячы для гэтага ў рух мясцовыя рэсурсы.

Бясспрэчна, што такое разуменьне краязнаўства вымагае шырокай, плянавай, усебаковай популярызацыі.

Популярызацыя вытворчага краязнаўства ў першую чаргу павінна знайсьці сабе месца ў друку. Краязнаўцы, разумеючы вялікую актуальнасьць для нашага часу вытворчага краязнаўства, павінны дабівацца,

каб усе выданьні мясцовага і цэнтральнага друку, асабліва популярныя, шырока распаўсюджаныя давалі месца для высьвятленьня пытаньняў вытворчага краязнаўства. Да гэтага часу нашы газэты, часопісы, зборнікі ігнорують гэтыя пытаньні, нічога не зрабілі, каб стымуляваць вытворчае краязнаўства, каб практычна популярызаваць яго. Краязнаўчыя аддзелы абсолютна неабходны ў газэтах і часопісах. Гэта думка ў некаторых раёнах СССР пачынае праводзіцца ў жыцьцё.

Так, напр., газэта „Тверская Правда“ ня толькі вельмі часта зьмяшчае інформацыі аб конкрэтнай краязнаўчай працы, асабліва вытворчага характару, якую робяць мясцовыя краязнаўчыя таварыствы, але мае і асобны краязнаўчы аддзел, у якім рэгулярна зьмяшчаюцца артыкулы аб вывучэньні і будаўніцтве гораду і раёну. Яраслаўскі часопіс „Наш Труд“ за 1929 г. зьмясьціў школьна-краязнаўчы нарыс г. Данілава і намеціў даць апісаньне з боку вытворчасьці ўсіх гарадоў б. Яраслаўскае акругі. Мэта такіх апісаньняў—ня толькі вузкая мэта—дапамагчы ў экскурсіях, але пры належнай накіраванасьці яны могуць і павінны заключыць у сабе вытворчы момант, павінны зьявіцца моцным штурхачом для шырокіх працоўных мас узяць удзел у вырашэньні вытворча-будаўнічых запатрабаваньняў краю.

Зразумела, што ўсе недрукаваныя выданьні—часопісы, зборнікі, насьценгазэты—таксама павінны адвесьці, няхай сабе і скромнае, месца краязнаўству. Мэтазгоднасьць гэтага бясспрэчна, бо ў нашу эпоху ўсё, што выходзіць з-пад пяра краязнаўцы і мае мэту ўзьняць соцыялістычную вытворчасьць і культуру краіны, набывае вялікае значэньне. Сабраныя мясцовымі працаўнікамі матар'ялы з вытворчага краязнаўства трэба ўсялякім чынам популярызаваць. Пажадана было-б мясцовымі сіламі організаваць і свой краязнаўчы орган-часопіс ці газэту, як гэта зрабілі сібірскія краяведы. Там, у Благавешчанску два разы ў месяц выходзіць насьценгазэта „Амурский Краевед“.

Практыка паказвае, наколькі значнай можа быць гэткая праца пачынаючых краязнаўцаў. У мясцовых выданьнях у першую чаргу знойдуць сваё месца і практычна дапамогуць весткі аб мясцовых вытворчых сілах і багацьцях. Толькі тут магчыма выдаць карты малых тэрыторый з неабходнымі корэктывамі, толькі тут магчыма іх множыць з практычнымі мэтамі, толькі тут можна скласьці даведачнікі аб раёне, у якіх паказаны будуць прыродна-вытворчыя рэсурсы мясцовасьці і тыя шляхі, праз якія можна прывесьці гэтыя рэсурсы ў рух, каб перабудаваць жыцьцё на соцыялістычны лад.

У БССР былі спробы краязнаўчых выданьняў („Віцебшчына“, „Магілеўшчына“, „Аршаншчына“, „Случчына“, шэраг рукапісных раённых зборнікаў і часопісаў: „Асіпавіцкі раён“, „Смалявіцкі раён“, „Барысаўскі раён“, школьна-краязнаўчыя зборнікі і часопісы і г. д.), але вытворчае краязнаўства не знайшло сабе месца ў пераважнай большасьці гэтых выданьняў. Апісальная форма краязнаўчых досьледаў панавала і пануе ў краязнаўчых выданьнях. А таму такое важнае пытаньне вытворчага краязнаўства, як практычнае паляпшэньне садоўніцтва на Случчыне, не знайшло свайго адлюстраваньня ў зборніку „Случчына“, ня гледзячы на тое, што члены організацыі вывучалі гэта пытаньне і сабралі матар'ялы. Таксама ня зьдзейсьнілася правільная думка Магілеўскай краязнаўчай організацыі аб популярызацыі вытворчага краязнаўства шляхам выданьня брошур аб „вытворчых рэсурсах Магілеўшчыны“.

Другі спосаб папулярызаваць вытворчае краязнаўства—праз музэй. Працу нашых музэяў трэба карэнным чынам рэарганізаваць. Трэба надаць музэям пераважны вытворчы напрамак. Ва ўсякім разе кожны музэй, асабліва краёвы, павінен мець аддзел вытворчага краязнаўства. У музэі павінна давацца сталая ці пэрыодычная выстаўка шкоднікаў лесу і сельскай гаспадаркі, карысных і шкодных расьлін, спосабаў барацьбы з імі і профіляктыкі, выстаўка глеб і спосабаў іх паляпшэньня, выстаўка пераваг і дасягненьняў колектывізацыі с. гаспадаркі, спосабаў падвышэньня ўраджаю і ўкараненьня тэхнічных культур, выстаўку практычных мерапрыемстваў па правядзеньню пяцігодкі як у эконо-мічным, так і культурным напрамку і г. д.

Популярызацыю вытворчага краязнаўства музэйным ці экспозы-цыйным спосабам трэба праводзіць ня толькі там, дзе існуюць музэі. Куткі вытворчага краязнаўства неабходна мець пры кожнай хаце-чытальні, клюбе, школе, бібліотэцы, прыёмных пакоях РВК. У апошніх добра было-б мець хоць-бы вітрыны з літаратурай аб вытворчых сілах раёну і спосабах іх скарыстаньня. Гэта думка ня новая і ў не-торых РВК можна бачыць такія вітрыны.

Адносна популярызацыі вытворча-краязнаўчай працы праз школу трэба сказаць, што ў гэтым напрамку мы маем шмат спосабаў. Усю школьную працу ў сувязі з політэхнізацыяй школы трэба перабудаваць так, каб з аднаго боку школа давала конкрэтныя веды аб вытворчых сілах і процэсах краю, з другога — стымулявала практычны ўдзел у соцыялістычнай перабудове краю. Організацыя батанічных, мэтэоро-лёгічных, фэнолёгічных станцый пры школах, закладка, паказальных гародаў і дасьледчага поля, організацыя станцый па акліматызацыі расьлін, ягадных пітомнікаў і садоў — усё гэта павінна популярыза-ваць вытворчае краязнаўства і даць багаты матар'ял для вывучэньня вытворчых сіл і для практычнага ўдзелу і дапамогі ў соцыялістычным будаўніцтве краіны.

---

**Ал. Немцаў.**

# Школьны краязнаўчы музэй.

Школьнае краязнаўства павінна быць падпарадкавана мэтам і за-дачам соцыяльнага будаўніцтва. Той вялізарны рост будаўніцтва, што дакаціўся да самых глухіх мясьцін, павінен адбіцца ў школьным края-знаўчым музэі ў форме модэлей, здымкаў, схэм і дыяграм. Гэта адна задача; але ёсьць і другая. Трэба, каб гэты самы музэй абавязкова зрабіўся ўдзельнікам і дапаможнікам у той рэконструкцыі ўсяго жыцьця, што адбываецца на нашых вачох.

Ёсьць два галоўных об'екты для працы школьнага краязнаўчага гуртка: завод і колгас; іх вывучэньне—з мэтай дапамогі іх разьвіцьцю ёсьць найбліжэйшая задача гурткоў. Гэта задача набывае асоба важ-нае значэньне ў сувязі з тым, што об'екты вывучэньня знаходзяцца тут-жа пад рукою.

Школьны краязнаўчы музэй павінен вырасьці з двух асноўных куткоў—вытворчага і колгаснага. У першым мы павінны даць з ад-нага боку гісторыю заводу, яго рост у схэмах, дыяграмах, фотаздым-

ках, монтажах; з другога—процэс вытворчасьці: цэлы рад натуральных прадметаў, калі магчыма; прадметных (паменей графічных) схэм вытворчасьці (напр. прамфінплян заводу), модэлі машын, іх частак. Гэта праца ў музэі цесна зьвязваецца з паасобнымі прадметамі выкладаньня, як фізыка, графіка, прыродазнаўства, тэхнолёгія, і з тэхнічнымі гурткамі ў школе. Уся бытавая частка жыцьця рабочых дасьць нам трэцюю частку вытворчага кутку ў музэі. Зрабіўшы ўсеагульнае абсьледваньне колгасу, гурток будзе мець дастатковы матар'ял для стварэньня другой асноўнай часткі музэю—колгаснага кутку. Яго трэба падзяліць на тры часткі. У першай зьмяшчаюцца матар'ялы па пытаньнях колектывізацыі саюзу—карты, схэмы, дыяграмы; другая частка будзе мець такім-жа чынам апрацаваны матар'ял у адносінах свайго раёну з дадаткам шэрагу карт—глебавай, насельніцтва, культасьветных устаноў і інш. У 3-й частцы трэба зьмясьціць падрабязна распрацаваны матар'ял абсьледваньня ўзорнага колгасу свайго раёну. Побач з плянамі гэтага колгасу, дыяграмамі яго росту, разьмеркаваньня ўраджаю, параўнальнымі табліцамі і г. д., тут-жа трэба зьмясьціць модэлі некаторых будынкаў (напр. сьвінарнікаў, кароўнікаў), сілоснай ямы, модэлі некаторых прылад (кармушкі, для вады курам), якія могуць конструіравацца вучнямі, цэлы шэраг карт і плянаў па пытаньнях пасяўной плошчы, ліквідацыі няпісьменнасьці па колгасах свайго раёну і інш.

Маючы ў сябе пляны працы колгасаў у веснавы ці васеньні пэрыод часу, школьна краязнаўчыя гурткі могуць аказаць дапамогу школе ў справе часовых прарываў у колгасе, накіроўваючы масавыя выхады школы на дапамогу колгасам у патрэбны час.

Што-ж практычна можа зрабіць гурток, каб уключыцца ў пяцігодку, каб не зрабіцца толькі зьбіральнікам зьвестак і рэчаў? Трэба зрабіць такім чынам, каб музэй абярнуўся ў лябараторыю, а краязнаўцы-вучні—у дасьледчыкаў. Прывяду пару прыкладаў дасьледчай працы ў умовах абкружэньня сельскай гаспадаркай.

У сувязі з дырэктывамі партыі і ўраду ў галіне вапнаваньня глебы гуртку трэба зьвязацца з райагрономам і правесьці аналіз глебы ў першую чаргу па колгасах, а потым на астатняй тэрыторыі раёну з мэтай вызначэньня кісласьці глебы.

Атрымаецца цэлы рад pH, дзякуючы чаму можна скласьці раённую карту кісласьці глебы. Гэта карта павінна стаць асновай у галіне працы па вапнаваньню глебы раёну.

Просты аналіз глебы пры дапамозе ўнівэрсальных індыкатараў, якія выпускае Масква (Москва, 9, Проезд Художеств. театра) магчыма зрабіць кожнай школе. Гэта праца вучням старэйшых клясаў не складзе вялікіх цяжкасьцяй, таму што гэтыя вучні ўжо трошкі падрыхтаваны ў галіне глебазнаўства, а наадварот вельмі зацікавіць вучняў.

Аналіз глебы магчыма рабіць у час экскурсіі па раёну непасрэдна на полі; магчыма праводзіць і ў музэі-лябараторыі, захапіўшы з сабой з колгасных палёў трошкі глебы. Зразумела, больш пэўны аналіз глебы ў адносінах вапнаваньня трэба было-б рабіць мэтодам тытраваньня, але з прычыны адсутнасьці ў школах спэцыяльных прылад гэта пакуль што немагчыма.

Дапамагаючай колгасу працай вучняў-краязнаўцаў зьявіцца праца па вызначэньню ўгнаеньня зямлі ў колгасе. Гэту працу трэба праводзіць мэтодам палявых досьледаў з мінэральнымі ўгнаеньнямі,

карыстаючыся таксама і кнігай Пранішнікава па ўгнаеньню (на расійскай мове).

Да карыснай працы вучняў-краязнаўцаў трэба аднесьці аналізы малака (прылада Маршана), з мэтаю вызначэньня яго якаснага складу, аналізы сена і г. д.

Пры гэткіх умовах працы школьнага музэю малады краязнаўца з зьбіральніка розных рэчаў, зробіцца дасьледчыкам, працуючы на карысьць агульнай справе соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

---

**В. Шч.**

# Рэлігійныя і рэволюцыйна-савецкія сьвяты на вёсцы ў паўночнай частцы Украіны.

Мы сабралі досыць вялікі конкрэтны матар'ял аб тым, як праводзяць—сьвяткуюць рэлігійныя і рэволюцыйныя сьвяты на вёсцы ў паўночнай частцы Украіны. Гэты матар'ял зьяўляецца для нас вельмі цікавым. І паколькі бытавыя ўмовы беларускага сялянства ў паўднёвых раёнах вельмі блізкі да жыцьця сялянства паўночнай Украіны, мы гэты матар'ял публікуем у нашым часопісе. На грунце азнаямленьня з памянёным матар'ялам мы ня толькі будзем мець яскравы малюнак аб адным з вучасткаў жыцьця сучаснага украінскага сялянства, але будзем мець магчымасьць зрабіць цэлы шэраг практычных вывадаў у напрамку перабудовы быту, перавыхаваньня нашай вясковай масы Савецкай Беларусі.

Бязумоўна, бытавыя ўмовы жыцьця сялянства, яго псыхолёгічныя асаблівасьці, консэрватызм, індывідуалізм, інэртнасьць—усё гэта яшчэ значны час будзе перашкаджаць нашаму сялянству ў будаўніцтве новай культуры, новага быту.

Нячувана-шпаркі рост колектывізацыі сельскай гаспадаркі, які наглядаем мы за апошні час; хуткія зьмены ў тэхнічна-вытворчай базе сучаснай вёскі; уцягненьне мільёнНых вясковых мас у процэсы аграмаджанай працы,—усё гэта ўжо цяпер, а тым больш у бліжэйшы час будзе мець рашаючы ўплыў у справе перавыхаваньня працоўных мас вёскі, у справе перабудовы іх быту, у справе зьнішчэньня ўсіх рэакцыйных, індывідуалістычных рысаў псыхолёгіі селяніна.

Але думаць, што процэс перавыхаваньня вясковага насяленьня, рэконструкцыі яго быту адбудзецца сам сабой, бяз нашай культурна-выхаваўчай працы сярод гэтага насяленьня, толькі на падставе нанова-створанай вытворчай базы,—думаць гэтак нельга. Наадварот, наша культурная і антырэлігійная праца зараз можа адыграць вельмі вялікую ролю ў справе выкарчаваньня ўсіх тых бытавых псыхолёгічных момантаў, якія зьяўляюцца перашкодамі на шляху суцэльнай колектывізацыі і рэконструкцыі нашай вёскі. Больш гэтага. Наша праца ня страціць значэньня нават і тады, калі першы этап у напрамку суцэльнай колектывізацыі мы ўжо пяройдзем.

Селянін прыходзіць у колектыў, але рысы індывідуалізму, інэртнасьць, старыя звычаі і бытавыя ўмовы, вузкасьць сьветапогляду яшчэ застаюцца і будуць заставацца ў той ці іншай форме. З гэтым

трэба змагацца, сярод сялянства яшчэ доўга трэба будзе весьці ўпуртую працу ў напрамку пераробкі яго „прыроды“, селяніна трэба будзе перавыхаваць, прышчапіць яму новыя погляды, іншыя паняцьці.

Каб гэта праца мела посьпех, каб нашы ўдары па старой псыхолёгіі, быту былі трапнымі, трэба ведаць селяніна, ведаць усе асаблівасьці яго настрояў, звычак, быту. Трэба ведаць усё тое, што яшчэ існуе ў яго жыцьці. Трэба ведаць усё тое, з чым ён зараз прыходзіць у той самы колектыў і чым ён у значнай меры будзе затрымліваць будаўніцтва новага жыцьця.

* * *

У гэтым артыкуле мы хочам даць малюнак аднаго з вучасткаў быту нашага сянянства. Гэты вучастак—рэлігійныя і рэволюцыйныя сьвяты на вёсцы.

Калі чытаеш дзесяткі атрыманых намі корэспондэнцый, калі разглядаеш увесь матар'ял анкетнага характару, сабраны намі па гэтаму пытаньню, дык перш за ўсё пераконваешся, якая, сапраўды, яшчэ вялікая інэртнасьць на вёсцы, як павольна, марудна селянін кідае свае старыя звычаі, з якімі вялікімі натугамі ён адмаўляецца ад усяго таго, што было неад'емнай часткай яго жыцьця, яго бытаваньня. Селянін лёгка адмаўляецца ад наведваньня царквы, ён зачыняе яе, перарабляе на клюб, кіно, хату-чытальню, але селянін ня хоча адмовіцца ад другіх момантаў рэлігійнага быту, ён, між іншым, ня хоча адмовіцца ад рэлігійных сьвят, ад традыцый, зьвязаных з імі.

Амаль усе матар'ялы сьведчаць перш за ўсё аб тым, што рэлігійныя сьвяты на вёсцы яшчэ займаюць вельмі прыкметнае месца ў жыцьці селяніна; значная частка сялянства яшчэ падтрымлівае іх.

„Рэлігійныя сьвяты, піша студэнт Ляшанка, адбываюцца па старому стылю, маюць падтрыманьне большасьцю насяленьня, асбліва старых і багатых. Моладзь у царкву амаль ня ходзіць. На рэволюцыйных сьвятах старыя адсутнічаюць“. Корэспондэнцыя з в. Бірылаўкі Гараднянскага раёну (Чарнігаўшчына) паведамляе, што „рэлігійныя сьвяты маюць посьпех. У гэтыя дні не працуюць. Рэволюцыйныя сьвяты амаль не праводзяцца. Іх сьвяткуюць толькі комсамольцы, партыйцы і комнезамы“.

Такім чынам, камсамольцы, партыйцы і організаваная бядняцкая частка сялянства зьяўляюцца застрэльшчыкамі перабудовы быту на вёсцы. Але ёсьць у нас і такія вёскі, дзе нават і гэтыя групы насяленьня, між іншым нават комуністы, часам не адстаюць ад рэлігійнай масы. У гэткіх вёсках, мы назіраем ня толькі панаваньне цемры, п'янства і калатні, але тут вольна праходзіць антысавецкая агітацыя з боку кулакоў і падкулачнікаў.

Вось што мы чытаем у корэспондэнцыі Шапіры з в. Галавенькі (Канатопшчына): „Рэлігійныя сьвяты ўсё сяло сьвяткуе, нават партыйцы і комсамольцы. Рэволюцыйныя сьвяты азначаюцца толькі офіцыяльна, а то дык і зусім не азначаюцца. Такія сьвяты, як Кастрычнікавая рэволюцыя і Першае Мая часта скарыстоўваюць для п'янства. Першае Мая 1928 г. сьвяткавалі толькі школа і піонэратрад. Сялянства зусім не прызнае рэволюцыйных сьвят, часам нават варожа ставіцца да іх. Ідучы на ўрачыстае пасяджэньне перад днём Кастрыч-

нікавай рэволюцыі 1927 г., я сустрэў суседа, маладога селяніна, даволі сьвядомага, бедняка і паклікаў яго таксама ісьці разам са мной. На гэту прапанову ён адказаў: „Няхай сьвяткуюць рабочыя: іх улада, іх сьвята. Аб рабочых думае савецкая ўлада, за тое ўсе падаткі ўзваліла на сялян“. Такая думка ёсьць у сялян. А заможныя да сьвят адносяцца гіронічна“.

Настаўнік Бугрымаў з Чарнігаўшчыны таксама піша аб удзеле партыйных і комсамольцаў у рэлігійных сьвятах. „У нашым сяле Кулікоўцы, Бабровіцкага раёну, можна заўважыць асаблівую падрыхтоўку да рэлігійных сьвят, як вялікдзень і ражаство. Да першага ўсё насяленьне рыхтуецца, як да прастольнага сьвята. Партыйцы і комсамольцы таксама прыймаюць удзел у гэтай падрыхтоўцы. Рэволюцыйныя сьвяты таксама пачынаюць уваходзіць у традыцыю і да іх пачынаюць рыхтавацца, але апрача прадстаўнікоў ад організацый і школы ніхто падрыхтоўкай да рэволюцыйных сьвят не займаецца. Самае сьвята адбываецца пры ўдзеле некалькіх дзесяткаў людзей. У маніфэстацыі, калі рэволюцыйнае сьвята сходзіцца з царкоўным, прыймае ўдзел вялікі лік насяленьня“.

*Традыцыя і звычка*—вось у чым корань *рэлігійных сьвят.*

„Рэлігійныя сьвяты адбываюцца на вёсцы больш па традыцыі, па звычаю,—пішуць нам з сяла Гарадзішча на Чарнігаўшчыне.—Калі раней селянін цьвёрда верыў у факт, якому было прысьвечана рэлігійнае сьвята, дык цяпер вельмі часта ў гэтыя сьвяты можна пачуць размовы сялян, што вось кажуць: бога няма, а дзівіся, якое добрае надвор‘е стаіць. Апрача гэтага, сяляне ўжо неахвотна бяруць удзел у рэлігійных маніфэстацыях. Шмат сялян, едучы каля царквы, ня хрысьцяцца. Ніхто ня ўзьнімаецца, калі праходзіць поп. Атэізм няпрыкметна прасякае ў думку селяніна дзякуючы асяродзьдзю, але за тое звычкі, традыцыі і наяўнасьць рэлігійных жанчын, старых і заможных гаспадароў (кулакоў), а таксама пэрспэктыва добра зьесьці, адпачыць, выпіць з суседзямі, пагаварыць з людзьмі — адхіляюць ахвоту канчаткова раздумаць аб сваіх хістаньнях і перайсьці да іншага ладу жыцьця. Але ўсё-ткі хістаньні зачапляюць селяніна і ён усё часьцей гаворыць аб гэтым з суседзямі, спачатку асьцярожна заўважаючы: „кажуць людзі, што бога няма“ і г. д.

Кулацтва і рэлігійнікі, старыя і адсталыя жанчыны—вось тыя групы вёскі, якія падтрымоўваюць рэлігійныя сьвяты.

Было-б памылкай, каб мы, кажучы аб удзеле насяленьня ў рэлігійных сьвятах, з адной меркай падыходзілі да ўсіх груп насяленьня. Мы павінны ў гэтым напрамку ўсю масу вёскі падзяліць на асобныя групы. Хто больш за ўсіх падтрымоўвае рэлігійныя сьвяты, хто ўсялякім чынам захоўвае традыцыі гэтых сьвят? Гэта перш за ўсё старыя людзі і адсталыя жанчыны, а потым рэлігійнікі і кулацтва. Апошнія дзьве групы з гэтага боку зьяўляюцца вельмі актыўнымі. Яны—організатары рэлігійных сьвят. Старыя людзі і цёмныя жанчыны зьяўляюцца носьбітамі традыцый, кулакі і рэлігійнікі—сьвядомыя барацьбіты за рэлігію і рэлігійныя сьвяты. Шэраг заметак і корэспондэнцый красамоўна кажуць аб гэтым. Рудэнка-Дэсяк з в. Бандароўкі на Канатопшчыне піша: „У нашым сяле рэлігійныя сьвяты падтрымліваюцца сялянкамі - жанчынамі, мужчыны амаль зусім роўнадушны да іх. Рэволюцыйныя сьвяты праходзяць пры ўдзеле большасьці мужчын, моладзь уцягваецца ўся; такім чынам перавага ўсё-ткі за рэлігійнымі сьвятамі“.

Вось што пішуць з Новага-Быкава (Нежыншчына). „Рэлігійныя сьвяты ў большасьці сьвяткуюць жанчыны, якія дома робяць адпаведную абстанову. Папутна ўцягваюцца ў гэта мужчыны, якія да сьвят адносяцца ўсё-такі роўнадушна. Ініцыятарамі ў сьвяткаваньні рэволюцыйных сьвят зьяўляецца моладзь і культпрацаўнікі".

Настаўнік Сачэнка з в. Драздоўкі на Чарнігаўшчыне піша: „Рэлігійныя сьвяты пашыраны сярод сялянства, але сутнасьць іх у тым, што ў гэтыя дні не працуюць і лепш ядуць. Што датычыцца царквы, дык у гэтыя дні туды ходзяць толькі жанчыны. Мужчын амаль ня ўбачыш, апрача групы царкоўнікаў і некалькіх „алейных" кулакоў".

Настаўнік з в. Сіняўкі той самай Чарнігаўшчыны адзначае, што ў царкве бываюць больш жанчыны і старыя наогул. Моладзь пасыўна, ходзіць да царквы па традыцыі і „для людзей". Мужчыны сярэдняга ўзросту ўжо больш пасыўны да рэлігіі, але рэлігійная ідэолёгія яшчэ трымаецца, бо „так сказаць, не давядзеш першапрычыны".

Як рыхтуюцца да рэлігійных і рэволюцыйных сьвят? Высьветліць гэта патрэбна, каб паказаць, якое месца займаюць у жыцьці селяніна рэлігійныя і рэволюцыйныя сьвяты. З ніжэйпрыведзеных матар'ялаў мы пабачым, што рэволюцыйныя сьвяты, сапраўды, яшчэ не праніклі ва ўсе сітавінкі сялянскага жыцьця, яшчэ не афарбавалі яго быт.

„Але ёсьць у нашым сяле хваравітая зьява—гэта рэлігійны дурман, якім запаўняецца галава амаль кожнага селяніна, ад якога ён ня можа адмовіцца. Калі прыходзіць рэлігійнае сьвята, дык ён да яго пачынае загадзя рыхтавацца: шукае і рыхтуе лепшае адзеньне, ежу, упрыгожвае хату. Калі-ж надыходзіць якое-небудзь рэволюцыйнае сьвята, дык ён на яго мала ўвагі зьвяртае: ніяк ня рыхтуецца, не прыбірае і хаты. А калі селянін прыбярэ ў сябе і каля варот вывесіць чырвоны сьцяг, дык над ім будуць суседзі сьмяяцца. І толькі, калі вучні наладжваюць сьвяткаваньне, тады некаторыя сяляне прыходзяць паглядзець". Так піша студэнт Мардзюк з в. Стары Белавус на Чарнігаўшчыне.

Настаўнік Гнілуша з с. Красілаўкі (Чарнігаўшчына) піша тое самае: „Да рэлігійных сьвят сяляне рыхтуюцца: прыбіраюць свае хаты, шыюць новую вопратку, паляпшаюць ежу. У самае сьвята не працуюць. Да рэволюцыйных сьвят ня рыхтуюцца, за выключэньнем невялікай часткі актыву вясковых устаноў і організацый. У сьвяты працуюць, чырвоныя сьцягі вывешваюць без пераконаньня".

Настаўніца Сербіна па гэтаму пытаньню дае яшчэ больш яскравую корэспондэнцыю. „Рэволюцыйныя і рэлігійныя сьвяты маюць рознае значэньне для сялян. Рэлігійныя сьвяты сяляне сустракаюць за тыдзень раней: працуюць у хатах і садох, купляюць і рыхтуюць пачастунку для гасьцей. Але трэба сказаць, што асаблівага ўздыму ў настроях няма, асабліва сярод моладзі, якая думае толькі аб лепшай вопратцы ды радуецца, што давядзецца пагуляць. Калі-ж надыходзяць рэволюцыйныя сьвяты, размоў аб гэтым сьвяце сярод сялян і не пачуеш. Рыхтуецца толькі актыў вёскі і школа. Сяляне ў дзень самага сьвята таксама працуюць, як і заўсёды, удзелу ў правядзеньні сьвята ня прыймаюць. Толькі моладзь вечарам прыдзе на спэктакль ці ўрачысты сход. Перад вялікаднем на антырэлігійную вечарыну прышлі толькі вучні і наогул дзеці, і нават моладзь не зацікавілася спэктаклем, але накіравалася да царквы. Але трэба сказаць, што звычайна ў царкве бываюць, галоўным чынам, жанчыны, старыя і дзядзькі".

Які вывад мы павінны зрабіць з гэтага? Перш за ўсё той вывад, што рэволюцыйныя сьвяты яшчэ вельмі слаба праніклі ў быт. Між тым пранікненьне рэволюцыйных сьвят у быт селяніна мае вялікае для нас значэньне. Рэволюцыйнае сьвята дапамагае рэволюцыянізаваць сялянскае жыцьцё, концэнтруе нашу ўвагу на пэўных пытаньнях, можа перарабіць нашу псыхіку. Рэлігійныя сьвяты ўжо пазбаўлены ўрачыстасьці. Але думаць, што рэволюцыйныя сьвяты цяпер праходзяць з уздымам, што яны аднолькава ўрачыста адбываюцца паўсюды — было-б вялікай памылкай. Цэлы шэраг фактаў кажа аб тым, што ўрачыстасьць памерла ўжо і памірае, што застаюцца толькі традыцыі. І калі нам удасца ў бліжэйшы час абставіць належным парадкам нашы дні адпачынку і нашы рэволюцыйныя сьвяты, калі мы насыцім іх новым зьместам і нададзім ім, сапраўды новы, мастацкі характар— тады рэлігійныя сьвяты, асабліва пры нашай непрарыўцы, якая рэволюцыянізуе наш быт, хутка адамруць, адыдуць у мінулае.

Аб тым, што рэлігійныя сьвяты ўжо цяпер страцілі сваю ўрачыстасьць, сьведчыць шэраг корэспондэнцый і поглядаў працаўнікоў вёскі.

„Рэлігійныя сьвяты,—піша настаўнік Шапаваленка з в. Новыя Баровічы,—страчваюць за апошні час сваю ўрачыстасьць, але такія сьвяты, як вялікдзень, яшчэ праводзяцца з вялікім уздымам. Рэволюцыйныя сьвяты з кожным годам прыцягваюць да сябе ўсё большыя пласты вясковага насяленьня. Асабліва гэта прыкметна бывае ў часе сьвяткаваньня Кастрычнікавай рэволюцыі і Першага Мая, калі на ўрачыстых сходах і дэмонстрацыях прыймае ўдзел значны лік насяленьня“.

Тое самае піша настаўніца Яноўская з в. Новыя Баровічы і шэраг іншых таварышоў.

*Царква ёсьць організуючы цэнтар у правядзеньні рэлігійных сьвят.* Яна прыцягвае масы насяленьня вёскі да ўдзелу ў сьвяткаваньні, яна концэнтруе яго ўвагу на рэлігійным сьвяце. Урачыста абстаўляючы набажэнства, упрыгожваючы сябе ўнутры і знадворку, царква заражае гэтым адсталае сялянства. Вакол царквы і концэнтруецца вясковая маса ў рэлігійныя сьвяты.

У рэлігійныя сьвяты „упрыгожваюць і прыбіраюць царкву і каля яе“, пішуць настаўнікі Мішко і Афанасьеў з в. Чэмер на Чарнігаўшчыне. Шмат народу, з большага жанчыны, але досыць мужчын і моладзі, наведвае царкву. Увесь дзень прыбраныя гуляюць. Смашна ядуць“...

Гэту ініцыятыву царквы трэба вырваць з яе рук. Масавае зачыненьне цэркваў самім сялянствам цяпер як раз дапамагае гэтаму. Але трэба, каб нашы хаты чытальні, нашы школы, нашы коопэратыўныя крамы, сельсаветы замянілі сабой царкву, каб яны, сапраўды, зрабіліся цэнтрамі новай культуры і новага быту.

*Рэлігійныя сьвяты — сьвяты абжэрства, п'янства, забойства.* Настаўнік Піонткоўскі з Канатопшчыны піша аб тым, чым запоўнены рэлігійныя сьвяты ў в. Казьлянічах: „Рэлігійныя сьвяты ў большасьці выпадкаў ёсьць абжэрства, п'янства, дзе зусім няма рэлігійнага патосу, ня гледзячы на тое, што ў гэтым прыймае ўдзел усё сялянства, у тым ліку і партыйцы“. Студэнт Крыштан з в. Понары з той-жа Канатопшчыны дае нам яшчэ больш падрабязны конкрэтны матар'ял па гэтаму пытаньню. „Рэлігійныя сьвяты, піша ён, ня бываюць бяз п'янства. На „спаса“—прастольнае сьвята ў суседнім сяле Ліпавым—

з царквы вярталіся ў чаўне. П'яны Сьцяпан Ткачэнка перавярнуў човен. Затапілася 3 чалавекі ад 18 да 25 год (1 мужчына, 2 жанчыны). Спраўляючы саракавіны па загінуўшых, адзін селянін напіўся і распачаў калатню з сынамі. Апошнія яго забілі. Сыны другога селяніна, які таксама напіўся і заехаў да дому з папом і дзякам, зьвязалі свайго бацьку, а папа і дзяка прагналі з двара.

Група беднякоў-сялян загаўляліся на піліпаўку і „колектыўна" выгналі шмат самагону... „Скакалі, танцавалі. Самагон заядалі яблыкамі, пілі сьцюдзёны квас у часе танцаў. У выніку адна жанчына 35 год захварэла і памерла, іншыя перахварэлі.

*„Гэта—наша сьвята, а тое—ваша савецкае сьвята!"*

Вельмі красамоўна, на конкрэтных прыкладах характарызуе рэлігійныя сьвяты і сьвяты рэволюцыйна-савецкія настаўнік Сьлесарэнка з Остэршчыны. „Рэлігійныя сьвяты праводзяцца на вёсцы са спэцыяльнай падрыхтоўкай за дзень-два. Падрыхтоўка бывае ў тым, што гатуюць розных відаў ежу і гарэлку. Калі надыходзіць сьвята, усё гэта зьнішчаецца, з прыходам вечару часта ўзьнімаюцца дзікія оргіі з панажоўшчынай, хуліганствам і г. д. Гэта мае назву „наша сьвята" ў супроцьлегласьць рэволюцыйнаму, якое завецца „савецкім" ці „бальшавіцкім". У гэтае сьвята грамадзяне зьбіраюцца паслухаць даклад аб міжнародным становішчы, аб задачах партыі і савецкай улады, пазнаёміцца з усімі ільготамі, якія дае савецкая ўлада беднаму сялянству. На гэтых сьвятах можна сустрэць кулака, які злосна ўсьміхаецца, а потым пасьля сходу разьвівае свае думкі аб немагчымасьці гаспадарыць. У вёсках Чарнігаўшчыны часта можна ўбачыць у цэнтры аркі, дзе летам бываюць сходы з прычыны сьвят. Рэлігійнікі і між іншым сэктанты праз гэтыя аркі ніколі не праходзяць, калі-ж праходзяць, дык закрыўшы твар і вочы рукамі. Гэтае самае яны робяць, сустрэўшы маніфэстацыю. Такія факты можна наглядаць на правабярэжжы Остэршчыны".

*Дзе бандыты, там і рэлігійныя сьвяты бываюць з уздымам.* Рэлігійныя п'яніцы плодзяць п'яніц, бандытаў, цемру. Гэта бясспрэчна і даведзена шэрагам фактаў. Мы часта наглядалі, што ў вёсках з вельмі разьвітай рэлігійнасьцю больш за ўсё і бандытаў. Аб гэтым нам пішуць з в. Хоўны: „Да рэлігійных сьвят вельмі рыхтуюцца, да рэволюцыйных не. Вёска цёмная, глухая, бандыцкая. На пяць хат адзін самагоначны апарат. У сьвяты (разумеецца рэлігійныя. *Шч.*) уся вёска п'яна". Абаронцы рэлігійных сьвят часта хочуць падкрэсьліць, што гэтыя сьвяты даюць магчымасьць працоўным адпачыць, забавіцца. Яны кажуць, што *„пасьля клапот і цяжкай працы трэба і пагуляць"*. Які гэта адпачынак у рэлігійных сьвятах—мы ўжо бачылі. Настаўнік Кожыч з Кіеўшчыны піша аб гэтым: „Рэлігійныя сьвяты праводзяцца на вёсцы амаль усім сялянствам. У той вёсцы, дзе я працую (в. Музычкі), прастольны дзень бывае на „Міхайлу", сьвяткуецца звычайна шумна, бывае добрая выпіўка, разбой і г. д. Але сказаць, што сяляне-рэлігійны, нельга, за выключэньнем старых. У сялян жыве яшчэ такая думка, што пасьля клапот і цяжкой працы трэба і пагуляць і вось такім днём ёсьць „Міхайла". Шмат і бязмэтна, нерацыянальна трацiцца грошы ў гэты дзень". Гэта завецца адпачынкам у рэлігійныя сьвяты.

*Рэлігійнасьці глыбокай, шчырай ў сялян няма.* Хоць сяляне і сьвяткуюць рэлігійныя дні, але асаблівай сьвятасьці ў іх яны ўжо

ня бачаць. Сьвяткуюць, як мы ўжо казалі, па традыцыі і для „прыстойнасьці“.

„Рэлігійныя сьвяты, чытаем мы ў аднэй вельмі цікавай корэспондэнцыі з Канатопшчыны, большая частка сялян сьвяткуе толькі па звычаю. Гэта можна бачыць з таго, што калі летам працы бывае шмат, тады і ў рэлігійныя святы мала хто гуляе, бо ўсе на працы. Іншая справа ўзімку: гуляюць амаль усе, але не таму, што „грэх працаваць“, але каб скарыстаць кожны выпадак для адпачынку, каб пайсьці да знаёмых, дзе добра пачастуюць, а то дык проста пагаварыць з суседзямі. У царкву ходзяць амаль выключна жанчыны, але і сярод іх ужо ёсьць такія, якія нездаволены папом за доўгае набажэнства. У царкву яны ходзяць таму, што баяцца лаянкі і праклёнаў сваіх „заможных“ родзічаў і знаёмых. У рэлігійных працэсіях неахвотна прыймаюць удзел. Рэлігійнасьці глыбокай, шчырай няма ў сялян, але сярод іх мала і такіх, якія сьмела выказваюць свае сапраўдныя думкі і пачуцьці адносна рэлігіі“.

*„Ня хочацца, каб на цябе пальцам тыкалі“.* З прыведзенай вышэй корэспондэнцыі відаць, што сярод сялян ужо мала такіх, якія з асаблівай набожнасьцю адносяцца да рэлігійных сьвят. Рэлігія страчвае пад сабой грунт і свой сэнс у думках сялян, але рэлігійныя сьвяты ўсё-такі яшчэ існуюць і так ці інакш значнай часткай сялянства сьвяткуюцца. Чаму гэта так? Мы ўжо бачылі, якая прычына гэтага: традыцыя і звычка мае тут месца; апрача таго, іншы раз сьвяткуюць „для людзей“, „ня хочуць, каб на іх пальцам тыкалі“.

Настаўнік Сачэнка з в. Драздоўкі (Чарнігаўшчына) піша аб гэтым: „Шмат ёсьць сямей, з якіх ніхто ня ходзіць у царкву, але сьвяткуюць рэлігійныя дні, бо ім сорамна адставаць ад іншых. Калі гэткім сялянам кажаш, што трэба кінуць гэта сьвяткаваньне, дык яны вінавата адказваюць: „ня хочацца, каб на цябе пальцам тыкалі“.

*І нашым, і вашым.* На вёсцы, асабліва цяпер, мы маем працэс рэзкага адыходу насяленьня ад рэлігіі і занядбаньня рэлігійных сьвят. Ініцыятарам рэконструкцыі вясковага быту, апрача партыйных груп, зьяўляецца наша вяскавая моладзь на чале з комсамолам. Але не паўсюды моладзь так рашуча ўзьнялася на барацьбу з рэлігійным бытам. Ёсьць вёскі, дзе моладзь імкнецца да новага, але ў той-жа час ня хоча канчаткова разрываць і з старым. Гэта мы наглядаем, напр., у моладзі в. Лепек на Кіеўшчыне. Адтуль нам пішуць: „Рэлігійныя дні амаль усе сьвяткуюць, апрача комсамольцаў, настаўнікаў. Хоць моладзь з большага і нерэлігійная, але рэлігійныя сьвяты праводзяцца і перш за ўсё таму, што ў гэтыя дні ўсе на вёсцы п'янствуюць, гуляюць. Рэволюцыйныя сьвяты праводзяцца галоўным чынам культурным насяленьнем. Сярод моладзі ёсьць такія, што сьвяткуюць рэволюцыйныя дні. Да іх далучаецца нязначная частка насяленьня. Іншы раз у гэтым напрамку аб'яднаюцца некалькі вёсак“.

*Рэволюцыйныя сьвяты, выцясняючы рэлігійныя, з кожным годам прыцягваюць усё большыя масы насяленьня.* Аб гэтым сьведчаць шмат таварышоў, якія даслалі нам свае думкі аб правядзеньні гэтых сьвят на вёсцы.

„Рэлігійныя сьвяты для сялян,—піша студэнт Пархоменка з в. Бярозы на Глухаўшчыне—страцілі сваё значэньне і калі сьвяткуюцца, дык з мэтай п'янства. Рэволюцыйныя дні на вёсцы сьвяткуюцца жвава

і з захапленьнем, удзел у гэтым прыймае ўсё насяленьне, за выключэньнем старых".

„Што датычыцца сьвяткаваньня рэлігійных дзён, — піша другі вясковы таварыш, дык яны амаль зусім заняпалі, апрача вялікадня і ражаства. Рэволюцыйныя сьвяты праводзяцца з большым уздымам, але ня ўсім насяленьнем, а галоўным чынам актывам вёскі і моладзьдзю".

*Актыўны ўдзел у рэволюцыйных сьвятах прыймаюць бедянкі і серадняки.*

Вышэй мы гаварылі, што ў шмат вёсак у рэволюцыйных сьвятах вельмі слаба ўдзельнічае асноўная вясковая маса, што там яшчэ вельмі моцна падтрымліваюць рэлігійныя сьвяты. Але не паўсюды гэтак. У шмат якіх вёсках бедянкі і серадняки ўжо ўсьвядомілі шкоднасьць рэлігійных сьвят, адышлі ад іх і актыўна ўдзельнічаюць у правядзеньні рэволюцыйных сьвят.

*Які зьмест рэволюцыйных сьвят.* Каб масу сялянства ўцягнуць у сьвяткаваньне рэволюцыйных дзён і гэтым далучыць да будаўніцтва новага быту, трэба даць добры зьмест правядзеньню рэволюцыйных сьвят. Трэба, каб гэтыя сьвяты ня былі шаблёнам, каб яны давалі сапраўдны адпачынак насяленьню, каб у іх адчувалася творчасьць мас. Гэтага пакуль што на вёсцы няма. Цэлы шэраг вясковых таварышоў жалуюцца на адсутнасьць зьместу, сухасьць, шаблён у правядзеньні рэволюцыйных сьвят на вёсцы.

Студэнт Кулічэнка піша аб рэволюцыйных сьвятах: „Што датычыцца рэволюцыйных сьвят, дык яны яшчэ дагэтуль не набылі сярод насяленьня такога вялікага значэньня, якое неабходна. У часе іх правядзеньня бываюць выпадкі, што сяляне прыбіраюць належным чынам хаты, апранаюцца ў лепшае адзеньне, вывешваюць сьцягі, але гэткіх выпадкаў яшчэ вельмі мала і вялікага значэньня яны яшчэ ня маюць".

„Рэволюцыйныя сьвяты праводзяцца на вёсцы вельмі энэргічна — піша другі студэнт Буй, — па ўсёй вёсцы разьвешаны лёзунгі, плякаты, сьцягі; у хаце-чытальне зьбіраецца моладзь і частка сталага насяленьня. Адбываюцца масавыя паходы, даклады і г. д. Рэлігійныя сьвяты праводзяцца толькі старымі".

„Рэволюцыйныя сьвяты, піша таварыш з в. Сіняўкі (Чарнігаўшчына), яшчэ не заваявалі месца рэлігійных сьвят. Сьвяткаваньне іх можна, так сказаць, падзяліць на два пэрыоды: вечар і дзень. Увечары ў хату-чытальню зьбіраюцца ўсе групы вясковага населеньня (старых мала), якія больш-менш цікавяцца палітычным і экономічным палажэньнем Саюзу. Што датычыцца маніфэстацый і дэмонстрацый, дык толькі організацыі прыймаюць удзел у іх; астатняя частка насяленьня толькі наглядае факт сьвяткаваньня і ня прымае ў сьвяце чыннага ўдзелу.

Аб гэтым піша і настаўнік Сачэнка з в. Драздоўкі (Чарнігаўшчына): „Рэволюцыйныя сьвяты праводзяцца пры значным удзеле сялян, асабліва моладзі. Але гэта толькі ўвечары. Удзень-жа на сьвяткаваньні прысутнічае толькі організаванае насяленьне, ды і то ня ў поўным складзе, ды некаторыя бацькі вучняў".

*Школа ў правядзеньні рэволюцыйных сьвят, сапраўды, адыгрывае вялікую ролю.* Аб гэтым кажуць ня толькі настаўнікі але і самі сяляне. Вось як малюе працу школы ў рэволюцыйныя сьвяты настаўнік Кожыч: „Такія рэволюцыйныя сьвяты, як Кастрычнікавая рэволюцыя і дзень Чырвонай арміі сьвяткуюцца хоць прымітыўна, але ўражаньне ў сялян пакідаюць. Школа, з свайго боку, у гэтыя дні наладжвае дзіцячыя ранішнікі, якія даюць шмат уражаньняў дзецям. Зацікаўленасьць

у дзяцей павялічваецца яшчэ і таму, што ў гэтыя дні даюць дзецям падарункі. Увечары драмгурток наладжвае ў гэтыя дні бясплатныя спэктаклі для дарослых. Гэтым сяляне вельмі цікавяцца. Іграе свая музыка — гармонь. Перад пастаноўкай прадстаўнікі ўлады і настаўніцтва выступаюць з прамовамі“.

*Хочуць з палкай будаваць новы быт.* Як мы бачым з цэлага шэрагу прыкладаў, рэволюцыйныя сьвяты ўсё большае месца заваёўваюць ў жыцьці сялян. Партыйныя організацыі, комсамол, школа, наша вясковая моладзь, найбольш перадавая, актыўная і сьвядомая частка беднякоў і серадняков зьяўляюцца ініцыятарамі найлепшага правядзеньня рэволюцыйных сьвят на вёсцы, усялякім чынам імкнуцца адшукаць найлепшыя формы і лепшы зьмест у іх правядзеньні.

У гэтым напрамку патрэбна доўгая і ўпартая праца ня толькі актыву вёскі, але і шэрагу савецкіх і грамадзкіх організацый; трэба распрацаваць і даць ўзоры таго, як лепш праводзіць рэволюцыйныя сьвяты на вёсцы, як іх зрабіць сапраўднымі ячэйкамі новага быту.

У распрацоўцы гэтага пытаньня менш за ўсё дапамагаюць гвалтоўныя меры, адміністраваньне. Між тым, гэта апошняе мае месца на вёсцы. У в. Дубовічах Глухаўскага раёну група сялянак расказала мне наступнае: „У нас на вёсцы савецкія сьвяты таксама сьвяткуюцца, апрача асобных людзей, якія ўціхаматку дзе-небудзь працуюць. Бабы, працуючы ў хаце, увесь час паглядаюць на вокны і дзьверы, каб дзесяцкі як-небудзь не заўважыў. Яны часта кажуць, што вось у царскія дні і то не прымушалі сьвяткаваць, а цяпер прымушаюць.“ І сапраўды, у гэтай вёсцы загадваюць сьвяткаваць рэволюцыйныя дні, але яны мала сьвяткуюцца самімі сялянамі. Традыцыя адносна савецка-рэволюцыйных сьвят яшчэ ня створана.

А вось што піша нам аб гэтым адзін таварыш з в. Рубанкі (Канатопшчына): „Вёска вельмі рэлігійная, а таму рэлігійныя сьвяты бываюць вельмі ўрачыстымі. Рэволюцыйныя сьвяты таксама бываюць урачыстымі, але іх сьвяткуе толькі моладзь. Калі якое-небудзь рэволюцыйнае сьвята не супадае з рэлігійным днём, дык сельсавет выганяе ўраньні выканаўцаў, каб яны ня пушчалі сялян у поле. Перад такім сьвятам з 2 гадзін ночы можна пачуць грукат колаў — гэта сяляне выяжджаюць у поле, покуль па дарозе яшчэ ня сустрэліся выканаўцы“.

Вось як у некаторых вёсках будуецца новы быт. А такім спосабам яго не пабудуеш.

---

**Юрка Бітус.**

# Савецкі швэйны конвэйер.

*(Нарыс).*

На ўсю ваколіцу аж да таварнай станцыі, аж да поля кліча магутны гудок Менскай швэйнай фабрыкі „Кастрычнік“.

Ту-у-у-у!—роўна і аднатонна цягне і аж глушыць, калі блізка стаіш пры фабрыцы. На вокліч гудка хутка ішлі ў чорных і сініх блузах рабочыя. Яны гурткамі па два, па тры чалавекі крута зварачвалі з вуліцы ў калідор, дзе сядзеў міліцыянэр і вешалі адзін за адным на табельную дошку свае нумары.

Больш тысячы трэба павесіць на цьвічкі першай зьмене гэтых медзяных кружкоў.

Прагучэў другі раз гудок. К гэтаму часу ўсе былі на месцы. Цяпер дык і ня відаць нікога.—Дзе яны гэтыя рабочыя?—думаеш, а іх столькі шмат.

І вось працоўны дзень. Лёгка ходзяць нажы, якія выкройваюць па сотні штук зараз рукавоў ці каўняроў з агульнага пласту матар'ялу, гудуць роўныя, доўгія рады мэханізаваных электрычнасьцю машын. Строчаць хутка іголкі, ня згледзець проста, бягуць па сукну, пакідаючы вузенькія чорныя дарожкі. Тут-жа, праз адпаведныя прамежкі, устаноўлены мэханічныя прэсы. Сшытае можна прасаваць усьлед. Горача каля іх. Дык некаторыя ўдарнікі без кашуль працуюць, націскаюць нагамі пэдалі, а прэсы самі дзейнічаюць. І лёгка і хутка.

Ёсьць прэсы на фабрыцы вялікія і малыя. На вялікіх цяжэй працаваць, затое яны выконваюць працу большую—прасуюць пальто і розную другую больш цяжкую для апрацоўкі вопратку.

У працы сярод рабочых існуе поўны падзел. Кожны выконвае толькі адну якую-небудзь працу, астатняя—справа другіх. Сыры матар'ял, пачынаючы ад звычайнага трубкавога сукна, праходзіць праз сотні рук і з апошніх выходзіць чыстым адпрасаваным касьцюмам, пальто ці другою формаю вопраткі. То савецкі швэйны конвэйер, за якім рабочыя працуюць толькі сем гадзін. І сапраўды. Надзвычайна хутка выпускаецца адзеньне.

Апошні рабочы, які правярае на манэкене выпускаемую продукцыю, праз кожныя поўхвіліны апушчае ў атворыну з другога на першы паверх па аднаму экзэмпляру гатовае вопраткі.

За поўхвіліны пальто?

— Так, за поўхвіліны!—адказвае і плюшчыць вочы стары рабочы фабрыкі, Мэяровіч, Бэрка Абрамаў. Ён прыкметна пасівеў ужо, згорбіўся, але шустры стары. Не паддаецца другім, наадварот, яшчэ гонар мае. І зразумела чаму—ударнік.

Мэяровіч працуе па сваёй спэцыяльнасьці — краўцом—47 год. Руплівы такі ён, па аднаму пагляду пазнаеш, што любіць фабрыку і жыве ёю.

Пра мінулае ён апавядае так:

— Бачыш,—паказвае ён на доўгія рады машын, — як гудуць?! Фабрыка! 2000 чалавек працуе. А было...—і Мэяровіч пачаў аб незабытнай гісторыі, вярнуўся на некалькі гадоў назад:—1921 год.

— Сярод абшарпаных, абадраных кулямі і днямі белапольскай окупацыі, шэрых дамоў на Ленінскай вуліцы, слаба вызначалася адна толькі цьмяная, праіржавеўшая мясцамі шыльда. На ёй было простымі літарамі выведзена: „Менская швэйная фабрыка“.

Ха-ха-ха! Ня фабрыка, а непаразуменьне адно. Ну, але „ за неимением лучшей“, яна ўсё-ж насіла такую назву. Нас працавала тады 12 чалавек. Разумееш? Саматужным спосабам рабілі ўсё. А заробак 23 фунты мукі ў месяц. Вось і пражывi. Некалькі часу наша фабрыка была на ўтрыманьні Чырвонай арміі.

Душа вылазіла ад холаду і голаду, але мы верылі і перамаглі!—скончыў на гэтым сваё кароткае апавяданьне тав. Мэяровіч стары рабочы, які перанёс даволі зьдзекаў ад царскага ўраду, прабыў 13 гадоў у ссылцы.

А навокал разьліваўся той-жа вясёлы грукат і з тымі-ж тэмпамі скакалі сваімі гусінымі лапкамі па сукну машыны. Гналіся кудысьці, беглі. Тае фабрыкі, старое няма! У тым доме, што на Ленінскай, адрамантаваным і дапоўненым—ФЗВ.

Там на другім паверсе таксама гудуць машыны. Дзеці рабочых набываюць веды і кваліфікацыю і папаўняюць сьвежымі бадзёрымі сіламі швэйную фабрыку „Кастрычнік“. Улічваючы востры недахоп вопраткі, фабрыка ў 1930 годзе падвоіла тэмпы. Сярод рабочых рэдка знойдзеш ня ўдарніка. Той плян, аб якім крычалі ныцікі і малаверы, што выканаць яго нельга, фабрыка „Кастрычнік“ выканала на 107%.

107! Ад ударных брыгад фабрыка перайшла да ўдарных цэхаў і тэмпы не паслабляе да апошняга часу. Ударнікі за лепшую працу фабкомам прэм'юююцца. Так, напрыклад, кандыдатуру Мэяровіча паслалі ў ЦСПСБ для наданьня яму званьня героя працы. Але Мэяровіч паціскае плячыма:—Ат, ну гэрой! Папрацую яшчэ! Ударнікі Бампіль, Гарэлік, Бэрнштэйн, Рыбак прэм'яваны і некаторыя па два разы.

Практыка гомельскіх друкароў з Палесдруку знайшла шырокае падтрыманьне з боку працоўных мас Беларусі. Ня мінула яна і швэйнай фабрыкі „Кастрычнік“. На фабрыцы абвешчаны былі з 1-га па 6-га лістапада вытворчыя манэўры.

Пачаліся манэўры. Адзін дзень, другі. 101,3%, 102%, 103,4%— вынікі манэўраў.

Вось яны, лікі перамог,—воля рабочае клясы!

А каб усе ўдарнікамі былі, а каб усе рынуліся ў бой за прамфінплян—горы перавярнулі-б! Добрая і адданая праца не прападзе. Яе будуць заўсёды памятаць мільёны рабочых, як каштоўную адданую справе рэволюцыі працу.

Героізм Менскай швэйнай фабрыкі ў барацьбе за прамфінплян не пакінуты таксама. Яна атрымала за выкананьне і перавыкананьне прамфінпяну ад Ураду БССР Чырвоны Сьцяг.

Гонару свайго фабрыка не аддасьць нікому! Праўда, таварыш Мэяровіч?! Ты-ж сам расказваў, як елі хлеб з асьцюкамі!

Наперад, Чырвонаштандартная!

Менск, 1930 г.

---

**П. Скокаў.**

# Пролетарыят „Энэргіі“ пераможа.

Я апавядаю аб рабочых-бальшавікох з заводу „Энэргія“.

Іх шлях жыцьця і барацьбы за соцыялізм мне добра знаёмы. Гэты шлях перапоўнены простастаўнымі пярэспамі, страшэннымі бяздоньнямі; але пры шпаркім руху па ім уперад адпачынкаў, мірнага супакоеньня рабочыя-бальшавікі не рабілі.

Шлях гэты бярэ свой пачатак у 1912 годзе, у момант арганізацыі гандлярамі—Дорскім і Рохліным—заводу „Энэргія“.

У пачатку—гэта быў невялікі чугуна-ліцейны цэх з невялікаю колькасьцю рабочых. Паступова гэты цэх рос. Гандляры Дорскі і Рохлін пашыралі яго, павялічвалі колькасьць рабочых, адначасова павялічваючы і іх эксплёатацыю. Марудна праходзілі гады суровага жыцьця і непамернай эксплёатацыі.

Бязьлітасная барацьба рабочых з капіталам зьмяняла твар зямлі і грамадзкія адносіны. Наступалі гады, калі пролетарыяту БССР пры-

ходзілася весьці бязьлітасную ўзброенную барацьбу з ворагамі, якія хацелі зьнішчыць соцыялістычную бацькаўшчыну працоўных. Гэта былі гады, калі сучасныя нацыянал-дэмократы, Ластоўскія, Некрашэвічы, Лёсікі і інш.—гандляры крывёю і потам рабочае клясы,—грамілі беларускія вёскі, бралі актыўны ўдзел у бандзе крывавай сабакі польскага імпэрыялізму Булак-Балаховіча. Гэтая чорная зграя польскага імпэрыялізму думала прыдушыць рабочую клясу і бядняцка-серадняцкія масы сялянства БССР, узваліць на іх капіталістычнае ярмо ўціску.

Але, ва ўпартай барацьбе рабочая кляса і бядняцка-серадняцкія масы сялянства БССР перамаглі чорную зграю.

У бязьлітаснай барацьбе перажылі гэтыя гады і рабочыя-бальшавікі заводу „Энэргія“.

Зараз, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, ня гледзячы на жорсткую клясавую барацьбу, пролетары заводу „Энэргія“ пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі далі непамерны разгон будаўніцтву па соцыялістычнай рэконструкцыі заводу „Энэргія“ Пабудавалі новы вялізарны корпус, дзе зараз працуюць новай сыстэмы машыны. Корпус гэты носіць назву сьлясарна-мэханічнага цэху. Пабудавалі ліцейны і сьлясарна-зборачны цэхі. Усе цэхі абсталяваны рухавікамі вялікай моцнасьці, якія прыводзяць у рух варштаты featureнастайнай конструкцыі.

На сёньня завод выпрацоўвае буйныя сельска-гаспадарчыя машыны, такарныя, сьвярлільныя варштаты, камнядрабілкі, вапнадрабілкі і інш. Яго мэта—даць як мага больш прылад, зброі для хутчэйшай соцыялістычнай перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі. Рабочыя заводу гэтую задачу добра зразумелі. Таму на заводзе разгарнулася вялікая барацьба людзей і машын супроць усіх рэштак старой працы, супроць нядбайных адносін да працы. Вось чаму рабочыя-бальшавікі заводу „Энэргія“ пайшлі вялікай грознай хваляй па лініі хутчэйшага выкананьня гаспадарчай програмы, каб паставіць завод на перадавую позыцыю нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Соцыялізм патрабуе такой працы, дзе-б быў вялізарны напор мас.

Той, хто стаіць у баку ад напору рабочых мас, ухіляецца ад штурму рабочых у выкананьні прамфінпляну,—той супроць соцыялізму. Таго судзіць наш рэволюцыйна-вытворчы трыбунал. Судзьдзі ў нас—рабочыя-ўдарнікі, а судзяць яны—рабочых-прагульшчыкаў, рвачоў, гультаёў, зрыўшчыкаў,—так гавораць рабочыя заводу „Энэргія“.

У колектыве рабочых заводу широка разгарнуліся соцыялістычныя формы працы.

Вось мова фактаў іх рэволюцыйнай гордасьці.

Прамфінплян на 16 лістапада 1930 году выкананы на 110,22%. Шырокае правядзеньне рацыяналізацыі, ажыцьцяўленьне прапаноў рабочых дало экономіі за 1929/30 год на 7 тысяч рублёў, за 1930/31 год—на 35 тысяч рублёў. Ударны квартал гэтага году даў экономіі 19 тысяч рублёў. Асабліва значэньне набываюць рацыяналізатарскія прапановы рабочых і іх вынаходніцтвы. За 7 месяцаў бягучага году, пачынаючы з мая месяца, падана 292 прапановы рабочых, з якіх выканана 140 прапаноў.

Вось прыклады такіх прапаноў.

Рабочы Сьляпян прапанаваў утвараць зборку і сартыроўку абрэзкаў жалеза ў кацельным цэху, якое валялася без скарыстаньня і пасьля адвозілася ў Рудмэтальгандаль. Гэтае мерапрыемства дало экономіі 1.375 руб. Рацыяналізатар Шкурдзе прапанаваў зьменшыць пропорцыю коксу пры сплаўцы 30,14×0,10, што дало гадавой эко-

номіі 4.207 руб. Рабочы Пагоцкі прапанаваў павялічыць абслугоўваньне чорнарабочай сілай такароў, сьлесароў і кацельшчыкаў з мэтай забесьпячэньня ўсімі неабходнымі матар'ялямі, што дае гадавой эканоміі 1.200 руб. Рабочы Сімута вынайшаў аўтогенную заварку ракавін. Ім-жа прапанована скарыстоўваць гарачыя літнікі для вагранак. Усё гэта дае гадавой эканоміі 3.968 руб. Рабочы Чарняк сконструяваў буршіангу і апорныя рычагі для вагонэтак. Рабочы Мірскі прапанаваў замяніць ручное кляпаньне пярэдніх жалезных абвечак электра-зваркай. Ім-жа прапанавана зрабіць трыкутнікі, якія скарыстоўваць для ўмацаваньня бакоў каўша, у які засыпаецца граві. Эканоміі 2.394 руб.

Прыкладаў прапаноў і вынаходніцтва ў рабочых можна падаць шмат. Яны нараджаюцца ў разгары шырокага разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, яны нараджаюцца ў барацьбе людзей і машын супроць старых мэтодаў працы, у барацьбе людзей і машын за хутчэйшае выкананьне прамфінпляну.

Рабочыя на заводзе „Энэргія" яднаюцца ў ударныя брыгады, скразныя брыгады і вытворчыя комуны. На сёньня ўдарных брыгад на заводзе—19; скразных—3; вытворчых комун—12. Замацаваных на заводзе да канца пяцігодкі: рабочых—685 чал.; служачых—26 чал. З іх сяброў партыі—108 чал.; комсамольцаў—142; беспартыйных—461 чал.

За час нядаўна праведзеных вытворчых манэўраў энэргія і ініцыятыва рабочых мас заводу ўзрасла. Ударніцтва ўзрасло на 40%; замацаваньне сябе за вытворчасьцю да канца пягігодкі на 30%; ударныя брыгады ўзрасьлі на 10%; організаваліся вытворчыя комуны.

У процэсе правядзеньня вытворчых манэўраў рабочыя заводу дабіліся значнага паніжэньня сабекошту выпушчанай продукцыі.

У адказ шкоднікам з „прампартыі", агентам францускага імпэрыялізму, у адказ зраднікам рабочае клясы—чорнай зграі польскага імпэрыялізму рабочыя заводу „Энэргія" абвясьцілі завод ударным, уключыліся ва ўсесаюзныя вытворчыя манэўры. З кожным днём крывая, паказваючая выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, імкнецца ўверх. Рабочыя баявымі ўдарнымі колёнамі ідуць у атаку супроць капіталу, за перамогу комунізму.

---

# ХРОНІКА.

## Над чым працуюць краязнаўчыя таварыствы.

### Вапнякі ў Асіпавіцкім раёне.

У сваіх дасьледваньнях проф. Тэрлецкі апісвае 2 месцы знаходжэньня выхадаў дэвонскага вяпняку на тэрыторыі Асіпавіцкага раёну: вур. Мачынск і в. Стаішча. У гэтых мясцох партыі ВСНХ праводзілі дасьледчую працу і рабілі шурфы. Між іншым, яны шукалі вапняку і вакол Стаішча; так, імі было зроблена некалькі пробных, як ля в. Заручэўе, але-ж выхадаў вапняку не заўважана.

3-га мая А. Немцавым знойдзены новы выхад вапняку ля пасёлку Міхалеўшчына. Гэтыя выхады складаюць трыкутнік — Мачынск, Стаішча і Міхалеўшчына. На гэтых днях т. Немцаў закладзе пару шурфаў ля Міхалеўшчыны. Пры беглым аглядзе відаць, што вапняк тутака займае плошчу даўжынёю, прыблізна, у 70—80 саж., шырынёю ў 30—40 саж.; вапняк залягае ў некаторых мясцох прыблізна, на 1 арш. ад паверхні зямлі. На полі заўважаюцца дробныя каменчыкі вапняку, і з адказаў сялян відаць, што ўраджаі ў гэтым месцы заўсёды бываюць добрыя, ня гледзячы на тое, што плошча гэта ня ўгнойваецца.

А. Н.

### Скарыстаньне пяшчаных абшараў.

Вучоны лесавод Марціноўскі, які ў мінулым годзе працаваў у Магілеве, дасьледваў пяшчаныя абшары Магілеўшчыны з мэтай скарыстаньня іх пад плянтацыі вербалозу (івы), з якога атрымліваецца добры дубіцель, так патрэбны для апрацоўкі скур. На падставе папярэдніх досьледаў і вопытаў т. Марціноўскага складзены проект разгортваньня прамысловай здабычы дубіцеля для скарыстаньня ў мясцовай скураной прамысловасьці і ў першую чаргу для Магілеўскага заводу (выраб сырцовых скур). Надаючы гэтай справе палітычнае і практычнае значэньне, бо гэтым мы вызваляемся ад імпорту замежных дубіцеляў, „Камітэт савецкага дубіцеля“ пры Скурсындыкаце асыгнаваў на гэта 18.000 рублёў.

### Усход і захад сонца ў БССР.

Усе мы ведаем, што зямля—сфэра. Але ня ўсе ўлічваюць гэта ў практыцы і думаюць, што тэрыторыя БССР настолькі малая, што яна прыблізна ўся—роўніца, і сонца аднначасова ўсходзіць і аднначасова заходзіць дзеля ўсіх раёнаў БССР. Тымчасам гэта ня так, і асабліва рэзкія розьніцы ў чэрвені месяцы, у часе летняга сонцастаяньня, і ў сьнежні месяцы, у часе зімовага сонцастаяньня.

Даўжыня дня залежыць у данай мясцовасьці ад яе географічнай шырыні і ад пары году. У адзін і той самы дзень году, чым больш паўночная шырыня мясцовасьці, тым даўжэй дзень, калі гэта ў летняе паўгодзьдзе, і тым карацей, калі гэта ў зімовае паўгодзьдзе (ад 23 верасьня да 20 сакавіка). Акрамя гэтага, час усходу і заходу сонца залежыць яшчэ ад географічнай даўжыні мясцовасьці, бо мясцовы час не супадае з поясным.

Усё гэта ўлічана ў ніжэйпаданай табліцы. Калі таварышы з паасобных раёнаў БССР зацікавяцца больш падрабязна гэтым пытаньнем, дык астрономічны габінэт БДзУ можа апублікаваць у „Нашым Краі“ даныя аб усходзе сонца і яго захадзе на ўвесь год, прыкладам, кожныя 10 або кожныя 5 дзён дзеля тых самых мясцовасьцяй, якія ўлічаны ў табліцы.

Дамброўскі.

### Найранейшы і найпазьнейшы ўсход і захад сонца ў розных мясцовасьцях БССР.

| Месца | 22 чэрвеня 1931 г. | | | | 22 сьнежня 1931 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усход | | Захад | | Усход | | Захад | |
| | г. | хв. | г. | хв. | г. | хв. | г. | хв. |
| Камарын . . . | 3 | 40 | 8 | 19 | 8 | 01 | 3 | 32 |
| Мазыр . . . | 3 | 52 | 8 | 27 | 8 | 09 | 3 | 54 |
| Петрыкаў . . | 3 | 44 | 8 | 31 | 8 | 13 | 3 | 56 |
| Гомель . . . | 3 | 32 | 8 | 23 | 8 | 04 | 3 | 45 |
| Слуцак . . . | 3 | 43 | 8 | 40 | 8 | 22 | 3 | 55 |
| Бабруйск . . | 3 | 35 | 8 | 34 | 8 | 15 | 3 | 48 |
| Асіповічы . . | 3 | 37 | 8 | 38 | 8 | 19 | 3 | 50 |
| Хоцімск . . . | 3 | 21 | 8 | 22 | 8 | 03 | 3 | 33 |
| Магілеў . . . | 3 | 27 | 8 | 34 | 8 | 15 | 3 | 40 |
| Менск . . . | 3 | 38 | 8 | 45 | 8 | 26 | 3 | 51 |
| Амсьціслаў . . | 3 | 20 | 8 | 29 | 8 | 10 | 3 | 53 |
| Ворша . . . | 3 | 30 | 8 | 39 | 8 | 19 | 3 | 33 |
| Віцебск . . . | 3 | 19 | 8 | 44 | 8 | 24 | 3 | 36 |
| Полацак . . . | 3 | 22 | 8 | 51 | 8 | 32 | 3 | 35 |
| Асьвея . . . | 3 | 21 | 8 | 58 | 8 | 38 | 3 | 35 |

Вылічана паводле „Almanaque Náutico“ на 1931 год і паводле карт БССР.

Астраномічны габінэт Пэдфаку БДзУ.

## Кароткі агляд надвор'я і стану пасеваў па БССР за дэкады кастрычніка 1930 г.

### ПЕРШАЯ ДЭКАДА.

#### Агульная характарыстыка.

Першая дэкада была пахмурнай, досыць халоднай (марозы па поўначы БССР даходзілі да 4°—5°), дажджлівай з перападаючымі ападкамі вясеньняга і зімняга тыпу— крупа, сьнег.

#### Тэмпэратура.

Апошнія дні верасьня стаяла яснае, цёплае надвор'е, але, пачынаючы з 1 кастрычніка, тэмпэратура хутка зьніжаецца, і далей досыць нізкія, нават для дадзенага месяца, сярэднія сутачныя тэмпэратуры пачынаюць трымацца на працягу амаль усёй дэкады. Толькі ў сярэдзіне дэкады (чыслы 5-6) у паўднёвай частцы БССР сярэдняя сутачная тэмпэратура даходзіць да 10°—12°, а ў астатнія дні па ўсёй БССР сярэдня-сутачныя тэмпэратуры вагаюцца паміж—28° і+5,0°.

Калі ў папярэднюю дэкаду тэмпэратура паветра ня зьніжалася ніжэй 0,0°, у гэту дэкаду адмоўныя тэмпэратуры адзначаны па ўсёй тэрыторыі БССР. Дзён з адмоўнымі тэмпэратурамі па паказаньнях мінімальнага тэрмомэтру ад 1 да 6.

Пры параўнаньні з адпаведнай дэкадай кастрычніка мінулага году сярэдняя тэмпэратура 1 дэкады кастрычніка бягучага году ніжэй на 8-9°.

Сярэднія дэкадныя тэмпэратуры 1 дэкады кастрычніка ніжэй за адпаведныя шматгадовыя ў сярэднім на 2-3°.

Максымальная тэмпэратура паветра за суткі+16,9 (Мар'іна-Горка—6/X-30 г.).

Мінімальная т-ра паветра за суткі—5,6 (Нов. Каралёва Віц. р.—9/X-30 г.).

#### Тэмпэратуры глебы.

На глыбіні 10 см ад 7.8 (Менск) ад 8.9 (Бабічы).

На глыбіні 20 см ад 6.5 (Ворша) да 9.2 (Бабічы).

На глыбіні 40 см ад 8.9 (Менск) да 10.6 (Мар'іна-Горка).

На глыбіні 80 см ад 9.3 (Ворша) да 11.2 (Бабічы).

Максымальная т-ра на паверхні глебы +24.0 (Менск).

Мінімальная т-ра глебы—7.2 (Бабічы).

У папярэднюю дэкаду адмоўных тэмпэратур на паверхні глебы па мінімальнаму тэрмомэтру ня было адзначана. У гэту дэкаду гэткіх дзён адзначана ад 2 да 7. Колькасьць дзён з адмоўнымі тэмпэратурамі расьце пры перасоўваньні на поўнач-усход.

#### Ападкі.

Разьмеркаваньне ападкаў па тэрыторыі БССР наступнае: каля нормы і значна ніжэй за норму ападкаў выпала ў паўднёвай частцы БССР, значна вышэй за норму—у паўднёва-заходняй палове БССР і каля нормы і вышэй за норму—у астатняй частцы БССР.

Дзён з ападкамі было ад 5 да 9 у пераважнасьці 6-7. Ападкі выпадалі, галоўным чынам, у выглядзе дажджу, але ў пачатку і ў сярэдзіне дэкады амаль па ўсёй БССР выпадаў сьнег, які ў большасьці выпадаў разам з дажджом ці крупой, а калі выпадаў паасобку, дык вельмі слабы і значнай колькасьці вільгаці не даваў.

#### Вятры.

У першую палову дэкады панавалі вятры паўночнай паловы кругавіду, у другую— паўднёвай. Сярэдняя хуткасьць вятроў за дэкаду пераважае норму. Асабліва ўзмацненьне вятроў наглядалася ў апошнія дні дэкады, калі хуткасьць вятроў у некаторых пунктах БССР (Мар'іна-Горка) даходзіла да 20 мэтраў у сэкунду.

Агляд пасеваў.

Пасеў азімых культур за невялікім выключэньнем скончаны. Пасевы ў залежнасьці ад тэрмінаў знаходзяцца ў фазах усходаў, 2 і 3 лісты і куставаньня, вышыня росту іх ад 3 да 12 см., ацэнка сярэдняя, вышэй сярэдняй. Рост азімых некалькі затрымаўся ў мінулую дэкаду, так як надвор'е стаяла халоднае і дажджлівае з начнымі замаразкамі.

Уборка бульбы і караньплодаў некалькі затрымалася па вышэйпаказаных прычынах.

## ДРУГАЯ ДЭКАДА.

### Агульная характарыстыка.

Другая дэкада была сухой (па колькасьці выпаўшых ападкаў), цёплай, з значнымі начнымі і ранічнымі туманамі.

Тэмпэратура паветра.

Другая дэкада характэрна роўным ходам сярэдня-сутачнай тэмпэратуры, з яўным падвышэньнем апошняй к канцу дэкады. У паасобныя тэрміны назіраньняў тэмпэратура, галоўным чынам, у паўднёвай частцы БССР, даходзіла да 18-19; калі ў папярэднюю дэкаду тэмпэратура паветра зьніжалася ніжэй нормы па ўсёй БССР і нават даходзіла да 5.6° (Нов. Каралёва, каля Віцебску), у дадзеную дэкаду нізкія тэмпэратуры паветра наглядаліся ў Нов. Каралёве—1.20 (12/X-30 г.), Стукачове (Валынец. р-ну) — 1.0° (12/X-30 г.), Воршы—1.1° (12/X-30 г.), Бабічы (Рэчыцк. р-ну)—0.7 (12 і 19/X-30 г.) і ў Чэрыкаве, Віцебску, Бабруйску, Турску—0.0° (12/X-30 г.).

Вышэйпрыведзеная характарыстыка другой дэкады кастрычніка, як цёплай, знаходзіць сваё пацьвярджэньне ў тым, што другая дэкада кастрычніка цяплей першай дэкады, сярэднім, на 4°, у той час калі яна, згодна шматгадовых дадзеных, павінна была быць халадней першай на 2°.

Пры параўнаньні з адпаведнай дэкадай кастрычніка мінулага году сярэдня-дэкадная тэмпэратура другой дэкады кастрычніка бягучага году вышэй на 1—3 градусы.

Сярэдня-дэкадная тэмпэратура 2 дэкады кастрычніка вышэй яе сярэдне-шматгадовай на 3—5 град.

Максымальная т-ра паветра за суткі 21.6° (Скрыгалаў быўшай Мазырск. акр. (18/X—30 г.).

Мінімальная т-ра паветра за суткі 1.20° (Нов. Каралёва) (12/X-30 г.).

Тэмпэратура глебы.

На глыбіні 10 см ад 8.0 (Менск) да 8.9 (Бабічы).

На глыбіні 20 см ад 7.6 (Ворша) да 8.8 (Мар.-Горка).

На глыбіні 40 см ад 8.3 (Менск) да 9.9 (Мар.-Горка).

На глыбіні 80 см ад 8.3 (Ворша) да 10.1 (Бабічы).

Максымальная т-ра на паверхні глебы 20.3 (Нов. Каралёва—19/X-30 г.).

Мінімальная т-ра на паверхні глебы 3.0 (Турск быўш. Бабр. акр. 12/X-30 г.).

Прымаразкі на паверхні глебы мелі месца (ня больш 4-х раз у дэкаду), галоўным чынам, ва ўсходняй палове БССР.

Ападкі.

Ападкаў у дадзеную дэкаду выпала вельмі мала: значна ніжэй за норму. Менш за ўсё ападкаў выпада ў паўднёвай палове БССР і паўночна-заходняй частцы яе і некалькі больш у астатніх частках БССР. Разгляданая дэкада характэрна яшчэ тым, што значныя туманы часам давалі вымерную колькасьць ападкаў. Дзён з ападкамі было ад 1 да 8, у пераважнасьці 5-6. Сьнегу зусім не наглядалася. Граду—таксама. Дзён з дажджом адбылося ад 1 да 5. Дзён з імжакай—таксама ад 1 да 5, і дзён з інеем—ад 1 да 2 (па 12 станцыях).

Максымум выпаўшых ападкаў наглядалася ў вёсцы Пісарэўшчыне (быўш. Арш. акр.) 17.7 мм.

Мінімум ападкаў 0.1 мм у саўгасе Сосны (быўш. Бабр. акр.).

Вятры.

У першую палову дэкады вятры панавалі паўднёва-ўсходняга напрамку і ў апошнія дні дэкады наглядалася зацішша. Моцных вятроў ня было.

Агляд хлябоў і пасеваў.

Стан азімых пасеваў ацэньваецца як сярэдні і вышэй сярэдняга, знаходзяцца яны ў фазах усходаў, 2 і 3 лісты кушчэньня ў залежнасьці ад тэрміну пасеву. Вышыня росту іх ад 5 да 13 см.

## ТРЭЦЯЯ ДЭКАДА.

### Агульная характарыстыка.

Трэцяя дэкада была цёплай і дажджлівай.

Тэмпэратура паветра.

Па ходу сярэдня-сутачнай тэмпэратуры трэцяя дэкада зьяўляецца працягам папярэдняй, яна характарызуецца роўным ходам сярэдня-сутачнай тэмпэратуры з прыкметным падвышэньнем апошняй у сярэдзіне дэкады.

Прымаразкаў у паветры не наглядалася. III дэкада кастрычніка цяплей II дэкады на 2°—3°.

Тэмпэратура III дэкады кастрычніка бягучага году амаль не адрозьніваецца ад тэмпэратуры адпаведнай дэкады мінулага году

Сярэдня-дэкадная тэмпэратура III дэкады кастрычніка цяплей сярэдня - шматгадовай (норма) на 4°—6°.

Максымальная т-ра паветра +17,6 (Полацак, 26/X-30 г.).

Мінімальная т-ра паветра +1,0 (Магілеў, 24/X-30 г.).

Тэмпэратура глебы.

На глыбіні 10 см ад 8.2 (Менск) да 9.0 (Бабічы).

На глыбіні 20 см ад 7.7 (Ворша) да 8.9 (Мар.-Горка).

На глыбіні 40 см ад 8.4 (Менск) да 10.0 (Мар.-Горка).

На глыбіні 80 см ад 7.4 (Ворша) да 10.0 (Бабічы).

Максымальная т-ра на паверхні глебы 15.9 (Менск 27/X).

Мінімальная т-ра на паверхні глебы—1.0 (Турск 24/X).

Прымаразкі на паверхні глебы мелі месца (ня больш 2 раз у дэкаду), галоўным чынам, ва ўсходняй частцы БССР.

Ападкі.

Ападкаў у трэцюю дэкаду выпала вышэй за норму ў паўднёвай палове БССР, каля нормы і нязначна вышэй за норму ў паўночнай. Ападкі выпадалі, галоўным чынам, у выглядзе дажджу. Дзён з ападкамі было ад 2 да 9, у пераважнасьці 6-7.

Дзён з туманамі было ад 1 да 6. Туманы былі, галоўным чынам, у пачатку і сярэдзіне дэкады.

Вятры.

У дадзеную дэкаду вятры панавалі паўднёвага напрамку. Моцныя вятры адбіліся ў сярэдзіне дэкады.

Агляд пасеваў.

Стан азімых пасеваў ацэньваецца як сярэдні і вышэй сярэдняга. Пасевы знаходзяцца ў фазе кушчэньня, 3 лісты. Вышыня росту 7—15 см.

Гідромэтэоролёгічны Інстытут.

## Усім краязнаўчым установам і арганізацыям.

### Адозва ЦБК аб правядзеньні краязнаўчай пяцідзёнкі.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства прапануе правесьці „краязнаўчую пяцідзёнку" з 25 па 30 студзеня 1931 году на наступных падставах:

1. Асноўны лёзунг пяцідзёнкі—рашучае выкрыцьцё контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, ачышчэньне краязнаўчых арганізацый ад усіх шкодніцкіх і варожых социялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў; краязнаўства—форма садзейнічаньня социялістычнаму будаўніцтву з боку савецкай грамадзкасьці шляхам вывучэньня краю і прымяненьня вынікаў вывучэньня ў справе яго будаўніцтва.

2. Мэта і задачы краязнаўчай пяцідзёнкі: а) прыцягнуць увагу савецкай грамадзкасьці да зьместу і форм савецкага краязнаўства, яго чарговых задач, яго вялікай ролі ў справе социялістычнага будаўніцтва; б) паставіць перад шырокімі масамі працоўных шэраг актуальных тэм для краязнаўчых прац, якія ўжо выкананы, выконваюцца і падлягаюць выкананьню; в) прыцягнуць у склад краязнаўчых арганізацый рабочых гораду і вёскі, колгасьнікаў і сялян шляхам арганізацыі па фабрыках, заводах, жылтаварыствах, колгасах, школах, вёсках краязнаўчых ячэек; г) зрабіць навуковую працу па вывучэньні краю дастаяньнем шырокіх мас працоўных.

3. Формы працы краязнаўчых арганізацый у пяцідзёнку: а) шырокая кампанія ў мясцовай прэсе, якая папераджае і агітуе за краязнаўчую пяцідзёнку, сочыць за яе ходам, падагульвае вынікі; б) пастаноўка дакладаў, публічных лекцый, дыспутаў, вечароў-успамінаў на тэмы, якія могуць зацікавіць даную аўдыторыю і выяўляюць край у яго асаблівасьцях, своеасаблівасьць яго социялістычнага будаўніцтва, характэрныя рысы мінулага краю, якія адбіваюцца на сучасным яго будаўніцтве; в) пастаноўка разам з ОПТ'ам дакладаў аб турыстычных экскурсіях—як мясцовых, так і далёкіх; г) арганізацыя экскурсій па музэях, прадпрыемствах, савецкіх навуковых установах, па гораду, у колгасы і саўгасы, у заказьнікі і г. д.; д) паседжаньні краязнаўчых арганізацый на прамысловых і сельска-гаспадарчых прадпрыемствах; е) карнавалы моладзі, прысьвечаныя характарыстыцы краю і яго социялістычнага будаўніцтва; ж) выстаўкі кніг па мясцоваму краю ў бібліотэках, чырвоных кутках, хатах-чытальнях.

Да арганізацыі „краязнаўчай пяцідзёнкі" неабходна прыцягнуць шырокую грамадзкасьць і ў першую чаргу—арганізаваную моладзь: комсамол, піонэраў, турыстых, юнакоў, школьнікаў; дагаварыцца з арганізацыямі аб форме і месцы працы.

Раённыя краязнаўчыя таварыствы арганізуюць зьбіраньне зьвестак аб падрыхтоўцы правядзеньня пяцідзёнкі на мясцох і прысылаюць свае весткі ў ЦБК.

Цэнтральнае Бюро
Краязнаўства.

## Плян правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі.

1. Краязнаўчую пяцідзёнку правесьці з 25 па 30 студзеня 1931 году.

2. Цераз друк і ў першую чаргу цераз часопіс ЦБК „Савецкая Краіна" зараз-жа распачаць

падрыхтоўчую працу да краязнаўчай пяцідзёнкі.

3. Масавыя сходы профсаюзаў, рабочых, колгасьнікаў, студэнцтва, вучобў скарыстаць для папулярызацыі краязнаўчай пяцідзёнкі.

4. Падрыхтаваць і выдаць да 5/I краязнаўчы зборнік з матар'яламі, характарызуючымі шкодніцкую работу контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму і тэзісамі за савецкае краязнаўства.

5. Разьезд студэнцтва на канікулы і вытворчую практыку скарыстаць для масавай работы па краязнаўчай пяцідзёнцы, для чаго правесьці інструкцыйныя даклады.

6. Правесьці падрыхтоўчую працу да арганізацыі, а 25/I распачаць конкурс на лепшае апісаньне фабрык, заводаў, саўгасаў і колгасаў.

7. У час пяцідзёнкі на агульных сходах профсаюзаў, рабочых, колгасьнікаў правесьці масавыя даклады-дыспуты, шырока папулярызуючы задачы савецкага краязнаўства і выкрываючы шкодніцкую работу нацдэмократаў у краязнаўчай працы. РВК заслухоўвае справаздачныя даклады краязнаўчых арганізацый.

8. У час краязнаўчай пяцідзёнкі распачаць работу па арганізацыі раённых музэяў, а там, дзе яны маюцца, разгарнуць работу па карэннай іх перабудове і ператварэньні іх у масавых пропагандыстых-агітатараў за соцыялістычную перабудову раёну. Распачаць работу па арганізацыі вытворчых музэяў на прадпрыемствах, саўгасах і колгасах.

9. Адначасова з масавай работай па растлумачэньні задач савецкага краязнаўства разгарнуць работу па арганізацыі краязнаўчых ячэек на фабрыках, заводах, саўгасах і колгасах, шырока ўцягваючы ў краязнаўчую працу рабочых і колгасьнікаў. Канчаткова аформіць раённыя бюро краязнаўчых арганізацый.

10. Мясцовы і цэнтральны друк сыстэматычна высьвятляе вопыт месц па правядзеньні пяцідзёнкі і разгортваньні краязнаўчай працы па раёне. Краязнаўчыя арганізацыі пры шырокім удзеле грамадзкіх арганізацый выдзяляюць сталых корэспондэнтаў часопісу ЦБК "Савецкая Краіна".

11. Разгарнуць масавыя экскурсіі на фабрыкі, заводы, саўгасы і колгасы.

12. Для правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі прыстасаваць выезд на месцы інспэктароў НКА і работнікаў БАН.

13. Выдаць і разаслаць лёзунгі да краязнаўчай пяцідзёнкі.

14. На конфэрэнцыі асьветнікаў у студзені ставіць даклады аб краязнаўчай працы, на якіх шырока папулярызаваць школьнае краязнаўства.

15. Для правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі ў раёнах утвараюцца штабы ў складзе прадстаўнікоў: загадчык Культпропу РК КП(б)Б, прадстаўнік Райпрофбюро, РК Працасьветы, ЛКСМБ і краязнаўчых организацый.

Цэнтральнае Бюро
Краязнаўства.

## Плян працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук на 1931 г.

### 1. Агульнае палажэньне.

Бязьлітасна выкрываючы контр-рэвалюцыйны нацыянал-дэмократызм у краязнаўчай працы, рашуча праводзячы генэральную лінію партыі ў барацьбе за пролетарскую ідэолёгію, „увесь зьмест краязнаўчай працы ў краіне ў бягучы пэрыод павінен быць цалкам падпарадкаван інтарэсам соцыялістычнага будаўніцтва". „Толькі актыўнае служэньне інтарэсам дыктатуры пролетарыяту ў барацьбе за соцыялізм напаўняе краязнаўчы рух подлінна навуковым зьместам у галіне дасьледваньня прыроды, экономікі і грамадзкага жыцьця."

Усе краязнаўчыя організацыі павінны дабіцца „рашучага пералому ў краязнаўстве: ад саматужніцкай і бясплянавай, а па зьместу адарванай ад сучаснасьці работы яно павінна павярнуцца да навукова-дасьледчай работы ў галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, скарыстаньня мясцовых крыніц энэргіі, вырашэньня сыр'явой і жывотнаводчай проблемы, рацыяналізацыі пушнога і рыбнага промыслаў, лесаскарыстаньня, новабудоўлі (у тым ліку будаўніцтва гарадоў) у сувязі з барацьбой за новы быт і г. д., да організацыі конкурсу па монографічнаму вывучэньню фабрык, заводаў, колгасаў, саўгасаў, па складаньні краязнаўчых падручнікаў, адшуканьні карысных іскапаемых, зьбіраньні лекарскіх расьлін, выяўленьні новых прадметаў экспорту і г. д."

Савецкае краязнаўства, зьяўляючыся адной з форм актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, павінна ператварыцца ў подлінна масавыя організацыі барацьбітоў за ўсестаронынае вывучэньне і соцыялістычную перабудову свайго раёну, колгасу, прадпрыемства. „На сучасным этапе соцыялістычнай рэконструкцыі з асаблівай вастратой высоўваецца неабходнасьць вывучэньня і вучоту вытворчых сіл краіны і ўмоў разьвіцьця культуры. Работа гэта ня можа быць выканана аднымі дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі, калі да навукова-дасьледчай работы ня будуць прыцягнуты масы рабочых, сялян і савецкай інтэлігенцыі".

Разгортваньне краязнаўчай работы на фабрыках, заводах, колгасах і шырокае ўцягненьне ў шэрагі краяведаў рабочых, колгасьнікаў, стварэньне пролетарскіх кадраў у краязнаўстве — штодзённая работа ўсёй краязнаўчай сеткі.

„Нельга справу нацыянальна-культурнага будаўніцтва пакінуць у руках клясавага ворага. Трэба ўзяць нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў моцныя рукі комуністычнай партыі і кіраваць ім. Гэта азначае, што партыя павінна стаць на чале распрацоўкі раду пытаньняў, не палохаючыся таго, што гэта

пытаньне навуковае, што гэта пытаньне літаратуры, што гэта пытаньне мовазнаўства і г. д., бо на ўсіх вучастках культурнага фронту і культурнага будаўніцтва партыі прыдзецца кіраваць. У прыватнасьці, зусім неабходнай здаецца нам задача распрацаваць гісторыю Беларусі, яе экономіку і паставіць вывучэньне гэтых пытаньняў партыйным актывам, шырокімі партыйнымі масамі і беспартыйнымі рабочымі" (тав. Гей, даклад аб выніках Кастрычнікавага пленуму ЦК КП(б)Б). Краязнаўчыя організацыі, зьяўляючыся аднымі з масавых організацый пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, рашуча змагаючыся за пролетарскую культуру па зьместу і нацыянальную па форме, разгортваючы ўдарніцтва і соцыялістычнае спаборніцтва, мобілізуюць сябе на вывучэньне экономікі і гісторыі Беларусі.

## II. Організацыйныя пытаньні.

1. Сумесна з РВК праверыць склад членаў краязнаўчых організацый з мэтай ачышчэньня іх ад варожых нацыянал-дэмократычных элемэнтаў. Адначасова разгарнуць работу па росту краязнаўчых організацый за лік рабочых і колгасьнікаў.

2. Апрацаваць адзіны статут для ўсіх краязнаўчых організацый, палажыўшы ў аснову вытворчы прынцып і масавае разгортваньне краязнаўчай працы пры актыўным удзеле ўсіх краязнаўчых організацый у соцыялістычным будаўніцтве і барацьбе за генэральную лінію партыі.

3. Распрацаваць прымерны плян працы для раённага краязнаўчага таварыства і для краязнаўчых гурткоў фабрык, саўгасаў і колгасаў, разьлічаны на актыўны ўдзел у краязнаўчай працы рабочых і колгасьнікаў.

4. Пашырэньне школьнага краязнаўчага руху. Сумесна з навуковым мэтодолёгічным камітэтам, ЦБП пролетстуду, ЦБ юных піонэраў, ЦК ЛКСМБ і інспэктуры народнае асьветы павялічыць школьна-краязнаўчую сетку, заснаваўшы школьныя краязнаўчыя гурткі пры усіх ФЗШ, школе ШКМ, тэхнікумах і вышэйшых навучальных установах.

5. Сумесна з НКА правесьці ўключэньне ў навучальны плян ВНУ, тэхнікуму выкладаньня мэтодыкі краязнаўства.

6. Склікаць Усебеларускую краязнаўчую конфэрэнцыю-курсы з прадстаўнікоў краязнаўчых організацый на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах для падрыхтоўкі іх для масавай краязнаўчай працы.

7. Сумесна з культсэктарам ЦСПСБ у Менску організаваць кароткатэрміновыя краязнаўчыя курсы і сэмінары для рабочых з менскіх прадпрыемстваў па падрыхтоўцы краязнаўчых кадраў.

8. Правесьці праверку і ачыстку ад варожых элемэнтаў членаў-корэспондэнтаў ЦБК. Адначасова разгарнуць масавую работу па організацыі сеткі членаў-корэспондэнтаў на фабрыках, заводах, колгасах і саўгасах.

9. Правесьці раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі пры непасрэднай дапамозе з боку ЦБК і Акадэміі.

10. Правесьці абсьледваньне і жывое кіраўніцтва апаратам ЦБК ня менш 60 раёнаў БССР, у першую чаргу, больш далёкіх.

11. Прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні агляду соцыялістычнага вопыту ў сельскай гаспадарцы.

12. Сумесна з ВСНХ і Колгасцэнтрам організаваць і правесьці конкурс на лепшае апісаньне фабрык, заводаў, саўгасаў і колгасаў.

13. Наладзіць плянавую сувязь з камандаваньнем Чырвонай арміі і Асоавіяхэму для разгортваньня краязнаўчай працы сярод чырвонаармейцаў і мобілізацыі краязнаўчых організацый на практычную работу па абароне краіны.

14. Наладзіць цесную сувязь з ВСНГ, Дзяржплянам, культсэктарам ЦСПСБ, ЦК комсамолу, Колгасцэнтрам і інш. організацыямі з мэтай выпрацоўкі форм і мэтодаў удзелу краязнаўчых організацый у розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

15. Організаваць сувязь з цэнтрамі краязнаўчай працы ўсіх рэспублік СССР праз абмен выданьнямі і камандыраваньне прадстаўнікоў ЦБК у Маскву, Ленінград, Харкаў і др.

16. Правесьці работу па ўмацаваньні існуючых краязнаўчых музэяў і заснаваньні новых у раённых цэнтрах на прадпрыемствах, колгасах і саўгасах,ператварыўшы іх у актыўных агітатараў за соцыялістычнае будаўніцтва.

17. Сыстэматычна дапамагаць навуковым, гаспадарчым установам БССР і СССР у зьбіраньні навуковых матар'ялаў краязнаўчымі організацыямі БССР, трымаючы цесную сувязь з работамі катэдраў і інстытутаў БАН.

18. Як выезды работнікаў Акадэміі, ЦБК, так і організацыю спэцыяльных масавых сходаў скарыстаць для масавых дакладаў аб шкодніцкай контр-рэволюцыйнай працы нацыянал-дэмократаў у краязнаўстве, шырока популярызуючы савецкае краязнаўства і практычныя задачы па ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

19. Сыстэматычна трымаючы сувязь з яўрэйскім і польскім сэктарамі, разгарнуць краязнаўчую работу сярод нацыянальных меншасьцяй.

20. Разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых організацый.

21. Паставіць перад СНК БССР пытаньне аб уключэньні ў раённыя каштарысы на 1931 год спэцыяльных сум для краязнаўчых організацый. Паставіць пытаньне перад ВСНГ, Колгасцэнтрам і НКА аб сыстэматычнай матар'яльнай дапамозе масавым краязнаўчым організацыям на мясцох.

22. У мэтах мобілізацыі рабочых, колгасьніцкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вакол краязнаўчай працы і поўнай увязкі апош-

няй з соцыялістычным будаўніцтвам правесьці краязнаўчую пяцідзёнку.

23. Правесьці падрыхтоўчую працу па разгортваньні масавых краязнаўчых экскурсій.

### III. Мэтодычна-кіраўнічая праца.

1. Мэтодычна-кіраўнічая дапамога інструктажам (пісьмовым і жывым) усім краязнаўчым організацыям у справе вывучэньня: а) вытворчых сіл раёну, разьвіцьця прамысловасьці раёну і гораду; б) вывучэньня колгаснага руху; в) організацыі працы на прамасловых прадпрыемствах, колгасах і саўгасах; г) вывучэньня быту рабочых, колгасьнікаў; д) клясавай барацьбы ў раёне; е) мовы і савецкага фольклёру.

2. Падрыхтоўка да друку і выданьне програмна-мэтодычнага зборніку, разьлічанага, галоўным чынам, на дапамогу краязнаўцам, рабочым, колгасьнікам, комсамольцам на вытворчасьці.

3. Сыстэматычнае высьвятленьне мэтодычных пытаньняў у часопісу „Савецкая Краіна".

### IV. Навукова-дасьледчая праца.

1. Сумесна з раённымі краязнаўчымі організацыямі правесьці ня менш пяці экспэдыцый: па вывучэньні быту колгасьнікаў і рабочых, па дасьледваньні організацыі працы ў колгасах і прамысловых прадпрыемствах. Прыняць удзел у экспэдыцыях катэдраў БАН, а іменна—коопэрацыі і колектывізацыі, ботанікі, зоолёгіі і этнографіі.

2. Сумесна з ВСНГ, Інстытутам прамысловасьці, Колгасцэнтрам, Дзяржплянам распрацаваць конкрэтныя заданьні дасьледчай працы па вывучэньні вытворчых сіл раёнаў БССР.

3. Прыняць актыўны ўдзел у працы гістпарту ЦК КП(б)Б па вывучэньні гісторыі КПБ і рэволюцыйнага руху на Беларусі.

4. Організаваць і правесьці дасьледваньне наступных пытаньняў: а) соцыяльныя адносіны і клясавая барацьба ў колгасах; б) культура і быт у колгасах; в) соцспаборніцтва і ўдарніцтва на прадпрыемствах, колгасах і саўгасах і г) вывучэньне савецкага фольклёру.

### V. Выдавецкая праца.

1. Выдаць 12 нумароў часопісу „Савецкая Краіна" па шэсьць друкаваных аркушаў у сярэднім.

2. Выдаць зборнік програм і інструкцый краязнаўчай працы.

3. Выдаць па лініі ЦБК ня менш 10 популярных монографічных краязнаўчых апісаньняў фабрык, заводаў, саўгасаў і колгасаў. Адначасова разгарнуць працу па выданьні масавай краязнаўчай літаратуры мясцовымі краязнаўчымі організацыямі.

4. Зьмяшчэньне лепшых краязнаўчых прац у выданьнях БАН.

5. Апрацаваць і выдаць матар'ял агляду „Нашага Краю" брыгадай катэдры марксызму і ленінізму.

6. Выдаць масавую брошуру да пастаноўкі краязнаўчай працы ў БССР.

7. Выдаць зборнік для масавых экскурсій па БССР.

## Рэзолюцыя Слуцкай Раённай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.

Заслухаўшы даклад аб чарговых задачах краязнаўчай працы, агульны сход студэнцтва Слуцкага Пэдтэхнікуму адзначае, што, дзякуючы засьмечанасьці краязнаўчых організацый чуждымі, варожымі і нацдэмократычнымі элемэнтамі, краязнаўчая праца і краязнаўчыя організацыі (у прыватнасьці, Случчыны) не зьяўляліся барацьбітамі за пролетарскую культуру па зьместу і нацыянальную па форме; краязнаўчая праца была чужой і варожай рабочай клясе. Неадкладнымі практычнымі задачамі ва ўсёй краязнаўчай працы агульны сход ставіць перад сабой наступнае:

1. Увесь зьмест краязнаўчай працы павінен быць цалкам падпарадкаваны інтарэсам соцыялістычнага будаўніцтва, і толькі актыўнае служэньне інтарэсам дыктатуры пролетарыяту ў барацьбе за соцыялізм напоўняць краязнаўчы рух подлінна навуковым зьместам у галіне дасьледваньня прыроды, эканомікі і грамадзкага жыцьця.

2. Працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, рашуча выконваючы дырэктывы партыі, актыўна ўдзельнічаючы ў разгортваньні савецкага краязнаўства, краязнаўчыя організацыі Случчыны і пролетарскае студэнцтва тэхнікуму будуць бязьлітасна змагацца як з вялікадзяржаўным шовінізмам, гэтак і з усякімі спробамі контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму.

3. Разгортваючы ўдарніцтва і поўнасьцю ўключаючы краязнаўчую працу ў соцыялістычнае будаўніцтва, агульны сход неадкладнай работай па разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне лічыць неабходным правесьці наступнае:

а) сваечасова падрыхтавацца да правядзеньня краязнаўчай 5-дзёнкі, якую правесьці з 20—25/I-1931 г.; б) прыняць актыўнейшы ўдзел у правядзеньні 2-месячн. абмену вопытам соцыялістычнага будаўніцтва у сельскай гаспадарцы, адначасова разгарнуўшы масавую работу па організацыі краязнаўчых ячэек у колгасах, саўгасах і на прадпрыемствах; в) наладзіць сувязь з чырвонай арміяй і распачаць плянавую работу па ўдзелу краязн. організацый у абароне краіны, вывучэньні грамадзянскай вайны,

рэволюцыйнага і партызанскага руху; г) разгарнуць монографічнае і тэматычнае вывучэньне прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў, актыўна прымаючы ўдзел у конкурсе на лепшае апісаньне; д) рашучая ачыстка ад варожых социялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў; е) плян працы ўсіх краязнаўчых організацый раёну і раён. бюро павінен быць накірован на актыўнейшы ўдзел краязнаўчых організацый у выкананьні бальшавіцкае пяцігодкі ў 4 гады і падрыхтоўцы да бальшавіцкага севу; ж) уся краязнаўчая праца павінна праводзіцца пад кіраўніцтвам партыйнай організацыі і штодзённай сувязі з партыйнымі, савецкімі, профсаюзнымі і гаспадарчымі організацыямі раёну.

4. Выключыць з шэрагаў краяведаў контр-рэволюцянэраў, заараштаваных ДПУ, Пацэвіча, Кацерыніча і Селяніковіча, як здраднікаў дыктатуры пролетарыяту.

5. Прасіць урад нагрsucceeded дзіць Ордэнам Леніна слаўны орган дыктатуры пролетарыяту — ОДПУ.

6. Організаваць шэраг дакладаў і лекцый па высьвятленьні шкодніцтва нацдэмократаў у краязнаўчай працы.

7. Шырока высьветліць краязнаўчую працу ў друку.

8. Разгарнуць выданьне „Савецкай Случчыны".

9. Пролетарскае студенцтва тэхнікуму ў адказ на контр-рэволюцыйную работу нацыянал-дэмократаў організоўвае баявы і масавы атрад барацьбітоў за савецкае краязнаўства.

## Рэзолюцыя па дакладу П. Г. Сьмідовіча „Роля краязнаўства на шляхох социялістычнага будаўніцтва", прынятая IV Усерасійскай Краязнаўчай Конфэрэнцыяй

1. Краязнаўства ёсьць цалакупнасьць прац, якія вядуцца грамадзкімі сіламі ў галіне ўсебаковага (комплекснага) навуковага вывучэньня дадзенай тэрыторыі. Савецкія ўмовы высоўваюць на гэту працу шырокія масы працоўных гораду і вёскі (савецкая грамадзкасьць) і тым самым робяць краязнаўства адной з форм садзейнічаньня социялістычнаму будаўніцтву. Суб'ект савецкага краязнаўства—тыя самыя сілы, якія будуюць савецкую дзяржаўнасьць і савецкую гаспадарку. Гэтымі тэзамі вызначаюцца асноўныя заданьні, формуляваныя III Усерасійскай конфэрэнцыяй.

2. Пасьля III конфэрэнцыі краязнаўчыя організацыі на мясцох выразна сталі на шлях органічнай увязкі сваёй працы з социялістычным будаўніцтвам і паступова адкідваюць тое выпадковае аматарства, якое характарызуе краязнаўчы рух ранейшых гадоў. Шмат краязнаўчых організацый ужо зьвязалі сваю дасьледчую працу з працай мясцовых плянавых і гаспадарчых органаў і, ня гледзячы на значныя перашкоды (фінансавыя, у галіне кадраў і г. д.), змаглі досыць шырока яе разгарнуць; таксама ня гледзячы на амаль поўную адсутнасьць мэтодычнай літаратуры і мэтодычнага кіраўніцтва, яны здолелі ў шмат якіх выпадках падыйсьці да абслугоўваньня бягучых запатрабаваньняў гаспадарча-культурнага будаўніцтва свайго раёну.

3. Асноўныя задачы, высунутыя III конфэрэнцыяй, ня вырашаны ў той меры, якая адпавядала-б абхопу і тэмпам разгорнутага социялістычнага будаўніцтва. Конфэрэнцыя падкрэсьлівае наступныя асноўныя недахопы краязнаўчай працы:

а) слабае разьвіцьцё краязнаўчай нізавой сеткі, асабліва вясковых раённых ячэек, а таксама рабочых гурткоў, зусім нездавальняючую працу ў напрамку набліжэньня краязнаўства да шырокіх мас рабочых і сялян, слабае разьвіцьцё ў пераважнай большасьці школьнага краязнаўства і адсутнасьць працы сярод частак чырвонай арміі;

б) вельмі слабую ў большасьці выпадкаў сувязь у працы між асобнымі часткамі краязнаўчай організацыі;

в) адставаньне разьвіцьця краязнаўчай працы ў большай частцы АССР і АО і нагогул сярод нацменшасьцяй;

г) адсутнасьць сувязі прэзыдыуму ЦБК з працай членаў ЦБК, слабую актыўнасьць членаў ЦБК, слабую сувязь ЦБК з сваёй краязнаўчай сеткай;

д) адсутнасьць плянаў працы, зьвязаных з пяцігадовым плянам разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры, і ўсё яшчэ значную стракатасьць і выпадковасьць у асноўных галінах працы, прычым у большасьці організацый зусім слабая ўвага аддаецца працы ў галіне экономікі (прамысловасьць, колгасы і г. д.).

е) фінансавая база яшчэ застаецца вузкім месцам для ўсёй працы краязнаўчай сеткі, між іншым, для разгортваньня выдавецкай чыннасьці, якую трэба прызнаць невыстарчальнай і неадпавядаючай абхопу дзейнасьці краязнаўчых устаноў.

4. Прычынамі гэтых недахопаў зьяўляюцца, з аднаго боку, малая ўвага савецкіх органаў і грамадзкіх організацый да краязнаўства, слабае падтрыманьне, з другога боку, неадпаведнасьць існуючых краязнаўчых сіл (кадраў) значнасьці высунутых задач, дрэннае іх організацыйнае разьмяшчэньне. Організацыйныя пастановы III Усерасійскай конфэрэнцыі раздрабнілі невялікія сілы ЦБК між двох цэнтраў, адлучылі мэтодычную працу ЦБК ад організацыйнай. Праца апошніх гадоў па адміністрацыйнаму раёнаваньню няўнікнёна выклікала перабудову краязнаўчых організацый, дагэтуль няскончаную. Усё гэта не дало магчымасьці ўма-

цаваць сувязь ЦБК з краязнаўчай сеткай і тым самым пазбавіла, з аднаго боку, працу краязнаўчай сеткі сыстэмы і адзінства, а з другога—абясцэніла ў значнай меры працу ЦБК.

5. Новае ЦБК павінна аформавацца, як адзіны організацыйны і мэтодычны кіраўнічы цэнтр у Маскве. IV конфэрэнцыя даручае яму зьвязацца належным чынам з цэнтральнымі савецкімі ўстановамі і з цэнтрамі грамадзкіх (партыйных, профэсіянальных, копэрацыйных і др. організацый); аднавіць рэгулярнае скліканьне сэсій ЦБК і ўмацаваць сувязь сваёй працы з працай усяе краязнаўчае сеткі.

6. Краязнаўчая праца павінна заняць акрэсьленыя позыцыі па ўсіх асноўных галінах соцыялістычнага будаўніцтва, якімі ў сучасны момант зьяўляюцца: 1) рэконструкцыя і рацыяналізацыя прамысловасьці, новае прамысловае будаўніцтва; 2) разгортваньне гарадзкога будаўніцтва і будаўніцтва новых гарадзкіх і вясковых паселішч; 3) колектывізацыя вёскі, мэханізацыя і рацыяналізацыя ўсяе сельскае гаспадаркі на базе організацыі буйнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці; 4) разгортваньне вялікай культпрацы.

7. Культпраца профсаюзаў па ўстановах павінна папаўняцца працай краязнаўчых рабочых гурткоў. Гэтыя гурткі павінны ахапіць краязнаўчымі мэтодамі ўсебаковае вывучэньне ўсяе працы прадпрыемства (колькасныя і якасныя паказьнікі) у процэсе яго разьвіцьця ў залежнасьці ад усіх уплываючых умоў, значэньне данага прадпрыемства для данай тэрыторыі за ўвесь час яго існаваньня, умовы жыцьця і быт працоўных у сучасным і мінулым. У краязнаўчым кутку-выстаўцы і ў монографічным апісаньні дадзенага прадпрыемства фіксуюцца вынікі працы. Правільная пастаноўка працы ўцягне ў яе значныя кадры рабочых, моладзі, культ- і спэцпрацаўнікоў і ажывіць усю культурную працу на прадпрыемстве і ўзьніме актыўнасьць пролетарыяту ў пераводзе як працы прадпрыемства, так і ўсяго пролетарскага жыцьця на соцыялістычныя рэйкі.

8. Карэнная перабудова ў напрамку аграмаджваньня быту шырокіх працоўных мас цэнтру, шырокага гарадзкога будаўніцтва, пераплянаваньне гарадоў адпаведна патрэб гэтага будаўніцтва, у сувязі з чарговымі мерапрыемствамі па комплекснаму дабрабыту гораду і паасобных яго раёнаў, дыктуюць неабходнасьць концэнтрацыі на гэтых пытаньнях пільнай увагі краязнаўчых організацый, з уцягненьнем у працу шырокіх колаў організаванага гарадзкога насяленьня.

9. Усебаковае (комплекснае) вывучэньне мясцовага жыцьця краязнаўчымі гурткамі, якія організуюцца ў колгасах, саўгасах, сельсаветах, школах і г. д., пры актыўным іх удзеле ў будаўніцтве новых форм гаспадаркі і быту, пры фіксацыі вынікаў у краязнаўчых выстаўках-кутках і монографічных апісаньнях саўгасаў і колгасаў выкліча ўздым, згуртаваньне, актыўнасьць і сьвядомасьць працоўных і ўздым паказьнікаў іх працы. Разгортваньне гэтай працы прывядзе да шырокага ўцягненьня ў краязнаўства сялян, культ- і спэцпрацаўнікоў, сялянскай і школьнай моладзі і напоўніць новым зьместам політасьветпрацу на вёсцы.

10. Усе краязнаўчыя гурткі ў межах адміністрацыйнага раёну згуртоўваюцца ў раённыя краязнаўчыя аб'яднаньні. Пэрыодычныя раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі забясьпечваюць неабходныя ўмовы для плянавай працы і для ўвязкі яе з працай савецкіх і грамадзкіх організацый, ствараючы глебу для ўзаемнай інформацыі і супрацоўніцтва. Разгорнутая ў раёне краязнаўчая праца патрабуе організацыі свайго краязнаўчага раённага цэнтру і музэю.

11. На штогодных краёвых (абласных) зьездах краязнаўства і на зьездах у АССР падводзяцца вынікі зробленай працы ў вобласьці ў цэлым, апрацоўваюцца пляны далейшых прац, з далейшым зацьверджаньнем іх плянавымі і іншымі абласнымі савецкімі органамі і абіраюцца абласныя бюро краязнаўства. Задачы гэтых бюро—узгадніць працу краязнаўчых організацый у адзіным абласным пляне, праводзіць заданьні абласных органаў праз працу нізавых організацый, дапамагаючы ім і спрыяючы іх дзейнасьці. Абласныя бюро ўстанаўляюць у абласным маштабе неабходны контакт краязнаўчай працы з усёй савецкай працай і кіруюць на падставе дырэктыў Усерасійскіх конфэрэнцый і ЦБК усёй краязнаўчай працай у вобласьці. Абласное бюро абапіраецца ў сваёй працы на абласны навукова-дасьледчы інстытут краязнаўства і выдае абласны краязнаўчы часопіс.

12. Усерасійская краязнаўчая конфэрэнцыя склікаецца ня менш аднаго разу за 2 гады і абірае на гэты тэрмін ЦБК, якое зьяўляецца адзіным цэнтрам, які праводзіць прынцыповае кіраўніцтва (організацыйнае і мэтодычнае) усёй краязнаўчай працай. ЦБК выконвае, апрача гэтага, у рэспубліканскім маштабе ўсе функцыі абласных бюро краязнаўства.

13. Конфэрэнцыя лічыць, што прышоў час сыстэматычнай працы савецкага краязнаўства на шляхох соцыялістычнага будаўніцтва організаванымі адзіным плянам краязнаўчымі сіламі. Наяўныя сілы відавочна не выстарчальны і часткова няздольны для выкананьня гэтай ролі. Пытаньне аб новых краязнаўчых сілах, аб вылучэньні іх і аб набыцьці імі патрэбнай кваліфікацыі ў праверцы старых кадраў,—адным словам, пытаньне аб краязнаўчых кадрах павінна ўвесь час стаяць перад краязнаўчым актывам ва ўсіх галінах краязнаўчай працы. Як кожная краязнаўчая праца, так і ўся праца навукова-дасьледчых інстытутаў павінна гэтак ставіцца, каб у процэсе яе ствараліся умовы

для вылучэньня новых сіл, для іх належнай кваліфікацыі. Краязнаўства студэнцтва, моладзі, юнацкі рух павінны разгортвацца пад гэтым прынцыпам. Правільная пастаноўка школьнага краязнаўства адчыняе для будучага ў гэтым кірунку шырокія пэрспэктывы. Краязнаўчыя музэі ва ўсёй сваёй працы павінны кіравацца мэтай уцягненьня і падрыхтоўкі новых краязнаўчых кваліфікаваных кадраў. Організацыя ў гэтых мэтах спэцыяльных лекцый і курсаў у цэнтры і на мясцох зьяўляецца чарговай задачай краязнаўчых організацый і ўсіх іншых, непасрэдна зацікаўленых у краязнаўчай працы. Нельга шкадаваць сродкаў і сіл для выданьня вучэбнай краязнаўчай літаратуры масавага характару.

## Усім трэстам і сындыкатам, рэспубліканскім і мясцовым саветам народнай гаспадаркі і ўсім краязнаўчым організацыям.

*(Ліст старшыні ВСНГ і старшыні Цэнтральнага Бюро Краязнаўства).*

Пасьля заканчэньня адбудоўчага пэрыоду разьвіцьця прамысловасьці і завяршэньня прац па складаньні пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва асаблівае значэньне набывае задача паглыбленага вывучэньня нашых фабрык і заводаў.

Мы вельмі мала ведаем нашу прамысловасьць, вельмі мала вывучаем яе мінулае і сучаснае і гэта часта зьяўляецца перашкодай для правільнага плянаваньня яе будучага разьвіцьця.

Кожны завод, кожная фабрыка зьяўляецца ня толькі прамысловай, але і культурнай адзінкай, у якой вытворчыя, соцыяльныя, політычныя і бытавыя элемэнты цесна пераплятаюцца між сабою.

Гіганцкая програма прамысловага будаўніцтва, вызначаная ўрадам і партыяй, зьмяшчае ў сабе ня толькі програму фабрычна-заводзкага будаўніцтва. Новая прамысловасьць павінна стварыць новую соцыялістычную грамаду і новыя культурныя адносіны людзей.

З гэтае прычыны паглыбленае вывучэньне ўсяго прамысловага жыцьця, яго гісторыі, сучаснага, шляхоў будучага разьвіцьця (пяцігодка) зьяўляецца чарговай задачай нашага культурнага будаўніцтва.

Гэтыя шырокія задачы вывучэньня нашых фабрык і заводаў ня можна зьдзейсьніць адной якой-небудзь організацыяй. Неабходна абаперціся на шырокі масавы рух, выклікаўшы да жыцьця новыя кадры фабрычных дасьледчыкаў з шэрагаў рабочых і служачых.

Краязнаўчы рух зьяўляецца організацыяй народных дасьледчыкаў, і армія краязнаўцаў таксама павінна прыняць актыўны ўдзел у справе прамысловага будаўніцтва.

Вывучэньне паасобных фабрык і заводаў дасьць каштоўныя матар'ялы для вывучэньня нашай савецкай прамысловасьці, дасьць тыя дадатковыя весткі, якія неабходны для соцыялістычнага плянаваньня. У галіне гістарычнага вывучэньня асобных фабрык і заводаў трэба высьветліць, як працавала фабрыка да вайны і чым адрозьніваецца соцыялістычная вытворчасьць ад капіталістычнай. Высьвятленьне гістарычных прычын географічнага разьмяшчэньня заводу, яго сыравінных і збытавых сувязяй, умоў комплектаваньця рабочай сілы ў мінулым і сучасным зробіць больш абгрунтаваным плянаваньне заводу на далейшыя гады.

Побач з гэтым, неабходна зьбіраць весткі аб тым, як разьвіваўся рэволюцыйны рух у старыя гады на фабрыцы; асабліва падрабязна павінны быць вывучаны шматлічныя прыклады героізму і самаахвярнасьці рабочых, якія будавалі з разбураных вайной і інтэрвэнцыяй фабрык новую соцыялістычную прамысловасьць.

Выяўленьне ў памяці гэтага пэрыоду павінна быць у популярнай форме распаўсюджана сярод шырокіх колаў рабочых і служачых і зьявіцца найлепшым сродкам выхаваньня рабочай моладзі і стварэньня новай сьвядомай самадысцыпліны.

*Трэсты павінны падтрымаць ініцыятыву мясцовых працаўнікоў і краязнаўчых організацый па ўкладаньні монографічных апісаньняў фабрык і заводаў* і дапамагаць як у організацыі самых досьледаў, так і ў пропагандыцкай працы па популярызацыі сярод рабочых вестак аб гісторыі і сучаснай організацыі свайго заводу (наладжваньне лекцый, выставак, фабрычных музэяў).

Для захаваньня крыніц навукова-дасьледчых прац неабходны самыя беражлівыя адносіны да фабрычных архіваў у той частцы, дзе яны могуць быць скарыстаны ў дасьледчых мэтах.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства і яго Прамысловая сэкцыя маюць сваёй задачай распрацоўку пытаньняў тэорыі і практыкі монографічнага вывучэньня фабрык і заводаў і памагаюць організацыі такіх досьледаў.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства абвяшчае на 1930 г. конкурс на лепшае апісаньне фабрыкі, якое будзе прэм'явана. Апрача таго, вызначан грашовы фонд на друкаваньне лепшых прац.

Програмы і схэмы дасьледваньня дасланы Бюро і дасылаюцца па запатрабаваньні (Москва, Софийская набережная, 38).

Старшыня ВСНГ СССР
В. Куйбышаў.

Старшыня ЦБК РСФСР
П. Сьмідовіч.

## Пастанова ЎсеЦСПС аб дапамозе і садзейнічаньні краязнаўчым організацыям.

Прызнаючы вялікае грамадзка-карыснае значэньне краязнаўчых організацый у сувязі з разгортваньнем соцыялістычнага будаўніцтва і вывучэньня вытворчых магчымасьцяй у паасобных раёнах СССР, прапанаваць усім профорганізацыям аказаць садзейнічаньне працы краязнаўчых організацый па прыцягненьні рабочага актыву і па ўключэньні краязнаўчай працы па выкананьні вытворчага пляну.

Прапанаваць сэктару культпрацы ўвязаць працу з краязнаўчымі організацыямі.

Сакратар УсеЦСПС Н. Швэрнік.

23 сакавіка 1930 г.

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.
Рэдактар—Рэдакцыйная Колегія.

Менск. Друкарня БАН. Заказ № 627. Галоўлітбел 3718. Тыр. 1300 экз. 5 арк.

# ЗЬМЕСТ



## ХРОНІКА

Цана 50 кап.